Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 17 (4561) 30 красавіка 2010 г.

## У нумары:





# Літары-залацінкі

**Май для журналістаў — месяц падагульненняў. На яго пачатку шмат знакавых дзён. Блізіцца 5 мая — Дзень друку, а перад гэтым — 3 мая, Сусветны дзень свабоды друку. Ды 7-га — яшчэ і Дзень радыё. Напярэдадзе мы маем тыдзень, калі журналісты скіроўваюць увагу на свае надзённыя праблемы, аналізуюць свае знаходкі і недапрацоўкі. Традыцыйна ў гэты час штогод ладкуецца і міжнародная спецыялізаваная выстаўка "СМІ ў Беларусі". Пастаянныя яе ўдзельнікі — друкаваныя і электронныя СМІ, інфармацыйныя агенцтвы і інтэрнэт-правайдэры, распаўсюджвальнікі друку і рэкламныя арганізацыі, выдавецтвы і друкарні. На выстаўках жа, як вядома, паказваецца лепшае з таго, што маем. Досвед айчыннай журналістыкі прадастаўляецца ўвазе чытачоў, гледачоў ды слухачоў: сёлета ажно ў чатырнаццаты раз на XIV міжнароднай спецыялізаванай выстаўцы "СМІ ў Беларусі". А конкурсу "Залатая ліцера" — знакавай падзеі на форуме — шэсць гадоў.**

Сучаснае жыццё для нашых суайчыннікаў-творцаў якраз і ёсць той крыніцай, з якой яны чэрпаюць увесь свой журналісцкі матэрыял, факты, якія пасля складаюцца ў лагічны ланцужок спасціжэння зямнога быцця. Неаспрэчна: сапраўдны талент, творца не можа не адчуваць сваёй знітаванасці з гэтай зямлёй, са спадчынай і традыцыямі свайго роднага краю. Каторы год аналізую спаборніцтвы, арганізаваныя не толькі для прэсы, а і для тэлежурналістаў таксама, і вось дзіва: аднымі з найбольш запатрабаваных цяпер сталі намінацыі культурна-асветніцкага, гістарычнага кірункаў. Менавіта гэты ракурс выхоплівае са стракатасці нашага сучаснага побыту прафесійнае вока творцы. І ў гэтым — вялікі спадзеў на нашу свядомую будучыню.



"На працягу некалькіх гадоў у нас былі вельмі яркія публікацыі, якія атрымалі вялікі рэзананс, — расказвае пісьменніца Раіса Баравікова, галоўны рэдактар часопіса "Маладосць", на вокладцы якога даўно ўжо, ці не з першага года існавання конкурсу красуе "Залатая ліцера". — Скажам, той жа самы "Літоўскі воўк" Алеся Наварыча. Потым гэты твор стаў кнігай. Былі і іншыя яркія публікацыі. Часопіс заўважаўся, у нас імкліва рос тыраж, і я думаю, добра, што нашы літаратурна-мастацкія выданні трымаюцца навідавоку. І што нам гатовы працягнуць руку падтрымкі і Міністэрства інфармацыі Беларусі, і нашыя калегі з іншых выданняў, газет і часопісаў. Таму ўручэнне "Залатой ліцеры" — заўважная, яркая падзея. Як і "Тэлевяршыня", яна стала прыкметным брэндам. Гэта сапраўды свята, тым больш, што адбываецца яно падчас выстаўкі "СМІ ў Беларусі", да якой таксама ўсе выданні рыхтуюцца, і дзе заўсёды шмат гасцей. І на сённяшні дзень наш друк прыцягальны і заўважальны. Калі браць літаратурна-мастацкія выданні, то гэта найперш надрукаваныя творы, калі перыёдыка — то і пытанні эканомікі, палітыкі, і аналітычныя матэрыялы. Гэта і гісторыя нашага краю, і сучасны дзень, і вянцом усіх дэбатаў, узаемных кампліментаў з'яўляецца ўручэнне "Залатой ліцеры".

Насамрэч: апошнім часам вырасла, амаладзілася журналісцкая школа. Напэўна, яна адпавядае запатрабаванням новага стагоддзя, новага часу. "У нас у рэдакцыі і Віка Трэнас працуе рэдактарам аддзела паэзіі. І ў аддзеле публіцыстыкі студэнтка 4 курса Інстытута журналістыкі БДУ Дар'я Гуштын. Бачу, як яны пішуць. А гэта вельмі няпроста — вылучыць тое, што патрэбна. Можна расцячыся па паперы словам, можна скарыстоўваць эпітэты, інфармацыю расцягнуць на 4 старонкі. А яны выхопліваюць самае важкае і цікавае і ўмеюць таленавіта падаць. Таму да публікацыі адразу прыцягваецца чытацкая ўвага.

Для нас, як для літаратурнага часопіса, самае галоўнае — мастацкія творы. Мы не проста іх друкуем — шукаем. Пытаемся, хто што завяршае, што ў каго на стале. Бо канкурэнцыя існуе не толькі паміж прамысловымі таварамі, канкурэнцыя ёсць і сярод друкаванай прадукцыі. Прычым, канкурэнцыя вельмі і вельмі вялікая. Мяняюцца тэхналогіі, мы бачым, як змяняюцца нават вокладкі, аблічча выданняў, і таму мы імкнёмся да таго ж, каб вельмі прыстойна прадставіць беларускую літаратуру".

Чаго бракуе сучаснай журналістыцы, ці, іначай, што яна страціла?

Многія літаратары сходзяцца на адным: незаслужана прызабытыя жанры нарыса. Магчыма, гэта абумоўлена тым, што газетныя старонкі змяшчаюць як мага больш інфармацыі: жыццё імклівае, столькі падзей адбываецца ў ім! А інфармацыя ў журналістыцы вельмі важны момант. "А некалі ж быў не толькі нарыс, — працягвае Раіса Андрэеўна, — а мастацкі нарыс. Згадайма нарысы Веры Палтаран — яны як аповесці! Гэта расказы пра жывых людзей, пра герояў нашага жыцця. На сённяшні дзень такіх нарысаў мала. Мы, я маю на ўвазе грамадства, не павінны страчваць увагу да людзей. А гэта магчыма ў глыбокім нарысе, дзе бачны чалавек, гэта цэлая аповесць яго жыцця".

Часта згадваю словы Фазіля Іскандэра, які на старонках "Литературной газеты" разважаў пра пісьменніцкую працу і талент. У дачыненні да працы журналістаў, напэўна, яны прагучалі б так: выключнае майстэрства вызначаецца колькасцю кропак судакранання з чытачом на адзінку газетнай плошчы. А менавіта — колькасцю тых неабходных, важкіх, патрэбных, шчырых і дакладных слоў, якія хоча пачуць ад грамадства ды прачытаць у друку наш суайчыннік-беларус.

Сёння і само слова "журналіст" стала трывалым сінонімам слова "карэспандэнт" — чалавек, які заўсёды ў руху, у гушчыні грамадскага жыцця, незалежна, якіх сфер дзейнасці яно датычыць. Бясспрэчна, ёсць сярод майстроў пяра і аглядальнікі, і рэдактары, і крытыкі. Ды толькі нязменнаю застаецца сутнасць: адказная, узважаная, штодзённая, карпатлівая, удумлівая праца з фактам. Факт быў ёсць і будзе ў аснове журналістыкі.

Людміла Грамовіч, галоўны рэдактар "Зорькі", — паводле згаданага конкурсу, "лепшай газеты для дзяцей і моладзі" 2008 года — акцэнтуе ўвагу на творчых знаходках для нашых маленькіх чытачоў. Яшчэ за два гады да атрыманай "Залатой ліцеры" заўважным у колах прафесіяналаў, а асабліва ж саміх маленькіх чытачоў стаў беларуска-дацкі праект газеты "І ажываюць казкі Андэрсена". Створаны цягам гадоў "літаратурны куточак" займеў цяпер працяг у іншых ініцыятывах. Найперш — у літаратурнай гасцёўні, якую ў дзіцячай газеце вядзе Уладзімір Мацвеенка. На старонках газеты адбываецца проба пяра — друкуюцца тыя першыя, часам наіўныя творы школьнікаў, якія яны наважваюцца дасылаць у рэдакцыю. Тут жа робяць і самвыдатаўскія кніжыцы — простыя, на камп'ютэры. Але якая гэта падтрымка першага твора!

Працягваючы далучаць маленькіх чытачоў да кнігі, абуджаць цікавасць да сусветнай класічнай спадчыны, тут арганізавалі конкурс "Героі казак Астрыд Ліндгрэн" і зладзілі выстаўку дзіцячага малюнка, якая, між іншым, трапіла і ў Каралеўства Швецыю. Сучасныя юныя карэспандэнты прапануюць безліч цікавых тэм і рубрык — толькі паспявай іх рэалізоўваць! Між іншым, "Зорьке" — 65 гадоў. Як равесніца Перамогі, яна арганізавала 65 вялікіх і малых дабрачынных акцый. Пішацца, пішацца гісторыя сучаснасці.

Напэўна, і на сёлетнім конкурсе "Залатая ліцера" прагучаць найноўшыя, вабныя журналісцкія праекты. Спаборніцтва гэтага года будзе праходзіць не сярод выданняў, а па напрамках. Таму і вылучаны намінацыі "Лепшыя матэрыялы грамадска-палітычнай тэматыкі", "Лепшыя матэрыялы эканамічнай тэматыкі", "Лепшыя матэрыялы сацыяльнай тэматыкі", "Лепшыя матэрыялы культурнай і гісторыка-краязнаўчай тэматыкі" ды іншыя — усяго 22 намінацыі. Чакаюцца яркія калектыўныя працы, незабыўныя фрагменты індывідуальнай творчасці — з думкай пра тое, каб паказаць сучаснікам і захаваць для нашчадкаў гісторыю, якая пішацца тут і цяпер.

Ірына ТУЛУПАВА

Фота Кастуся Дробава

## Пункцірам

•Як вядома, у мінулую нядзелю адбыліся выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў XXVI склікання. На прэс-канферэнцыі старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына паведаміла, што паўторныя выбары ў Беларусі пройдуць на дзесяці ўчастках. У ходзе галасавання былі выбраны 21 293 дэпутаты. Усе 1495 мясцовых Саветаў абраныя ў паўнамоцным складзе. Сярод кандыдатаў былі і людзі творчых прафесій, у прыватнасці, журналісты, пісьменнікі, мастакі. Дарэчы, больш за ўсё выбаршчыкаў прыйшло прагаласаваць на ўчастку ў Віцебскай вобласці.

•Як паведамілі ў прэс-службе Кіраўніка нашай дзяржавы, Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ № 196 аб узнагароджванні дзяржаўнымі ўзнагародамі прадстаўнікоў розных сфер за высокае прафесійнае майстэрства, плённую працу ў дзяржаўных органах, узорнае выкананне воінскага абавязку, значны асабісты ўклад у развіццё сельскагаспадарчай, прамысловасці, транспарту, навукі, адукацыі, культуры. Сярод іншых, медаля Францыска Скарыны ўдастоены вядучы майстар сцэны Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Віктар Дашкевіч, вядучы майстар сцэны Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага Андрэй Душачкін, дырэктар сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 9 г. Салігорска Галіна Шаўчэнка.

•У адпаведнасці з указам Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі медалём Францыска Скарыны ўзнагароджаны дырэктар Навасібірскага цэнтра беларускай культуры Ніна Кабанава, старшыня савета рэгіянальнай нацыянальна-культурнай аўтаноміі "Беларусы Масквы" Сяргей Кандыбовіч, старшыня Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага Алег Рудакоў, паведамілі ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы.

•Як паведамілі з Міністэрства культуры Беларусі, адбылася сустрэча міністра культуры Паўла Латушкі і дырэктара Бюро ЮНЕСКА ў Маскве па Азербайджане, Арменіі, Беларусі, Рэспубліцы Малдова і Расійскай Федэрацыі Дэндзэва Бадарча. На абмеркаванне выносіліся пытанні сумеснай дзейнасці па правядзенні ў наступным годзе ў Мінску Рэгіянальнай кансультатыўнай сустрэчы экспертаў краін СНД з міжнародным удзелам па захаванні нематэрыяльнай культурнай спадчыны ў кантэксце Міжнароднай Канвенцыі аб ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны (2003 г.). Міністр культуры нашай краіны заверыў, што беларускі бок зацікаўлены ў правядзенні дадзенай канферэнцыі. Кіраўнік ведамства таксама падзякаваў за супрацоўніцтва, падтрымку і рэалізацыю сумесных праектаў Беларусі і ЮНЕСКА.

•Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь узнагародзіла нагрудным знакам "Выдатнік друку Беларусі" члена грамадскага аб'яднання "Саюз пісьменнікаў Беларусі" Ірыну Качаткову і загадчыцу фірменнага магазіна № 2 "Букініст" вытворчага рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Мінская фабрыка каляровага друку" Вольгу Раманаву.

Падрыхтавалі Бажэна СТРОК і Віктар ЗАЯЦ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Дзеля агульнай справы

Добрыя стасункі склаліся паміж членамі Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і абласной ветэранскай арганізацыяй. Абедзве арганізацыі надаюць немалую ўвагу патрыятычнаму выхаванню моладзі, прапагандзе здаровага ладу жыцця, цікавасці да чытання.

Так, у мінулым годзе пісьменнікі і ветэраны правялі паэтычны конкурс маладых літаратараў, прысвечаны 65-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Сёлета кантакты пісьменнікаў і ветэранаў значна пашыраны. Да свята Перамогі па ініцыятыве абласной ветэранскай арганізацыі складзена кніга твораў удзельнікаў гераічных баёў за вызваленне роднай зямлі ад ненавіснага ворага, і творчая пісьменніцкая арганізацыя аказала практычную дапамогу ў гэтым.

Днямі адбылася сустрэча кіраўніка Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзіміра Гаўрыловіча са старшынёй ветэранскай арганізацыі Міхаілам Ігнаценкам і яго намеснікамі — Героем Савецкага Саюза Георгіем Дзенісенкам і заслужаным ваенным лётчыкам СССР Валерыем Шукшыным. Размова ішла пра развіццё далейшых творчых кантактаў паміж арганізацыямі, стварэнне мастацкіх твораў пра палымяных барацьбітоў за нашу Радзіму, правядзенне сумесных патрыятычных акцый. Дарэчы, Георгій Дзенісенка з'яўляецца героем нарыса У. Гаўрыловіча "Вышыня Георгія Дзенісенкі", што быў надрукаваны ў мінулым годзе ў часопісе "Полымя".

Улад ПРЫАЗЁРНЫ

## Ад відавочцы

# Свята добрага настрою

У Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы адбылася сустрэча супрацоўнікаў рэдакцыі альманаха "Вожык" з чытачамі, сярод якіх былі даўнія сябры і аўтары гэтага папулярнага выдання.

З уступным словам да прысутных звярнулася дырэктар бібліятэкі Алена Кубышкіна. Вядучы вечарыны пісьменнік, супрацоўнік «Вожыка» Павел Саковіч нагадаў, што альманах рыхтуецца да свайго 70-годдзя.

У час імпрэзы гучала шмат жартаў, пародый, эпіграм і вясёлых музычных нумароў. Паэт Казімір Камейша, вядучы вожыкаўскай рубрыкі "Класікі смяюцца", прачытаў некалькі вясёлых гісторый са сваёй новай кнігі «Беларуская эпіграма». Паэт, празаік і мастак Сяргей Давідовіч пазнаёміў прысутных са сваёй гумарэскай, а Мікола Чарняўскі і Ніна Галіноўская павесялілі прысутных сваімі дасціпнымі вершамі. Невыпадковым было з'яўленне на сцэне і госця з Рагачова Міхася Слівы. Меж навіта ягонай кнігай "Віртуальнае каханне" РВУ "Літаратура і Мастацтва" аднавіла выпуск серыі "Бібліятэка "Вожыка".



Дарэчы, жадаючыя набылі яе з аўтографам аўтара. Артыст ТЮГа Мікола Лявончык выканаў некалькі пародый Міколы Шабовіча. На ўсіх выступоўцаў вядучы П. Саковіч прачытаў новыя "эпіграмы як рэкламы", а таксама сёе-тое з «дробнага» жанру — афарызмы і вытрымкі з дапісаў у рэдакцыю.

Мінскае гарадское аддзяленне СПБ сумесна з рэдакцыяй "Вожыка" знайшлі сродкі на 20 падпісак на альманах для пераможцаў забаўляльна-пазнавальнай віктарыны, якая прайшла тут жа пры актыўным удзеле прысутных.

На завяршэнне сваім жыццярадасным мастацтвам парадавалі слухачоў салістка Белдзяржфілармоніі Святлана Паўлішына і саліст беларускага Дзяржаўнага ансамбля «Свята» Вячаслаў Статкевіч.

Валянціна ГРЫНЧУК

На здымку: удзельнікі сустрэчы.

Фота аўтара

## Перспектывы

# Кітай стаў бліжэй

Пабудаваны новы мост беларуска-кітайскіх стасункаў. Гэтым разам — у мас-медыйнай прасторы.

Некалькі тыдняў таму ў Пекіне пачалі працу два новыя беларускія журналісты — Вольга Гальпяровіч і Раман Мышкоўскі. У Беларусі яны паспяхова працавалі на айчынных Першым Нацыянальным і канале "Культура" Беларускага радыё. Цяпер Вольга і Раман — супрацоўнікі Міжнароднага радыё Кітая (МРК), адной з самых буйных радыёстанцый у свеце.

Міжнароднае радыё Кітая — гэта дзяржаўная радыёстанцыя, якая рэпрэзентуе вялікую краіну ў свеце і агучвае яе інтарэсы ў самых розных галінах жыцця. Таму з'яўленне беларускай мовы як мовы вяшчання МРК і прыезд нашых журналістаў у сталіцу Паднябеснай, відавочна, адлюстроўвае зацікаўленасць Кітая ў паглыбленні двухбаковых кантактаў у сферы інфармацыйнага абмену, адукацыі і культуры.

Нашы журналісты займаюцца падрыхтоўкай артыкулаў для беларускамоўнай старонкі інтэрнэт-сайта радыёстанцыі, дзе наведвальнікі маюць магчымасць пазнаёміцца з галоўнымі падзеямі міжнароднага жыцця, больш глыбока зразумець асаблівасці традыцыйнай і сучаснай культуры Кітая. Гурманы нават даведаюцца, як прыгатаваць прысмакі, накшталт смажаных рэбраў пад кісла-салодкім соусам ці адметныя традыцыйныя стравы, характэрныя для ўсіх рэгіёнаў вялікага Кітая. І ўсё гэта стала магчымым, дзякуючы пляннай працы беларускай рэдакцыі МРК і Вольгі Гальпяровіч з Раманам Мышкоўскім, якія цяпер далучыліся да агульнай справы.

МРК вяшчае на замежныя краіны на пяцідзесяці трох мовах. Праграмы Міжнароднага радыё Кітая можна праслухаць у аб'ёме 1520 гадзін у суткі. Згубіцца сярод такой вялікай колькасці разнастайнай інфармацыі, цікавых ідэй у коле таленавітых журналістаў з Кітая і іншых краін для нешматлікай і маладой беларускай рэдакцыі, зразумела, вельмі проста. Але будзем спадзявацца на пашырэнне беларускамоўнай інфармацыйнай прасторы ў мас-медыйных абсягах Кітая.

Дарэчы, адна з самых старых і паспяховых замежных рэдакцый МРК — расійская рэдакцыя. Гісторыя яе існавання ўжо налічвае пяцьдзесят пяць год. За гэты час яна не толькі набыла аўтарытэт надзейнай крыніцы інфармацыі, але і неаднаразова выступала ініцыятарам правядзення сумесных кітайска-расійскіх мерапрыемстваў у галіне культуры і адукацыі. Так, у межах святкавання Года рускай мовы ў Кітаі ў 2009 пры падтрымцы МРК адбыўся конкурс з назвай "Да Расіі з любоўю. У Кітаі спяваюць рускія песні." 2010 абвешчаны Годам кітайскай мовы ў Расіі. З гэтай нагоды поруч з іншымі праектамі быў падрыхтаваны мультымедыйны курс кітайскай мовы для рускамоўных наведвальнікаў сайта МРК "Вывучаем кітайскую мову з расійскімі зоркамі". Па дадзеных расійскага партнёра МРК радыёстанцыі "Голас Расіі", з дапамогай гэтага онлайн-курса рускія карыстальнікі сайта змогуць пазнаёміцца са ста кітайскімі словамі. Кожнае слова будзе прэзентавана ў выглядзе відэароліка з удзелам знакамітых палітыкаў і артыстаў Расіі і выкарыстаннем дадзеных па гісторыі і культуры Кітая. "Тварам" праекта павінен стаць добра вядомы нам Джэкі Чан. Акрамя гэтага, расійская рэдакцыя МРК таксама выпускае часопіс "Подых Кітая".

Рускамоўны сайт Міжнароднага радыё Кітая пачаў сваю працу ў 1999 годзе, беларуская старонка з'явілася ў кастрычніку 2009 года. Гэта значыць, што ў беларускіх журналістаў МРК Вольгі Гальпяровіч і Рамана Мышкоўскага ёсць не толькі магчымасць эфектыўна выкарыстаць уласны вопыт і веды сваіх замежных калег, у тым ліку і расійскіх, але яшчэ і час, каб зрабіць беларускую старонку інфармацыйна насычанай і па-творчаму каларытнай. І магчыма, праз некалькі год у беларускамоўнай прасторы МРК можна будзе знайсці інтэрактыўныя заняткі па кітайскай мове з удзелам, напрыклад, Аляксандра Саладухі ці Ларысы Грыбалёвай.

Вераніка ЛАЗОЎСКАЯ,
Пекін, Кітай,
спецыяльна для "ЛіМа"

## Конкурсы

# З аўтографамі аўтараў

Рэдакцыя штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" нагадвае, што на пачатку 2010 года былі падведзены вынікі творчага праекта "Кнігі з аўтографамі пісьменнікаў Беларусі — у бібліятэкі краіны". Мэтай праекта было — вызначэнне ЦБС, дзе найлепш арганізавана падпіска на газету творчай інтэлігенцыі Беларусі "Літаратура і мастацтва". Пераможцамі сталі 7 цэнтралізаваных бібліятэчных сістэм краіны (Лагойская, Салігорская, Пінская, Навапалацкая, Буда-Кашалёўская, Ваўкавыская і Крычаўская). У сакавіку Лагойская і Салігорская бібліятэчныя сістэмы атрымалі унікальныя прызы — кнігі з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў, а разам з тым нашы шчырыя віншаванні і падзяку за плённае супрацоўніцтва. А ў бліжэйшы час рэдакцыя наведае і астатніх пераможцаў.

## За падзеямі

# Краязнаўчы форум

У навукова-метадычнай установе "Нацыянальны інстытут адукацыі" Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь адбылася Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя "Краязнаўства ў навучанні і выхаванні вучняў: вопыт і перспектывы развіцця".

Удзел у канферэнцыі прынялі больш за 80 навукоўцаў, метадыстаў, педагогаў-практыкаў з розных рэгіёнаў Беларусі. Падчас пленарнага пасяджэння, а таксама ў межах працы пяці секцый абмяркоўваліся актуальныя праблемы школьнага гістарычнага краязнаўства. Асобная секцыя была прысвечана развіццю літаратурнага краязнаўства ў школе. Калі на пленарным пасяджэнні літаратурна-краязнаўчая работа рэпрэзентавалася як сегмент культуралагічнай адукацыйнай парадыгмы, то ў межах працы секцыі яна разглядалася як важнейшы складнік адукацыйнага працэсу ВНУ. Вялікую цікавасць выклікалі і даклады, прысвечаныя асэнсаванню шэрага тэарэтыка-літаратурных пытанняў у краязнаўчым аспекце.

Найлепшым аргументам на карысць надзвычайнай актуальнасці, плённасці, своечасовасці канферэнцыі стала агучаная яе ўдзельнікамі падчас падвядзення вынікаў ідэя зрабіць падобныя сустрэчы рэгулярнымі.

І.Ш.

# Каштоўны пры́з

Першае знаёмства Міхася Пазнякова, беларускага пісьменніка, сакратара Саюза пісьменнікаў Беларусі, з дзецьмі Смалявічыны адбылося ў межах Тыдня дзіцячай і юнацкай кнігі, што падрыхтавала Смалявіцкая дзіцячая бібліятэка.

Міхась Паўлавіч быў, мабыць, самым цікавым госцем на гэтым Свяце кнігі. Пісьменнік зачытаў свае вершы, многія з якіх знаёмы дзецям. Ад сур'ёзных твораў, такіх як "Беларусь", "Юнаму сябру", "Родная мова!", Міхась Паўлавіч перайшоў да ўласных загадак, якіх у яго калекцыі больш як тысяча. А каму не спадабаюцца загадкі? Тым больш, што за правільныя адказы ўручаліся прызы — кнігі Міхася Пазнякова. Трэба адзначыць, што атрымаць прыз было няпроста, таму што ўсе загадкі былі даволі складаныя.

Юныя чытачы Смалявічыны вельмі ўдзячны Міхасю Паўлавічу за тое, што ён знайшоў час і магчымасць сустрэцца з імі і спадзяюцца, што гэта сустрэча не будзе адзінкавай.

Аляксандр МАРОЗАЎ

## Літ-абсягі

Мікалай Нікалаеў — родам з Гродзеншчыны. Закончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. Ён — аўтар шматлікіх манаграфій і навуковых прац, чалавек, які скрупулёзна даследаваў кніжную культуру нашага народа, шмат што можа сказаць пра рукапісную і друкаваную кнігу. Мікалай Віктаравіч надрукаваў звыш 200 навуковых прац. Цяпер працуе ў Нацыянальнай расійскай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу.

Усе тры прэзентаваныя кнігі самі па сабе унікальныя, і кожная мае адметную стылістыку, непаўторнае афармленне і змест. Але, бясспрэчна, найбольшую ўвагу прыцягнула да сябе нядаўна выдадзеная вялікафарматная кніга "Беларускі Пецярбург". Хроніка прысутнасці нашых землякоў у паўночнай сталіцы Расіі ўспрымаецца адначасова і як даведачнае, навукова-папулярнае, і як літаратурна-мастацкае выданне. Яна чытаецца лёгка: біяграфічныя звесткі пра больш як 2000 выдатных і неардынарных асоб падаюцца цікава. Прынцып выкладання інфармацыі — храналагічны.

Па прызнанні Мікалая Нікалаева, праца над рукапісам кнігі яго захапіла. Да рэвалюцыі 1917 года, прыкладам, Пецярбург быў па колькасці жыхароў-беларусаў самым вялікім у свеце гарадскім паселішчам. У ім жылі беларусы — артысты оперы, ваенныя інжынеры, проста цікавыя людзі, вынаходнікі. Адзін з малавядомых фактаў: сістэму ацяплення гістарычнага Ісакіеўскага сабора ствары́ў таксама беларус.

Зараз у Пецярбургу, паводле афіцыйнай статыстыкі, пражывае каля 65 тысяч беларусаў. Паводле ж неафіцыйных дадзеных, іх больш як 100 тысяч. Мікалай Нікалаеў зазначае: у нашых землякоў — вялікая грамадская сіла. У канцы выдання аўтар змясціў алфавітны карыстальнік, каб пры выпадку і настаўнікі з нашага краю маглі лёгка знаходзіць інфармацыю пра асоб — ураджэнцаў тых мясцін, у якіх настаўнікі жывуць і працуюць.

Што да выдання "Гісторыя беларускай кнігі", то задума яго таксама з'явілася нечакана. Некалі навукоўца запрасілі ў Гродзенскі дзяржаўны універсітэт пачытаць аднайменны спецкурс. Цягам гадоў назапашваўся матэрыял, і неўзабаве ён быў выдрукаваны асобнай кнігай. Першы том прысвечаны кніжнай культуры Вялікага княства Літоўскага.

На прэзентацыі ў Брэсцкай абласной бібліятэцы сабраліся аднадумцы, якія цікавяцца гісторыяй, неабыякавыя да кнігі і лёсу сваёй краіны. Вёў вечарыну кандыдат гістарычных навук, загадчык кафедры гісторыі славянскіх народаў БрДУ імя А.С.Пушкіна Аляксандр Вабішчэвіч.

Між тым, дакрананне да таленавітага сапраўды яднае людзей. Размова пра кнігу ахапіла і тыя аспекты яе існавання, якія зніталіся з яе цэласным успрыманнем. Прысутны на вечарыне кніжны мастак Генадзь Мацур (аўтар макетаў "Берасцейскіх кнігазбораў" і "Гісторыі беларускай кнігі") распавёў пра эстэтыку кнігі, пра асаблівасці дызайну і культуры ўзаемаадносін праз іх з чытачом.

Ірына ТУЛУПАВА

У Брэсцкай абласной бібліятэцы імя Максіма Горкага адбылася прэзентацыя трох кніг Мікалая Нікалаева. Гэта дзве аўтарскія кнігі — "Беларускі Пецярбург" і "Гісторыя беларускай кнігі, том 1: "Кніжная культура Вялікага княства Літоўскага". Ды зборнік, галоўным рэдактарам якога таксама з'яўляецца наш суайчыннік з Пецярбурга, — "Берасцейскія кнігазборы". Апошняя кніга выдадзена паводле аднайменнай канферэнцыі, якая адбылася ў горадзе над Бугам у 2008 годзе.



# Кніжная тройца

На здымку: М.Нікалаеў прэзентуе кнігу "Беларускі Пецярбург".

Фота аўтара

## Арт-лінія

Музыканты-выканаўцы нярэдка скардзяцца на недахоп арыгінальнага беларускага канцэртнага рэпертуару. Скаргі слушныя. Але прычына іх не толькі, а, мабыць, і не столькі ў тым, што кампазітары пішуць мала і нецікава. Часцей бывае так: сучасная музыка, якую з прыемнасцю ігралі б выканаўцы і слухала публіка, ёсць, а вось яе выданняў бракуе. У савецкі час ці не самай набалелай праблемай беларускай музычнай культуры была адсутнасць рэспубліканскага нотнага выдавецтва. Праблема ёсць і сёння, але дзякуючы дзейнасці дасведчаных у гэтай справе ініцыятыўных людзей удаецца зменшыць хранічны нотны дэфіцыт. Аднаму з новых выданняў — зборніку твораў Рыгора Суруса для драўляных духавых інструментаў "Звук одухотворённый" — прысвячаўся нядаўні канцэрт-прэзентацыя, што адбыўся ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

# Моладзі ёсць што іграць!



Вёў вечарыну ініцыятар і ўкладальнік выдання флейтыст Валерый Грыгор'еў, які выкладае ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі і загадвае духавым аддзяленнем Рэспубліканскага каледжа пры БДАМ. Ён распавёў пра разнажанравую творчасць заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Рыгора Суруса, у якой значнае месца належыць камерна-інструментальным п'есам і ансамблям. І звярнуў увагу на характэрныя для гэтага кампазітара арыгінальнасць мыслення, абумоўленую своеасаблівым успрыманнем свету, разуменне і далікатнае выкарыстанне беларускага фальклору, спалучэнне лірычных, драматычных, адухоўленых і экспрэсіўных вобразаў.

П'есы з новага нотнага зборніка "агучылі" маладыя выканаўцы — студэнты акадэміі і каледжа: лаўрэаты і дыпламанты музычных конкурсаў, вучні прафесараў Барыса Нічкова, Уладзіміра Скараходава, дацэнта Івана Брычыкава, выхаванцы класа Валерыя Грыгор'ева, Валерыя Майсеенкі. Флейта, габой, кларнет — сола і ў суправаджэнні фартэпіяна, а яшчэ — разам з фаготам, у квартэце, гучалі натхнёна і ярка. Некаторыя выступленні ўразілі віртуознасцю і артыстызмам. І ў кожным разе адчувалася, наколькі глыбока ведае аўтар прыроду інструментаў, іх тэхнічныя магчымасці, спектр штрыхоў і выразных прыёмаў... Апроч напісанага ў 2-й палове ХХ стагоддзя, прагучалі прэм'еры: "Саркастычнае скерца" для габоя, тры п'есы для габоя і фартэпіяна ("Вясёлы робат", "Адажыо", "Палёт матылька"), канцэртная п'еса "Глебаўскі калейдаскоп" (дзякуючы майстэрскай і тэмпераментнай ігры лаўрэата міжнародных конкурсаў пера шакурсніцы Юліі Шчасновіч, твор успрымаўся як эфектны маналог-рэфлексія флейты, інспіраваны незабыўнымі мелодыямі Яўгена Глебава).

Рыгор Сурус дзякаваў усім, хто спрычыніўся да выдання: БДУ культуры і мастацтваў, Інстытуту павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў, рэцэнзенту зборніка — загадчыку кафедры драўляных духавых інструментаў БДАМ Б. Нічкову, укладальніку В. Грыгор'еву, рэдактару С. Рыбаравай... Цёплым словам адзначыў кампазітар і ўдзельнікаў прэзентацыі, зазначыўшы, што музыку ён піша найперш для маладых выканаўцаў.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: вядучы прэзентацыі Валерый Грыгор'еў прадстаўляе новы нотны зборнік.

Фота Віктара Кавалёва

## Повязі

А нарадзіўся Р. Капусцінскі ў Пінску і жыў там да 1942 года. Ён усё жыццё захоўваў любоў да сваёй малой радзімы, прыязджаў сюды ў 1997-м у дні святкавання 900-годдзя Пінска, а потым праз два гады, калі знакаміты польскі рэжысёр Пётр Залускі здымаў фільм пра Капусцінскага "Другі каўчэг Ноя".

На адкрыцці выстаўкі дырэктар Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі Сяргей Вечар расказаў пра ўплыў творцы не толькі на польскую, а і сусветную журналістыку, падкрэсліўшы, што гэта не апошні супольны праект з польскім бокам у бягучым годзе. Намеснік дырэктара Польскага інстытута ў Мінску Веслаў Раманоўскі распавёў пра журналісцкі і літаратурны шлях Рышарда Капусцінскага і пра асабістыя стасункі з ім.

Намеснік міністра культуры нашай краіны Тадэуш Стружэцкі зазначыў, што постаць Р.Капусцінскага — адзін са шматлікіх выпадкаў, калі выхадцы з тэрыторыі сённяшняй Беларусі ўзбагачалі культуру іншых краін і свету ў цэлым. Дарэчы, у Пінску, на доме, дзе ён нарадзіўся, усталявана памятная дошка.

# Кароль рэпартажу

Нацыянальны гістарычны музей Беларусі гэтымі днямі прадстаўляе сумесны праект з Польскім інстытутам у Мінску — выстаўку "Паэт рэпартажу. Рышард Капусцінскі". Яна прысвечана выдатнай асобе, польскаму пісьменніку, выдатнаму дзеячу еўрапейскай культуры, рэпарцёру, фатографу Рышарду Капусцінскаму (1932 — 2007). Ён — аўтар 26 кніг, якія перакладзены на 34 мовы свету, лаўрэат амаль 50 айчынных і замежных прэмій і ўзнагарод, двойчы намініраваўся на Нобелеўскую прэмію па літаратуры, у 1999-м быў абвешчаны "журналістам стагоддзя". У Польшчы яго называлі "каралём рэпартажу". Ён наведаў больш як сто краін, працаваў у Афрыцы, сярэднеазіяцкіх савецкіх рэспубліках, Лацінскай Амерыцы, Блізкім Усходзе...



Рэдактар твораў Р. Капусцінскага Бажэна Дудка распавяла прысутным пра гісторыю стварэння дадзенай экспазіцыі, якая складаецца з 33 планшэтаў з дакументамі, фатаграфіямі, публікацыямі, цытатамі з кніг.

У адкрыцці выставы таксама брала ўдзел удава Рышарда Капусцінскага Аліцыя. Яна адзначыла, што Рышард, калі б быў жывы, то з вялікай радасцю прыехаў бы сюды разам з ёй, бо гэта яго любы родны край. Пані Аліцыя згадала некаторыя цікавыя моманты з іх сумеснага жыцця, як моцна хвалявалі мужа паездкі на малую радзіму. У яго былі намеры напісаць кнігу пра свой родны куток, ён збіраў разнастайныя матэрыялы, але, на жаль, не паспеў здзейсніць свае намеры, як і не паспеў пабачыць свае кнігі, перакладзеныя на беларускую мову. Але яго беларускамоўныя пераклады — гэта найбольш адпаведная форма памяці пра яго самога і пра яго захапленні, адным з якіх і было пісанне. У 2007 годзе РВУ "Літаратура і Мастацтва" выдала першую ў Беларусі кнігу Рышарда Капусцінскага — "Вяртанне".

Пасля паказу ў сталіцы, выстаўка, прысвечаная Рышарду Капусцінскаму, будзе экспанавацца на яго малой радзіме, у горадзе Пінску.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: Тадэуш Стружэцкі, Аліцыя Капусцінская і дырэктар Польскага інстытута ў Мінску Пётр Казакевіч.

Фота аўтара

## З-пад пяра

"Споведзь шасцідзесятніка" — так называецца праграма, з якой прыязджае ў Мінск легендарны рускі паэт Яўген Еўтушэнка. Выступленне адбудзецца ў канцэртнай зале "Мінск" 7 мая. РВУ "Літаратура і Мастацтва" прымеркавала да гэтай сустрэчы выданне новай кнігі паэта — "Сережка ольховая". Разам з вядомымі вершамі ў зборнік увайшлі і творы апошніх гадоў. Некаторыя з іх прысвечаны Гомельшчыне — радзіме прашчураў паэта, (бабулі Ганне і дзеда Ермалая з вёскі Ханічы Калінкавіцкага раёна). У кнігу "Сережка ольховая" ўвайшла і грунтоўная гутарка рэдактара аддзела паэзіі часопіса "Нёман" з Яўгенам Еўтушэнкам, якая адбылася ў Віцебску падчас правядзення "Славянскага базару" ў 2009 годзе. Няма ніякіх сумненняў, што зборнік "Сережка ольховая" прыцягне ўвагу многіх прыхільнікаў таленту знакамітага рускага паэта.

Мікола БЕРЛЕЖ

Між шырокіх палёў і пералескаў месціцца старажытная вёска Федзюкі, што на Ляхаўшчыне Брэсцкай вобласці. Тут нарадзіўся і вырас знакаміты кінарэжысёр Міхаіл Пташук. Нядаўна на доме нумар 48 па вуліцы Садовай, дзе правёў сваё маленства слынны зямляк, устаноўлена мемарыяльная дошка. Такая ж дошка ўстаноўлена на адной з вуліц раённага цэнтра. Ва ўрачыстым мерапрыемстве бралі ўдзел старшыня Беларускага саюза кінематаграфістаў Віктар Васільеў, удава рэжысёра Лілія Міхайлаўна, яе дачка Анжэліна, унук Міхась, прадстаўнікі раённай улады і грамадскіх арганізацый.

Фёдар ЛАПАНІК

У Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбылася абарона дысертацыі А.С. Івашчанкі "Паэтыка Алеся Разанава: эвалюцыя паэтычных формаў і літаратурны кантэкст". Работа вялася пад кіраўніцтвам М.Тычыны, загадчыка аддзела тэорыі і гісторыі літаратуры Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы. Апанентамі і рэцэнзентамі дысертацыйнага даследавання выступілі многія вядомыя беларускія філолагі – І. Багдановіч, А. Брадзіхіна, Я. Гарадніцкі, І. Штэйнер. Аўтарытэтнымі навукоўцамі былі адзначаны шматлікія бясспрэчныя вартасці работы А. Івашчанкі, яе наватарскі характар. Прысутнічаў на абароне дысертацыі і сам паэт, які ў звароце да слухачоў паспрабаваў патлумачыць сваё разуменне паэтычнай і навуковай творчасці, а таксама распавёў пра новыя кнігі, што неўзабаве будуць выдадзеныя ім у бліжэйшы час. Нагадаем, што гэта ўжо трэцяя кандыдацкая дысертацыя па творчасці А.Разанава, абароненая беларускімі літаратуразнаўцамі. Даследаванні яго паэзіі вядуцца і за межамі нашай краіны.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

У сталічным Палацы мастацтва ўпершыню ў Беларусі праходзіла Міжнародная выстаўка-конкурс сучаснага мастацтва пад назвай "Беларускі тыдзень мастацтваў". Гэтае прэстыжнае мерапрыемства ўваходзіць у Асацыяцыю тыдняў мастацтваў, якая ўключае выстаўкі ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, Браціславе, Алма-Аце, Варшаве, Кіеве, таму лаўрэаты беларускага тыдня могуць прадстаўляць свае арт-аб'екты і ў іншых краінах. У конкурсным журы былі вядомыя прадстаўнікі беларускай і замежнай арт-індустрыі. Напрыклад, скульптар Андрэй Мяцельскі з г. Дзяржынска, чые работы занялі першае месца ў намінацыі "Круглая скульптура", у якасці ўзнагароды атрымаў магчымасць прадэманстраваць свае творы на сёлетніх Тыднях мастацтваў у Расіі, Казахстане, Польшчы, Славакіі.

Лявон ЦЕЛЕШ

# Сонца ў кропельцы расы

На абшарах цудоўных мясцін Мядзельшчыны, на беразе вядомага на ўвесь свет возера, удала прытулілася прывабная "краіна дзяцінства". Круглы год не змаўкаюць тут вясёлыя галасы хлопчыкаў і дзяўчынак, якія з ахвотай прыязджаюць сюды на аздараўленне. А яшчэ — на другіх паглядзець і сябе паказаць. Бо ў гэтай амаль казачнай краіне з назвай "Нацыянальны дзіцячы адукацыйна-аздараўленчы цэнтр "Зубраня", у кожны заезд адбываецца хаця б адзін фестываль, кангрэс, турнір, злёт, форум ці алімпіяда не толькі рэспубліканскага, але нярэдка і міжнароднага маштабу. Вось і нядаўна ў гасціннай здраўніцы прайшоў конкурс паэтычнага майстэрства ў рамках больш маштабнага — "Юныя таленты Беларусі".



Свой творчы патэнцыял дэманстравалі вучні 8—9 класаў — пераможцы абласных, раённых і гарадскіх конкурсаў, фестываляў паэтычнага майстэрства. Лепш за іншых аказалася прадстаўленай у фінале Мінская вобласць, гонар якой адстойвалі пяць юных паэтаў. Перад конкурсам журы, якое ўзначальваў сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, паэт Мікола Мятліцкі, правяло майстар-клас. Цікаўная аўдыторыя налічвала не адну сотню хлопчыкаў і дзяўчынак. Напачатку Мікалай Міхайлавіч расказаў пра ўласны творчы шлях, выдадзеныя кнігі і зборнікі, спыніўся галоўны рэдактар часопіса "Полымя" і на якасцях, якімі павінен валодаць літаратар, каб знайсці сцяжынку да сэрцаў сваіх чытачоў.

Даволі прыязна сустрэла аўдыторыя і выступленне пісьменніка, галоўнага рэдактара часопіса "Гаспадыня" Зіновія Прыгодзіча. Не пакінулі члены журы без увагі і пытанні падлеткаў. Пасля шчырай размовы юнакі і дзяўчаты гуртам цясніліся ля Міколы Мятліцкага і Зіновія Прыгодзіча з просьбамі даць аўтограф.

Конкурс юных паэтаў праходзіў у канферэнц-зале корпуса "Лясны". Найперш улічваліся тэхніка і змест верша, глыбіня і актуальнасць твора. Крытэрыі ацэнкі былі адзінымі для ўсіх пяці намінацый: "Жыву ў Беларусі, і тым ганаруся", філасофская, грамадзянская, пейзажная, інтымная лірыка. У такім жа парадку яны і разглядаліся. Першай заяўку на прызавое месца зрабіла Анастасія Радзевіч з Браслава. Яна прачытала верш паводле адной з вядомых былін роднага ёй азёрнага краю "Старая легенда". Мікалай Міхайлавіч вітаў тых юных паэтаў, якія прысвячаюць свае вершы "абеліску за вёсачкай, прыгажосці навакольнай прыроды, адметным падзеям свайго краю, мясцовым паданням". Бо калі чалавек здольны ўбачыць сонейка ў маленькай кропельцы расы, гэта сведчыць пра яго творчае ўспрыманне ўсяго, што знаходзіцца побач.

Па выніках першай намінацыі Анастасія Радзевіч лаўрэў не здабыла, затое вызначылася ў інтымнай лірыцы — заняла трэцяе месца. А лепшым у намінацыі "Жыву ў Беларусі, і тым ганаруся" быў прызнаны лексічна багаты верш Тацціны Транчэўскай з вёсачкі Сіцы Докшыцкага раёна. Два другія месцы — у Караліны Галанавай з Магілёва і Ксеніі Тамковіч з Ліды, на трэцім — Кацярына Баблеўская з Заслаўя. Нямала добрых твораў, напоўненых унутраным святлом, прадставілі на суд журы ўдзельнікі конкурсу і ў намінацыі "грамадзянская лірыка". Тут таксама найвышэйшую ацэнку атрымаў верш прадстаўніцы з Віцебшчыны Валерыі Сітнікавай з Гарадка "Памяць": "Пакуль сцяжынка памяці бяжыць, // Мой клопат, каб яна не затравела...".

Важкія балы членаў журы дазволілі таксама заняць прызавыя месцы ўзгаданым ужо вышэй Тацціне Транчэўскай і Караліне Галанавай, Паўлу Козелу з Гродзеншчыны і Анастасіі Юрэвіч з Жодзіна. У філасофскай лірыцы не было роўных васьмікласніку Аляксандру Шкулепу з Гродна.

Крыху засмуціла пейзажная лірыка. З дваццаці двух удзельнікаў конкурсу трэцяя частка ў гэтай намінацыі наогул чамусьці не ўдзельнічала. Хаця непаўторная прыгажосць нашага краю, прывабныя мясціны літаратурна ва ўсіх кутках Беларусі нікога не пакідаюць раўнадушным. Лепш за іншых пра гэта сказала ў сваім вершы Ангеліна Іванюшава. Другое месца журы прысудзіла Валерыі Сітнікавай, трэцяе — Дар'і Новік.

А завяршала конкурс намінацыя "інтымная лірыка". Найбольш удала з вечнай тэмай чалавечых адносінаў удалося справіца Кацярыне Баблеўскай у вершы "Ты і я". Журы падкупілі свежыя і яркія радкі яе твора, уласныя перажыванні аўтара. Шчаслівай аказалася гэта намінацыя і для Ірыны Жарко з Нясвіжа, Марыі Федарук з Івацэвічаў.

У ходзе конкурсу Мікола Мятліцкі ацаніў творчасць практычна кожнага ўдзельніка, даў слушныя парады, па-сяброўску ўказаў на недахопы. Пры гэтым Мікалай Міхайлавіч адзначыў, што не ўбачыў тут ніводнага чалавека без літаратурных задаткаў. Значыць, ва ўсіх ёсць добрыя стартавыя магчымасці. І сення перамога ў намінацыях — не самае галоўнае, куды больш кошт мае вучоба на такім сур'ёзным узроўні.

Па выніках цудоўнага мерапрыемства, праведзенага на радзіме слыннага Максіма Танка, згодна з умовамі яго правядзення, пераможцам у кожнай намінацыі прысвоена званне "лаўрэат конкурсу". Апрача гэтага, старшыня журы заахвоціў іх галоўным прызам — "Хрустальны зубр". Тым, хто заняў другія і трэція месцы ўручаны дыпломы.

Павел ЖУКАЎ

На здымку: удзельнікам творчай сустрэчы — аўтографы Міколы Мятліцкага і Зіновія Прыгодзіча.

Фота аўтара

# Інтэрнет-кнігарня: двайная выгада

Працяг тэмы

Кніжны інтэрнет-гандаль развіваецца хуткімі тэмпамі, паступова захопліваючы прасторы Інтэрнета і экспансуючы частку рынку. Але ці карыстаюцца аматары чытання паслугамі кнігарняў новага тыпу? Чаму выбіраюць (або не выбіраюць) менавіта такі спосаб набыцця кніжных навінак? Якім бачаць гандаль кнігамі ў будучыні? Ці лічаць самі гандляры кніжных крамаў інтэрнэт-кнігарні сваімі канкурэнтамі? З гэтымі пытаннямі я звярнулася да пакупнікоў кніг, а таксама да дырэктара адной з мінскіх кнігарняў.

Арцём Жданок, менеджэр:

— Я часта карыстаюся паслугамі інтэрнэт-кнігарняў, бо ў звычайных крамах складана шукаць кнігі, асабліва калі патрэбна не распаўсюджанае выданне, а рэдкая калекцыйная кніга. Звычайныя крамы не могуць прадставіць каталог, дзе адлюстраваны ўвесь асартымент кніг. Я лічу, што будучыня за інтэрнэт-кнігарнямі, бо яны спрашчаюць жыццё звычайным людзям, даючы шэраг пераваг у параўнанні з кнігарнямі звычайнымі: каталог тавараў са зручнай сістэмай пошуку, больш шырокі выбар кніг і часопісаў, у тым ліку рэдкіх і калекцыйных, дастаўка на дом, часта бясплатная.

Мікалай Янкойць, студэнт:

— У інтэрнэт-кнігарні я набываў тыя кнігі, якіх не знаходзіў на паліцах звычайных кнігарняў, альбо тыя, што ў кнігарні каштавалі больш, чым у Інтэрнеце. Часам думка аб набыцці кнігі ўзнікала і з-за таго, што патэнцыйна цікавая кніга ў Інтэрнеце прадавалася па зніжанай цане.

Я сказаў бы, што перспектывы для развіцця ў інтэрнет-кнігарняў ёсць, але можна паглядзець з іншага боку: ці ёсць перспектывы ў кнігарняў звычайных? Многія эксперты сцвярджаюць, што спачатку продаж дыскаў, а затым і кніг стануць старамоднымі і непрыбытковымі заняткамі. Я лічу, што будучыня за бібліятэкамі і букіністыкай, а можа, і за буккросінгам (своеасаблівай сістэмай абмену кнігамі з дапамогай спецыяльных інтэрнэт-сайтаў). Звычайныя кнігарні ўжо зараз наўрад ці могуць атрымліваць значны прыбытак ад продажу кніг. А інтэрнэт-крамы (хоць і не хапае ім чароўнага друкарскага паху) могуць мець больш стабільны прыбытак. Адносныя перспектывы ў іх ёсць, але калі ўсё пачне хутка развівацца, то (як гавораць тыя самыя злыя эксперты) інтэрнэт-кнігарні станучь першымі ахвярамі.

Інна Ліж, перакладчык:

— Я ніколі не карысталася паслугамі інтэрнэт-кнігарняў. З аднаго боку таму, што асартымент звычайных кнігарняў і бібліятэк цалкам задавальняе мае патрэбы. З іншага боку, мне складана разабрацца з працэдурай заказу, сістэмай аплаты і дастаўкі пакупкі ў інтэрнэт-кнігарнях. Традыцыйныя крамы падаюцца мне больш надзейнымі. Некалькі разоў я апынулася ў сітуацыі выбару: адразу ж набыць кнігу праз Інтэрнет або крыху пачакаць яе з'яўлення на паліцах кнігарняў і, не вагаючыся, я выбірала другі варыянт. Кнігарні павінны існаваць, хаця б для таго, каб туды маглі час ад часу зазіраць такія кансерватары, як я.

Алена Тарасюк, дырэктар кнігарні "Кнігі & кніжачкі" — філіяла ААТ "Белкніга":

— Мы не лічым інтэрнэт-кнігарні сваімі канкурэнтамі. На сённяшні дзень існуе раздзяленне сферы ўздзеяння на чытача: праз Інтэрнет можна набыць кнігі іншага кшталту, не такія, што прадаюцца ў нас. Але і асобнікі, якія стаяць на паліцах нашай крамы, знаходзяць сваіх уладальнікаў і чытачоў. Звычайная кнігарня як з'ява не знікне, яна можа мірна суіснаваць са сваёй інтэрнэт-версіяй. Да таго ж кнігарня развіваецца, мадэрнізуецца. Ужо сёння ў нашай кнігарні пакупнік можа атрымаць камп'ютэрную даведку пра наяўнасць патрэбнай яму кнігі ў асартыменце мінскіх кніжных крамаў. Працуе і паслуга "Кнігі — поштай": пакупнік выбірае ў нас кнігу, а мы яе дасылаем па пошце. Але ў гэтым выпадку кошт пакупкі павялічваецца (даводзіцца плаціць за перасылку). Для спрашчэння і паскарэння працэсу пошуку асобнікаў у хуткім часе будзе створаны электронны каталог кніг, якія ёсць у нашай краме. У будучым плануем стварыць і інтэрнэт-версію нашай кнігарні.

Такім чынам бачым, што ў Беларусі інтэрнэт-кнігарні не экспансуюць рынак цалкам, а ствараюць так патрэбную пакупнікам разнастайнасць і свабоду выбару спосабу набыцця тавараў, пашыраюць іх асартымент. Пакупнік у гэтай сітуацыі атрымлівае двайную выгаду: у працэсе канкурэнцыі мадэрнізуюцца і звычайныя кніжныя крамы, спрашчаецца працэс пошуку кніг, а таксама зніжаецца кошт тавараў у інтэрнэт-кнігарнях, праводзяцца распродажы. А дзякуючы гэтаму спаборніцтву, абсталяваныя камп'ютэрамі гандлёвыя залы са звыклымі кніжнымі паліцамі і чароўным пахам друкарскай фарбы змогуць прывабіць не толькі кансерватыўных аматараў самастойнага ўдумлівага пошуку кніг, але і тых, хто арыентаваны на вынік, а не на працэс.

Марына ВЕСЯЛУХА



# На радзіме Васіля Віткі

У рэдакцыі "Вясёлкі" заўсёды памятаюць, што ля вытокаў папулярнага дзіцячага часопіса стаяў вядомы беларускі пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Васіль Вітка, які ўзначальваў выданне першыя 17 гадоў. У кабінеце сённяшняга галоўнага рэдактара Уладзіміра Ліпскага, таксама ўдастоенага такога ж лаўрэацкага звання, ёсць музейны куток, прысвечаны першапраходцу, дзе стаіць стол, за якім ён працаваў, пішучая машынка, некаторыя асабістыя рэчы.

У гонар Васіля Віткі заснавана і імянная літаратурная прэмія, якая штогод уручаецца лепшым аўтарам "Вясёлкі". Нярэдкія госці супрацоўнікі часопіса і на Случчыне – радзіме пісьменніка, дзе ўжо колькі год праводзяцца Віткаўскія чытанні, прымеркаваныя да дня нараджэння знакамітага земляка.

А нядаўна вясёлкаўцы – Уладзімір Ліпскі, Мікола Маляўка, Уладзімір Жук, Анастасія Радзікевіч і аўтар гэтых радкоў – наведалі вёску Еўлічы, дзе нарадзіўся Цімох Васільевіч Крысько, вядомы ў літаратуры як Васіль Вітка, сустрэліся з яго малодшай сястрой Таісай Долбік. З асаблівым хваляваннем сённяшнія супрацоўнікі часопіса разглядвалі фотаздымкі з сястрынскага сямейнага альбома, слухалі яе ўспаміны пра брата.

Наведалі яны таксама і вёску Акцябр, дзе месціцца цэнтральная сядзіба СВК "Вітка-Агра", названага так у гонар пісьменніка-земляка, выступілі перад вучнямі мясцовай базавай школы, дырэктар якой Ніна Харошка яшчэ сустракалася з класікам дзіцячай літаратуры.

Вучні не толькі слухалі гасцей, але і самі паказалі літаратурную кампазіцыю, падрыхтаваную на аснове "Вясёлкі", распавялі пра галоўныя рубрыкі часопіса і прачыталі творы з яго. А яшчэ наладзілі экскурсію па школьным гісторыка-краязнаўчым музеі, у якім асобная экспазіцыя прысвечана Васілю Вітку. Цяпер яна папоўніцца новымі экспанатамі: у дар музею вясёлкаўцы перадалі падшыўкі часопіса за 1963 год, калі ў ім рэдактарстваваў Васіль Вітка, і за 2007 год, падпісаны ўжо цяперашнім галоўным рэдактарам. Застануцца ў школе і кнігі гасцей-пісьменнікаў, а ў дзяцей – насценныя календары і кішэнныя каляндарыкі з атрыбутыкай "Вясёлкі" і аўтографамі вясёлкаўцаў.

Анатоль ЗЭКАЎ

На здымку: супрацоўнікі часопіса "Вясёлка" з сястрой Васіля Віткі.

Фота аўтара



Ісці ўздоўж берага
Дубравенкі вельмі лёгка —
яе хуткая плынь нібыта
нясе цябе на сваіх хвалях.
І пачуццё лёгкасці
ды палёту, лунання —
не высока ў небе, а ўсяго
толькі прыўзняўшыся
над зямлёю — не пакідае
праз увесь шлях.
Там, дзе Дубравенка
раскідваецца ўшыркі,
пры гасцініцы з назваю,
як і горада, Магілёў,
яна трохі спакайнейшая.
Але разумееш: спакой
гэты — пасля зімовага сну.
Яшчэ дзень-два —
і тут таксама пачнецца
няспынная хада вады,
як і на вузенькіх
участках Дубравенкі,
мо ў 2-3 метры шырыні.
А некалі яна была
суднаходная.

# На сутоцы Дубравенкі і Дняпра

Расказваюць, калі народжаны ў Магілёве, пазней праслаўлены чалюскінец Ота Юльевіч Шміт, у сваім дзяцінстве пераплыў Дубравенку, пра гэта напісалі ўсе газеты. А бацька стаў яго за гэта па-свойму, па-бацькоўску выхоўваць...

У сакавіку, калі пашчасціла здзейсніць гэта падарожжа, вада бурліла, гаманіла, неслася нечакана хутка і юрліва. Яна пераскоквала цераз парогі, смела кідалася пад масты і гэтак жа смела вынырвала адтуль. Бегла да Дняпра — быццам з усвядомленай перакананасцю — абавязкова сустрэнецца з ім, як было гэта здаўна, ля высокага ўзгорку са стромымі схіламі, дзе некалі стаяў умацаваны замак — ядро старажытнага горада.

Археолагі, якія мэтанакіравана вядуць раскопкі, высвятляюць, якім часам датаваць узнікненне горада.

Але бясспрэчна: тут, на сутоцы рэк Дняпра і Дубравенкі было замчышча, на тэрыторыі якога стаяў храм — царква. Знойдзеная пры раскопах плінфа — таму сведчанне.

"З 1992 года я пачаў праводзіць самастойныя археалагічныя работы на гэтай тэрыторыі, і ў першы ж сезон нам пашанцавала, — распавядае доктар гістарычных навук, загадчык кафедры Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А. Куляшова Ігар Марзалюк. — Дагэтуль лічылася, што тут, на гарадзішчы, нічога акрамя грунтовых могілак няма. Могілкі, безумоўна, у адной частцы гарадзішча ёсць, пахаванні знаходзяцца ў непасрэднай блізкасці ад знойдзенай плінфы, і гэта дазваляе казаць, што могілкі былі звязаныя з царквой, менавіта з Уваскрасенскай царквой, якая была вельмі "ветхая і ападшая", як напісана ў "Інвентары..." у 1604 годзе. Царква пасля, у XVII стагоддзі згарэла і потым ужо не ўзнаўлялася". Гэта — пра час больш позні.

Але зазвычай замкавая — яшчэ і першая гарадская царква. Ігар Марзалюк пацвярджае: і ён таксама думае, што згаданая царква, схаваная пад пластамі зямлі, — самая першая, якая была пабудавана на тэрыторыі дзядзінца.

Але яе падмурка археолагі на сённяшні дзень не знайшлі. Калі меркаваць па памерах плінфы, гэта царква XII стагоддзя. Плінфа тады была амаль аднолькавая па ўсім вялікім рэгіёне, надзвычай падобная да Полацкай. Якія былі памеры царквы, як яна выглядала і як называлася — невядома.



Лёс першага храма на сутоцы Дняпра і Дубравенкі пакуль загадкавы. Разгадваць яго будуць гісторыкі, якім давялося ўжо адстойваць неабходнасць захавання нацыянальнага помніка археалогіі. Справа ў тым, што ў цяперашнім парку імя М. Горкага — месца былога гарадзішча. Менавіта тут Прыход святых царскіх пакутнікаў і навамучанікаў ды спавядальнікаў XX стагоддзя ўзяўся будаваць новы храм.

І як часта бывае, працы вяліся, не зважаючы на кальтоўнейшы гістарычны пласт, што хавае ў сабе зямля. Капалі экскаватарам. "Мы ж капалі, перакапалі трасаючы кожную жменю зямлі рукамі", — распавядае Ігар Аляксандравіч. — Канфлікт з царквой быў на першай фазе будаўніцтва. Як і належыць, усё было ўзгоднена з уладамі і з Міністэрствам культуры Беларусі, мы правялі першую падрыхтоўчую фазу, раскопы, а потым па незразумелых прычынах, напэўна, вырашыўшы зэканоміць, пад царкву пачалі капаць бульдозерам, і тады давялося ўсё спыняць. Мы растлумачылі, што так рабіць нельга. Але частку слоя яны знішчылі. Дзякаваць Богу, цяпер тыя людзі сышлі. Святар жа сам шчыра зацікаўлены знайсці тыя старажытныя муры".

Калі знойдзецца падмурак былога храма — ёсць задума яго закансерваваць. Супольна з настаяцелем прыхода і яго прыхаджанамі ды гарадскімі ўладамі зрабіць фіксацыю над гэтымі падмуркамі. Магчыма, уладкаваць у перыметры новага храма рэшткі былога. Альбо на месцы драўлянага зруба — часовай цэркаўкі, якая дзейнічае цяпер, зрабіць сходні ды нешта кшталту агляднай пляцоўкі, каб можна было спускацца да старажытных рыштаванняў. Альбо пабудаваць над імі купал...

У храме, які будуецца, працы засталося няшмат: зрабіць адмысловыя царкоўныя завяршэнні — купалы. Як удакладніў настаяцель прыхода, гэта будзе храм-помнік усім навамучанікам і спавядальнікам XX стагоддзя.

Будаўнічыя працы вядуцца па праекце Уладзіміра Галушчанкі — архітэктара бабруйскай творчай майстэрні. Паводле яго задумы, храм гэты будзе невялікі, як капліца. Аднакупальны, без калон. Але светлы — за кошт шматлікіх прасторных акон. Уладзімір Галушчанка патлумачыў: раней вокны рабіліся маленькімі, быццам байніцы — у мэтах абароны. Цяпер гэта функцыя адпадае. Плошча будынка — прыкладна 150 — 200 квадратных метраў. Вышыня — 33 метры. Але ён узводзіцца на высокім беразе Дняпра — гэта яшчэ каля 30-40 метраў. Таму відаць храм будзе здалёк. Усё прадумана і ўзважана.

Але ўзнікае думка: чаму царква, якая ўзводзіцца цяпер, — у гонар навамучанікаў і спавядальнікаў XX стагоддзя? Храм узводзіцца на гістарычным месцы, то, можа, варта і ў назве ўлічыць гэтую акалічнасць? Згадаўшы слаўныя старонкі горада і той першы, пакуль невядомага лёсу храм?

І высокі ўзгорак, і старое гарадзішча, і прадметы-сведчанні пра першую царкву — усё ўваходзіць у комплекс, так бы мовіць, сучаснага парку адпачынку. У любое надвор'е сюды прыходзяць магіляўчане, бязмежна ўлюбёныя ў свой старажытны горад, прыходзяць на авеяны вятрамі гісторыі высачэзны вал над Дняпром. Пад шатамі старадаўніх дрэў, на самай вяршыні вала надбудаваная пляцоўка — балкон. На ім можна зручна ўзлакоціцца, аглядаючы неверагодна прыгожыя панарамы Задняпроўя. І рака тут выгінаецца, робіць свой круты паварот, так што Задняпроўе глядзіцца як выспа. Менавіта тут, у выгіне Дняпра да яго далучаецца Дубравенка. Неверагодна маляўнічы куток, які вабіць да сябе, чаруе. І як тут не падзівіцца на сваю мілую айчыну?!

...Магілёў — значны культурны цэнтр Беларусі, сталіца фестываляў "Магутны Божа" і "Залаты шлягер". А яшчэ — тут праходзяць фестывалі мастакоў і скульптараў. Каменныя вывы — скульптуры — "параскідаНыя" па ўсім горадзе: на вуліцах, у парку Горкага, каля універсітэта, і нават... у Дубравенцы. Сядзіць у прахалоднай вадзе русалка, быццам не з каменя, а зусім жывая. Каля яе любяць прыпынiцца і рабіць фотаздымкі-замалёўкі госці горада, вандроўнікі. А калі ідзеш у горад з парку Горкага ўздоўж ракі, то можна ўбачыць яе ж, водную красуню, якая сушыць на беразе свае доўгія валасы. А можа, гэта ўжо зусім і не русалка, а проста дзяўчына. Бо валасы яе такія густыя і доўгія, што закрываюць ногі, і нельга ўбачыць, ці ёсць там рыбін плаўнік. Але гэтую загадку разгадаць-такі лягчэй, дастаткова звярнуцца да мастака і запытацца пра яго задуму. А вось ці будуць разгаданыя загадкі, схаваныя ў гісторыі? І ці не пакінем нашчадкам новую, сучасную, назву храму на самым старажытным месцы горада?

Ірына ТУЛУПАВА

На здымках: царква, што будуецца; Русалка ў Дубравенцы.

Фота аўтара

«Круглы стол»

## Хваляваца— падстаў няма

У верасні 2010 года ўступае ў сілу Закон "Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі". У сувязі з гэтым ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" правяло "круглы стол" з удзелам прадстаўнікоў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнага інстытута адукацыі Беларусі, БДПУ імя Максіма Танка, Белдзяржтэлерадыёкампаніі.

Як паказвае практыка, найбольш пытанняў у сувязі са зменамі ў правапісе беларускай мовы ўзнікае ў бацькоў школьнікаў, а таксама абітурыентаў. Таму, пэўна, найбольшую цікавасць мае паведамленне Ганны Валочкі, загадчыка лабараторы гуманітарнай адукацыі. Па яе словах, ужо амаль для ўсіх класаў агульнаадукацыйных школ выдадзены падручнікі па беларускай мове і літаратуры, складзеныя з улікам зменаў у правапісе. Падрыхтаваны да выдання арфаграфічны слоўнік беларускай мовы для агульнаадукацыйных устаноў. У хуткім часе будзе выдадзены і даведнік па беларускай арфаграфіі і пунктуацыі. Асаблівасць гэтага даведніка ў тым, што, акрамя правілаў, у ім змешчаны каментарыі аўтараў. Адзначыла Ганна Міхайлаўна і тое, што на засваенне новых правілаў Міністэрствам адукацыі вызначаны пераходны перыяд у 3 гады: з верасня 2010 г. да верасня 2013 г. На працягу гэтага тэрміна памылкі, зробленыя вучнямі без уліку новых правілаў арфаграфіі, будуць выпраўляцца настаўнікам, але пры выстаўленні адзнак улічвацца не будуць. Гэта датычыцца і заданняў для цэнтралізаванага тэсціравання, у іх не будуць уключаны словы, правапіс якіх зменены. Да таго ж распрацаваны вучэбна-метадычны комплекс факультатыва па арфаграфіі, які могуць наведваць вучні ўсіх класаў сярэдняй школы.

Удзельнікі "круглага стала" абмяркоўвалі і шырыню выкарыстання беларускай мовы. Ганна Гамеза, галоўны спецыяліст упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, адзначыла, што ў беларускім культурным асяроддзі родная мова прысутнічае: яна шырока ўжываецца ў тэатрах (каля паловы пастановак праходзіць на беларускай мове), бібліятэках (пры афармленні стэндаў), музеях.

Язэп Супрановіч, прафесар кафедры агульнай біялогіі БДПУ імя Максіма Танка, падзяліўся вопытам чытання лекцый на беларускай мове, даў некалькі парад пачаткоўцам, якія толькі пачынаюць размаўляць па-беларуску.

Марына ВЕСЯЛУХА

Традыцыі і сучаснасць

На філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта прайшла "Беларуская вечарына-3", эпіграфам да якой сталі словы Янкі Лучыны "Мы любім і цэнім, бо яны нашы!" Вечарына сабрала ў зале многіх маладых аматараў беларушчыны. Імпрэзы такога кшталту ўжо сталі на факультэце традыцыйнымі, у іх з ахвотай прымаюць удзел студэнты розных курсаў усіх аддзяленняў філфака.

Вечарынкі — гэта даўні звычай вясковай моладзі. Яны, як і ігрышчы, першапачаткова асуджаліся царквой. З XIX ст. забаўкі пачалі спалучаць з працай: жанчыны збіраліся ў адной хаце і не проста спявалі, але і пралі, вязалі. У пачатку XX ст. пачалі праводзіць беларускія вечарынкі больш высокага ўзроўню, пра якія пісаў Янка Купала, якія аглядаў на старонках "Нашай Нівы" Сяргей Палуян. Гэту добрую традыцыю працягваюць на філфаку БДУ і сёння.

# Свята беларускай культуры

Як заўважыў вядучы, ініцыятар і арганізатар імпрэзы Ігар Запрудскі, ужо гісторыяй стала першая беларуская вечарына, што прайшла на філфаку два гады таму і мела назву "Неэмблематычны Багушэвіч". Тады студэнты спрабавалі актуалізаваць спадчыну пачынальніка беларускай літаратуры. У мінулым годзе гэта была гарэзлівая вечарына-рэтраспекцыя. "Беларуская вечарына-3" стала своеасаблівым святам маладой беларускай культуры.

У пачатку імпрэзы гледачы ўбачылі пастаноўку старажытнай і ў той жа час сучаснай батлейкі. Яе героямі выступілі традыцыйныя персанажы: Анёлы, Студэнт, Лекар, Сесія...

Імпрэза была праведзена згодна з "правіламі" нацыянальных святаў такога кшталту. Тут можна было ўбачыць (праўда, толькі на сцэне) хлопцаў і дзяўчат у нацыянальных строях. Гучалі беларускія народныя песні ў выкананні гурта "Студэнцкае свята", сумеснага хору студэнтаў і выкладчыкаў; госці з Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка паказалі інсцэніроўку ўсім вядомай песні "Біла дзеўку маці".

Не абышлося свята без тэатралізаванага прадстаўлення, якое стала цэнтральным момантам вечара. Адмысловая казка "Пра барацьбу дабра і ліха", а дакладней пра перапіс вядомых літаратурных герояў добрымі і злымі сіламі, выклікала сапраўдныя авацыі аўдыторыі.

Напрыканцы вечарыны ўсе ўдзельнікі разам з гледачамі выканалі песню гурта NRM "Тры чарапахі", якая ўжо стала своеасаблівым гімнам беларускай моладзі.

Марына ВЕСЯЛУХА

# Няшчасце вяртання

Не надта люблю беларускую прозу пра вёску. Памятаю, як тугавата, толькі каб быць абазнаным у класіцы, дачытваў некалі палескую хроніку Івана Мележа, напружваючыся задоўгімі апісаннямі вясковага побыту і маладынамічным сюжэтам гэтага аб'ёмнага твора. Прыкладна тое самае адчуваў пры чытанні трылогіі Якуба Коласа "На ростанях". Такім чынам беларускія класікі фармiравалі ў мяне стэрэатып беларускай вясковай прозы: няспешнай, зацягнутай, занадта пільнай да побытавых дэталяў і небагатай псіхалагізмам.

Прынцыпова інакш глядзіцца аповесць Андрэя Федарэнкі са знакавай назвай "Вёска". І дзіўна чуць параўнальны аналіз некаторых крытыкаў пра нібыта сюжэтныя і ідэйныя паралелі са знакамітай трылогіяй Коласа. У творы варта вылучаць галоўны пасыл, дзеля чаго ён напісаны і пра што, па сутнасці, ён. А твор Федарэнкі, у адрозненне ад твораў нашых класікаў на вясковую тэму, зусім не пра вёску, па вялікім рахунку. А пра пакуты і блуканні душы галоўнага героя, чалавека выключнага, нешараговага. Гэта выразны экзістэнцыйны твор, з няспынным, напружаным, хваравітым корпаннем у сваім "я" і супрацьпастаўленнем свайго эга сусвету, хоць і звужанаму да межаў вёскі і ўспамінаў пра нядоўгае сталічнае жыццё.

Галоўны канфлікт аповесці ў вяртанні Антона Васкевіча ў родную глухую вёску – пасля таго, як ён быў адлічаны з інстытута ў 1990 годзе за празмерна беларускамоўныя настроі. Аднак пакуты і шуканні героя, як хутка высвятляецца, зусім не маюць нацыяналістычнага напрамку, яны, калі можна так сказаць, агульначалавечыя і таму могуць быць блізкія кожнаму. Герой вяртаецца ў вёску халоднай снежнай зімою, і першы сустрэты ім зямляк на вакзале — мясцовы ціхі вар'ят Пульс. Гэты эпізод сімвалічны і закліканы абвастрыць дэпрэсію Васкевіча: панылая зімовая дарога, сцюжа, Пульс на санках коціць свой пажытак, і ў памяці разгортваецца рэтраспекцыя ранейшых гадоў, дзяцінства, юнацтва, калі Пульс быў такі самы і ўсё вакол было гэткае ж. Тая нязменнасць і звязаная з гэтым бесперспектыўнасць сваёй будучыні прыгаломшвае Васкевіча. І атрымоўваецца, што ён едзе ў родную хату да роднай маці, як на катаргу. Ён загадзя ведае, як бязрадасна, халадна, няўтульна і самотна там будзе. Тут усё бы замёрла, спынілася ў сваім развіцці. А яго маладая, дапытлівая душа шукае дынамікі, працягу і перспектывы. Іх у роднай вёсцы не будзе, герой гэта цудоўна ўсведамляе. І таму, нібы асуджаны, цягнецца за санкамі вясковага вар'ята па зімовай дарозе.

Увесь далейшы ход аповесці прысвечаны таму, што галоўны герой шукае прасветліну ў сваім жыцці. Чапляецца за яго ўсімі магчымымі спосабамі, спрабуючы суцішыць сваю маркоту, напрыклад, тым, што прыйдзе вясна і ён выправіцца на такую любімую з дзяцінства рыбалку, ці ў грыбы... Але тое, што радавала ў дзяцінстве, не прыносіць Васкевічу звыклых эмоцый. Усяму, так бы мовіць, свой тэрмін. Жыццёвая праграма вымагае руху і развіцця; дзяцінства, юнацтва і звязаныя з імі натуральныя эмоцыі ўжо не вернеш. І герой, як чалавек разумны, гэта бачыць ад пачатку, але спрабуе сябе падмануць.

Адсюль і каханне да школьніцы з ненадзейнай сям'і, якое адбываецца ў бібліятэцы, куды Васкевіч уладкоўваецца працаваць. Каханне зноў жа бесперспектыўнае, як і ўсё далейшае жыццё героя. Ён хапаецца за саломінку, нібы тапелец. А часам проста плыве па цячэнні, па нашай звыклай традыцыі "забываючыся" алкаголем. Гэта хутка пераходзіць у звычку, патрэбу. Васкевіч гэта бачыць, бачыць гэта і маці. Ён злуецца за гэта на яе, на сваю слабасць... Цяжкі псіхалагічны стан абвастраецца тым, што Васкевіч відавочна губляе сябе, таго палкага і дапытлівага маладзёна, які некалі выправіўся ў Мінск калі не з напалеонаўскімі, то з даволі смелымі планамі. Тут, у вёсцы, герой засынае, упадае ў нейкую летаргію, хоць і рухаецца, і дзейнічае, і нават ходзіць на працу. Гэты сон перабіваюць пакутлівыя енкі яшчэ не да канца памерлай душы: для чаго я жыву, які ў гэтым сэнс і чаму маці, надрыўна і тупа працуючы ўсё жыццё, пра гэта ніколі не задумваецца? Дачасна змарнелая ад вечнай фізічнай працы, яна, тым не менш, як здаецца герою, не пакутуе душэўна, бо не мучыць сябе адвечнымі пытаннямі "для чаго?" і "навошта?". Не пакутуе і сусед Пульс, як бы ахінуты сваім вар'яцтвам ад гэтых пытанняў.

Праз год Васкевіча аднаўляюць у інстытуце, бо змянілася палітычная сітуацыя, распаўся Савецкі Саюз. Ці прынесла гэта яму радасць? Сумняваюся. Бо ад сябе не ўцячэш, а ў Васкевіча быў час у сябе зазірнуць. Таму сімвалічнымі падаюцца апошнія радкі аповесці: "Нічога гэтага Васкевіч ужо не чуў і не бачыў, у паўцёмным вагоне ён шукаў сваё месца".

Міхась ЮЖЫК

# Светлы вір пачуццяў




Розныя бываюць віры. Адзін так налягае сваёй каламуццю на дно, што яго і не відаць і ў ягонай вадзе не ўбачыш нічога апрача пены. А другі закручваецца спакваля, бруючы з жоўтага пясчанага дна, ціха варушачы кожную пясчынку і травінку і светла прасвечваецца, каб ты зачаравана назіраў яго і наталяўся ім.

Новы зборнік вершаў і прозы лаўрэата абласной літаратурнай прэміі імя У.Караткевіча Вольгі Русілкі "В.І.Р." — якраз такі. Па чысціні пачуццяў, па іх глыбіні.

Мая малодшая каляжанка па літаратуры ўсё сваё свядомае жыццё звязала з родным матчыным словам, прыручае яго і навучае яму іншых. Кандыдат філалагічных навук, дацэнт, загадчык кафедры беларускай літаратуры Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя Пятра Машэрава робіць усё сказанае вышэй упэўнена і грунтоўна.

Дык вось, трэцяя па ліку кніжка яе адметная сваёй жыццёвай напоўненасцю, шчырасцю і непасрэднасцю. Адзін з класікаў неяк сказаў, што каб пісаць традыцыйныя вершы, трэба мець вялікі талент.

Вольга Русілка — творца таленавіты. У яе ўладзе і магчымасцях захапіць спаконвечным рыфмаваным вершам. Цытаваць шмат не буду, але вось такія радкі ў пацвярджэнне сказанага нагадаю:

У якія халодныя далі
Занясло мой зялёны лісток
Ад двара, дзе дзіцячы слядок
На фундаменце не зараўнялі?
Як заклён, ён вяртае з дарог,
І пакуль мяне мама чакае,
Хоць слязінкай,
што з вейкі злятае,
Я ўпаду на бацькоўскі парог.

Паэтычны вопыт аўтаркі дазваляе захапіць чытача санетамі і трыялетамі, свабодным вершам, празаічна-лірычнай замалёўкай і нават часам нечым дужа мадэрновым. Але ўсяму пералічанаму, у тым ліку і авангарднаму, ужо не адна сотня гадоў, а значыць і ён — традыцыя. Чалавек, асабліва жанчына, любіць гульню, таямніцу. І няхай сабе. Толькі, каб ва ўсім гэтым быў нейкі сэнс, а не здубавецце некаторых сённяшніх маладых, якія так загульваюцца, што і самі не ведаюць пра што, каго і навошта пішуць. У нашым выпадку, дзякуй Богу, наадварот — хаця б па гэтых радках мяркуючы:

Калега, сябра, аднадумца,
Не бойся.
Я не ўмею помсціць.
Я проста заключу цябе ў двукоссе.
І клічнік — небяспекі знак.

Прываблiваюць змешчаныя ў зборніку кароткія навелы, хутчэй — абразкі. Яны падгледжаныя ў жыцця і вельмі праўдзівыя, з добрым гумаркам. Не магу ўтрымацца, каб не прывесці для прыкладу такую вось замалёўку: "Падвесялелую Райку (прыбіральшчыцу) запрасіў на танец загадчык РАНА і думаючы, што яна настаўніца роднай мовы, папытаўся: — А чаму вы звязалі свой лёс з беларускай мовай? Што вам у ёй асабліва падабаецца? Пасмялелая Райка падміргнула начальніку: — Давальны склон!"

На заканчэнне скажу: каб у беларускай мове райкам і пецькам падабаўся не толькі давальны склон, нам, паэтам і пісьменнікам, трэба імкнуцца пісаць вершы і прозу цікава, стваральна і творча. Так, як робіць гэта мая зямлячка...

Прабачце, ледзь не забыўся сказаць пра назву кнігі — "В.І.Р." Усё проста — аўтара завуць Вольга Іванаўна Русілка.

Алег САЛТУК

# Неардынарны талент

Сапраўдны пісьменнік — чалавек без узросту. І ягоныя творы маюць тую ж асаблівасць. Чаму яны не старэюць? Бо маюць у сабе нешта новае — новага аўтара, новага чалавека: ён паглядзеў на ўсё тое — знаёмае, "замыленае" — па-іншаму, і чалавечая памяць захоўвае яго імя з удзячнасцю за гэты падораны чытачу досвед іншабачання і іншадумства.

70-годдзе Віктара Апанасавіча Казько падсабляе паглядзець на ягоную творчасць больш уважліва. Не падводзіць рысы, зразумела, а паспрабаваць падысці да вядомых яго твораў аўтарскім метадам. Што я маю на ўвазе? Тут не тэматыка аповесцей і раманаў Казько, даўно разабраная па дысертацыях, не трактоўкі вобразаў, не міфапаэтыка і інш. Што палягае ў аснове іншабачання Казько? — вось гэта хвалюе. І на мой погляд, стрыжнем прозы юбіляра з'яўляецца інтуітывісцкі падыход да творчага працэсу. Адразу трэба сказаць, што гэтае разуменне было набыта аўтарам не з кніг: тут усё яго асабістае, тонка-жыццёвае. Пісьменнік ішоў перадусім ад сябе, і таму кожная паралель — ці то з Маркесам, ці то з Джойсам — будзе выглядаць ярка, але штучна.

Віктар Казько — з пакалення авантурыстаў, вандроўнікаў, праўдашукальнікаў. Зразумела, што ва ўсе гады такія пісьменнікі з'яўляліся, але сярод тых, каго прынята называць "шасцідзесятнікамі", людзей падобнага паклікання было больш за ўсё. У многіх з іх дзяцінства было абпалена не толькі вайной, але і рэпрэсіямі, голадам, трывожнасцю. Я не сацыёлаг, і аналітычнай выбаркі даць не магу, але ўсё ж такі, думаецца, 30-я і 40-я былі часам надзвычай вострай сацыяльнай напружанасці. І пасля спаду той напружанасці не магло не з'явіцца пачуццё велізарнай духоўнай палёгкі, а праз яго — з'яўленне новых людзей, новых пісьменнікаў, новай літаратуры.

Ён прыйшоў да творчасці ў сталым узросце. Словы "назапашаны жыццёвы вопыт" якраз-такі будуць тут небудзённымі, непафаснымі. Гэты досвед, гэтыя карціны ці, хутчэй, фотаздымкі рэальнасці, якія некалі ўразілі пісьменніка, пасля адбіліся, аддрукаваліся ў ягоных кнігах. І з'яўляліся гэтыя фотаздымкі інтуітыўна — тое відаць, калі чытаеш прозу Казько. Менавіта таму па сутнасці мадэрнісцкі метад яго пісьма не перашкодзіў застацца рэалістам: досвед не разыходзіцца па швах, не распаўзаецца безаблічнаю плынню свядомасці. Досвед засцерагае ад пустаты.

"Казько — пісьменнік складаны", скардзяцца мае знаёмыя. І гэта праўда, з аднаго боку. Ды, на маю думку, рэч тут у іншым. Казько — пісьменнік глыбока трагічнага светаадчування. Ад таго і інтуітывізм, і нястрымная плынь свядомасці, чорная і змрочная афарбоўка рэаліяў. Той сюжэтна-кампазіцыйны разброд, які відавочны ў яго творах апошняга часу паходзіць менавіта з асаблівасцей аўтарскага ўспрымання свету. Змрачнаватых пісьменнікаў заўсёды цяжка чытаць, асабліва тым, хто бачыць у жыцці толькі радасці і задавальненні. Але, зноў жа, пра Казько нельга абагулена сказаць, што гэта "пясняр змроку", бо ў тым адразу адчуецца няпраўда. Так, інтуітыўнае, ірацыянальнае вабіць яго, часам нават зачароўвае, ён абрынаецца ў яго безразважна, злёту, ды ў той жа час унутры ён застаецца чыстым і светлым пісьменнікам, гатовым паверыць у цуд, паверыць у тое выпакутаванае блокаўскае "а мир прекрасен — как всегда", нягледзячы на эмпірычна зацверджаную безнадзейнасць.

Гэта глыбока індывідуальны талент. Па прачытанні і перачытванні кніг Віктара Казько часам думаеш, што ў яго не было ні папярэднікаў, ні наступнікаў. Ды потым ужо прыгадваеш вогкую прозу Максіма Гарэцкага, сімвалізм Кузьмы Чорнага, псіхалагізм Васіля Быкава (на маё гледзішча, яны ўзаемна ўплывалі адзін на аднаго), тую трагічна-апакаліптычную засяроджанасць Казько прыгадваеш і пры чытанні аповесцей Юры Станкевіча. Але ўсе яны да пэўнай ступені "гладкія" пісьменнікі. Казько — шурпаты, не-літаратурны. Падобная не-літаратурнасць уласцівая ў нас, мабыць, яшчэ аднаму празаіку — Івану Пташнікаву. Ды апошні, скажам так, робіць прадметам творчае сугестыі навакольны, прыродны свет, аб'ектыўную рэчаіснасць, у той час, як Казько акумулюе ўсе ўнутраныя магчымасці суб'ектыўнага, асобаснага — свядомага і бессвядомага.

Калі хто палюбіў гэтага пісьменніка, дык ужо не разлюбіць. Для гэтага трэба наладзіцца, злавіць пэўную "частату". Гэта не так проста, але яно таго варта. Возьмем жа ў святочныя юбілейныя дні ды перагорнем старонкі кніг Віктара Апанасавіча Казько і парадуемся, што ў нашай літаратуры ёсць такі не-звычайны, выдатны празаік.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

## Віншуем

З 75-годдзем Анатоля Канстанцінавіча Клышку, беларускага празаіка, крытыка, перакладчыка, педагога.

З 70-годдзем Віктара Апанасавіча Казько, беларускага празаіка.

З 70-годдзем Уладзіміра Іосіфавіча Мархеля, беларускага літаратуразнаўцу, перакладчыка.

## Юбілейны каляндар

175 гадоў Ялегі Пранцішу Вулю (сапр. Элігій-Францішак Маўрыкіевіч Карафа-Корбут), беларускаму паэту.

130 гадоў Язэпу Лявонавічу Дылу, беларускаму празаіку, драматургу і грамадскаму дзеячу.

125 гадоў Сымону Аляксандравічу Рак-Міхайлоўскаму, беларускаму палітычнаму і грамадскаму дзеячу, публіцысту, педагогу, перакладчыку, паэту.

120 гадоў Янку Нёманскаму (сапр. Іван Андрэевіч Пятровіч), беларускаму празаіку, публіцысту, грамадскаму дзеячу.

100 гадоў Алесю Трафімавічу Пруднікаву, беларускаму паэту.

90 гадоў Аляксею Нічыпаравічу Карпюку, беларускаму празаіку, заслужанаму работніку культуры Рэспублікі Беларусь.

90 гадоў Міколу Ракітнаму (сапр. Мікалай Ісакавіч Новікаў), беларускаму празаіку.

80 гадоў Сяргею Адамавічу Гусаку, беларускаму крытыку і літаратуразнаўцу.

## Розгалас

# Дзяды і сучаснікі

На старонках вашай газеты адбылося абмеркаванне "акварэльных малюнкаў" У.Сцяпана "Дзед". Вырашыў напісаць невялічкі ліст "экспромтам", каб падтрымаць гэткую добрую рэдакцыйную ініцыятыву. Усё атрымалася добра (можа, і яшчэ будзе якісьці працяг). Тут ёсць над чым сур'ёзна задумацца… Часцей бы здараліся вось такія даверлівыя стасункі пісьменнікаў з чытачом! І будзе нейкі плён, перакананы, і для творцаў, і для суайчыннікаў, і для грамадства.

Свае думкі выкажу, прабачце, коратенька, бо няма магчымасці да больш грунтоўнага разгляду (а калі ж будзе працяг — абавязкова адгукнуся больш падрабязна).

Дык добра гэта ці не, калі сёння ў нас з'яўляецца такі літаратурны твор? Вядома, калі казаць агулам, добра! Бачыце: як усіх глыбока закрануў ягоны шматасацыятыўны змест! Такіх твораў цяпер няшмат. Сапраўды, у ім ёсць нешта своеасаблівае, кранальнае, спрадвечна беларускае! Але і самому аўтару трэба ўлічваць крытычныя заўвагі спецыялістаў і чытачоў, больш адказна ставіцца да стылістычнай і моўнай афарбоўкі свайго "дзецішча". Тады менш будзе такіх вось "дабрадзеяў", як С.Грышкевіч. Тут цяжка ўцяміць, хто мае рацыю. Жанчыны занялі свой асабісты ("дамскі") непрадказальны падыход — дзіва што: спецыялісты-філолагі! Уразіў яскравы водгук студэнта А.Грыбоўскага (ды і тых жа 100 выхаванцаў БДУ з групы Л.Алейнік). Я ж кажу: ва ўсім гэтым адчуваецца нешта пазітыўнае. Моладзь хлусіць не ўмее! Не будзе. І трэба ў цяперашні складаны ("камп'ютэрны", "глабалізацыйны") час мець мужнасць развіваць вось такія "кволыя" парасткі новага нацыянальнага Адраджэння і больш вучыцца ў сваіх выбітных папярэднікаў-класікаў, а не шукаць дабра на чужых падворках.

Яўген ГАРЭЦКІ

# Пошукі новай змястоўнасці




Раздзелы з рамана З. Дудзюк "Слодыч і атрута" пакідаюць неадназначнае ўражанне. З аднаго боку, відаць прадуманасць сюжэта, ненавязлівасць яго развіцця, фактура твора даволі цэльная, у рэчышчы нацыянальнай празаічнай традыцыі на заходнебеларускую тэматыку. З другога боку, ёсць усё той жа "скорапіс" (праклцяце сучаснай прозы), перабор з часткай "грэхападзенняў", даволі дзіўныя нестыкоўкі: адзін з герояў, Гардзей спачатку паказваецца як цалкам адмоўны і цёмны вясковец: гвалціць 14-гадовую гераіню, п'е ды наогул паводзіць сябе як поўная свіння, а пасля ён, выяўляецца, пасля заканчэння школы "працягваў цікавіцца навукаю. Па-першае, перачытаў усе чатырыста дваццаць пяць кніжак, якія былі ў школьнай бібліятэцы, па-другое, купіў у тутэйшага бацюшкі за гусака Біблію і вывучаў яе пацішу кожную хвіліну… Сэрца жадала свята, перамог, нейкіх незвычайных падзей, якія б наталялі душу святлом і радасцю". Атрымліваецца сінтэз Гарлахвацкага і Абдзіраловіча — новы герой у айчынным пісьменстве?

Апавяданні Я. Сіпакова — традыцыйна ў апошні час пра ўзаеміны мужчыны і жанчыны, бытавыя замалёўкі на сучасным матэрыяле. Вылучаецца сярод трох апавяданняў апошняе — "На выставе", дзе аўтар аб'ядноўвае асноўныя класічныя творы жывапісу на эратычную тэматыку і па-свойму прааналізаваў гэтыя карціны.

У аддзеле паэзіі — лірычная падборка С. Явар, новыя вершы К. Жука і цыкл вершаў М. Шабовіча "Жанчына".

Заканчэнне рамана А. Брытуна "Пах мускусу" (папярэднія часткі друкаваліся ў № 1 — 2 за гэты год) да канца праясняе сітуацыю. Гэта, вядома, не раман, а звычайная аповесць, прычым сюжэт ейны складаецца з шэрага апавяданняў, аб'яднаных агульнымі персанажамі. Як ужо казалася раней, у творы прысутнічае багаты фактаалагічны матэрыял з жыцця Белавежскай пушчы XIX ст. Аднак ён перапаўняе твор і пакрысе становіцца асноўным персанажам твора, бо тыя персанажы, што прапаноўваюцца чытачу аўтарам, маюць вельмі "абскубаны" і прымітыўны выгляд. Відаць, што аўтару хацелася хутчэй дарасказаць сваю гісторыю, а героі, маўляў, нікуды не падзенуцца. Дарма. Бо, мабыць, мэта прозы ўсё ж распавядаць пра чалавека, а не пра пушчу ці шэраг здарэнняў. Для пушчы ёсць спецыяльныя даведнікі, дакументальныя кнігі і энцыклапедыі, а здарэнняў у жыцці столькі — паспявай-запісвай, ніякага "Полымя" не хопіць, каб зместіць. Не прыкмецілі слана. Тэалогія твора адсутнічае.

У перакладной рубрыцы — вялікая нізка твораў класіка казахскай літаратуры Абая ў перакладзе М. Мятліцкага.

Як заўсёды, для "Полымя" характэрны багаты і надзвычай цікавы раздзел крытыкі і публіцыстыкі. У гэтым плане часопіс, бадай, пераўзыходзіць усіх сваіх "канкурэнтаў", хоць, вядома, канкурэнцыя тут не зусім тое слова. Усе працуюць, як могуць, а захочванне спаборніцтва адышло ўжо ў нябыт.

Асноўная частка публікацый так ці інакш прысвечана юбілеям беларускіх майстроў слова. Так, А. Мельнікава, адгукаючыся на 70-годдзе вядомага паэта з Беласточчыны Яна Чыквіна, прапануе навуковы артыкул "Дзе скарбы сэрца вашага…". У матэрыялах да 170-гадовага юбілею аднаго з пачынальнікаў беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча — верш М. Мятліцкага "Багушэвіч у Смаргоні", а таксама разгорнутае эсэ Я. Янушкевіча "Чароўная дудка", што змяшчае цэлы пласт малавядомых фактаў з біяграфіі класіка айчыннага прыгожага пісьменства.

Эсэ В. Карамазава "Трагедыі лірычны эпілог" прымеркавана да 90-годдзя з дня нараджэння аднаго з лепшых беларускіх паэтаў-філосафаў А. Пысіна.

Д. Кулеш у нарысе "У культуры свае дарогі" аглядае дзейнасць працаўнікоў адпаведнай галіны Клецкага раёна.

Артыкул М. Мушынскага "Якуб Колас у стасунках з грамадска-палітычнымі дзеячамі Беларусі" раскрывае адносіны песняра з кіраўнікамі камуністычнай партыі, а менавіта з М. С. Патолічавым.

Э. Іофе ў публікацыі "Гэта твая гісторыя, беларуская дзяржаўнасць" рэцэнзуе выданне "Нарыс гісторыі беларускай дзяржаўнасці: XX стагоддзе" (Беларуская навука, 2008). Завяршае нумар традыцыйны "Каляндар памятных дат".




Заканчэнне аповесці У. Караткевіча "Перадгісторыя" надышло непрыкметна. Зрэшты, уласна заканчэння і няма, твор недапісаны, а значыць — адкрыты і незавяршальны. Як разгорнуцца падзеі з Янам і яго супрацівам, можна толькі здагадвацца. Замыкае аповесць ужо нешта накшталт апавядання пра падзеі паўстання 1863 г. Урэшце, дзеля аднаго толькі маналога асуджанага паўстанца (на беларускай мове) ужо варта было публікаваць "Перадгісторыю": "Не, я не хлоп. Дзякуй Богу, дыхнуў я, хоць на міг сапраўднага паветра. І каб яшчэ раз прыйшлося жыць мне — я зноў бы так зрабіў, каб хоць разок дыхнуць ім — добрае паветра. Вам ім ня дыхаць. Яно маё. А хлопы — гэта вы перад тварам цара зямнога. Хопіць. Я больш не адказваю".

Аповесць У. Саламахі "Аблічча і Лік" у перакладзе з беларускай М. Печэня ўяўляе сабой бытапісальны твор на сучасную гарадскую тэматыку з рэтраспекцыяй у пасляваеннае вясковае жыццё. Аўтар даволі ярка выпісвае цэлую галерэю чалавечых тыпаў, часам дадаючы ў агульную рэалістычную іх распрацоўку лыжку сентыментальнага і абагулена-схематычнага. Рознапланавыя героі пакрысе разыходзяцца па сваіх кутах, і праз гэта сюжэт твора становіцца вялым, хоць і чытаецца аповесць лёгка.

Апавяданні Н. Ільюшынай "Боль" — аўтабіяграфічныя, апавядаюць пра лёс народжанай у часе вайны дзяўчынкі, яе жыццёвыя перыпетыі, камічныя дзіцячыя сітуацыі.

Апавяданне М. Шамякінай "Футляры" — прыпавесць пра таямнічага майстра — стваральніка футляраў для музычных інструментаў. Твор мае ў сабе элементы гатычнай прозы. Увогуле, ён пра тое, як мастацтва паступова схілялася да адмаўлення сваіх высокіх канонаў, пераходзіла са светлага ў цёмнае, з прыгожага ў непрыгожае.

У паэтычным аддзеле сакавіцкага "Нёмана" — пасмяротная падборка вершаў У. Марука ў перакладзе А. Цяўлоўскага "Да вас кранусься душою", шэраг твораў В. Лукшы "Надзеі беласнежныя брыг", лірыка А. Кошкінай у нізцы "Пакінуць на заўтра" і вершы Меліса Шварц.

Пастаянная рубрыка "Всемирная литература" в "Нёмане" прапануе падборку сучаснай венгерскай прозы — апавяданні Дз'ёрдзя Шапіра (рэалістычныя аўтабіяграфічныя запісы-роздумы над лёсам свайго роду і лёсам краіны, у якой давялося нарадзіцца і жыць падчас "халоднай вайны"), аповед Ласла Мартана (у творы апавядальнік як мага больш будзённым, стрыманым і часам нават канцылярскім тонам апісвае сустрэчу: падманутая жонка пасля смерці свайго мужа прыязджае ў закінутае мястэчка, каб паглядзець на шматгадовую каханку свайго абранніка і паведаміць ёй пра яго смерць). Твор Ласла Краснагоркаі "На вяршыні Акропаля" напісаны ў мадэрністычнай манеры плыні свядомасці і распавядае пра няўдалае наведванне турыстам Акропаля. Ён не можа адчуць прыгажосці старасвецчыны з-за таго, што забыў прыдбаць чорныя акуляры. Сонца спальвае яго зрок, і па вяртанні ў Афіны турыста збівае аўтамабіль. З перакладаў паэзіі ў нумары — падборка філасофскіх верлібраў італьянскай паэтэсы Анны Пінцуці.

У раздзеле "Дакументы. Нататкі. Успаміны" друкуецца юбілейная выбарка дзённікавых запісаў В. Шніпа. Н. Касцючэнка ў нарысе-гутарцы "Незачыненыя дзверы" дае партрэт паэта, перакладчыка, крытыка Ю. Сапажкова, які нядаўна адзначыў сваё 70-годдзе. Рубрыка "Нашчадкі Перамогі" публікуе артыкул Т. Куварынай "Ёсць цудоўная прафесія — лётаць", прысвечаны пісьменніку-вайскоўцу А. Сульянаву. У крытычным раздзеле — рэцэнзія К. Ладуцкі на кнігу А. Мальдзіса "Беларускія скарбы за мяжой", што нядаўна пабачыла свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва". Тут жа — невялікая згадка В. Арцем'ева пра зборнік вершаў І. Пехцерава. В. Гурноўская, А. Базылевіч і Д. Шоцік прапануюць традыцыйны "Кніжны агляд". Завяршае нумар публікацыя гутаркі А. Ждана з дзіўным чалавекам, паэтам-самавукам і адданым чытачом літаратурных выданняў У. Голубевым — рубрыка "У гасцях у рэдакцыі".




Адкрывае сакавіцкі нумар "Маладосці" падборка В. Чайкоўскай "Я музыкай ветру стану" — метафарычная, слоregistered ваўтваральная, лірычненькая. Удзячны матэрыял для парадыстаў. Напрыклад, такое чатырохрадкоўе: "Я б так хацела паслухаць / Спевы чароўных палёў. / А ты мяне ў нейкае поле / Глухое завёў…"

Паэзія У. Папковіча ў цыкле "Душа спагады чакае" — філасофскія афарыстычныя занатоўкі, усе яны напісаныя ад першай асобы. Аўтар выяўляе тут свой светапогляд, свае маральна-этычныя прынцыпы: "Цяпер сябе не варта біць у грудзі. / Гляк апусцеў. / Даедзены пірог. / Мы толькі людзі. / Мы сабе не суддзі. / Суддзя адзіны ёсць над намі — Бог".

Вершы сяброў літаратурна-музычнай гасцёўні "Натхненне" студгарадка БДУ — даволі спелыя, хоць і не пазбаўленыя маладой "лёгкасці на слова", а таксама змрочнага суіцыдальна-эсхаталагічнага каларыту. Так, першы верш М. Паўлоўскай відавочна задоўгі і набліжаны да прозы, бо адсутнічае цвёрды верлібравы рытм. Вылучым яе верш "Я ў пошуку", вытрыманы цалкам, акрамя канцоўкі. Узор цікавага філасофскага верліабра дае Ехе Кім Ург, студэнт-фізік. Як найлепшую падборку, адзначым творы Л. Наліўка — ясныя і спакойныя, хіба толькі занадта лаканічныя; такое адчуванне, што, напрыклад, трэці верш, абарваны на паўслове, не выявіў усе свае патэнцыі. А вось адваротны выпадак: "Давай / дамовімся / дазволіць / адно / аднаму / адзіноту". Наогул жа, некаторыя творцы гасцёўні "Натхненне", думаецца, яшчэ не раз з'явяцца на старонках нашых літаратурных выданняў. Усе падставы для гэтага ёсць.

Яшчэ ў аддзеле паэзіі сакавіцкай "Маладосці" — нізка новых паэтычных твораў М. Мятліцкага (пейзажна-філасофская лірыка) і юбілейныя "Балады крыві і любові" В. Шніпа.

З вялікіх эпічных матэрыялаў — аповесць М. Прохар "Восень у Вільнюсе" і працяг аповесці Г. Пацыенкі "Пакуль куля ляціць". Што да апошняга твора, то дзеянне даволі нечакана марудзіць і не выходзіць на ўласна "ваенны" сюжэтны пласт, у выніку чаго ціхае вясковае жыццё падлеткаў пад акупацыяй амаль не змяняецца якасна. Адразу становіцца ясна, што па звыклай сцяжыне "маратказеяў" персанажы не пойдуць — аўтару важней паказаць будні вайны, чым уласна перастрэлкі і выбухі.

Твор М. Прохар, бясспрэчна, з'яўляецца стрыжнем сакавіцкага нумара. Наогул, "віленскі тэкст" у беларускай літаратуры займае ладную частку прасторы. Вялікая паэтычная яго частка некалі была сабраная ў анталогію С. Дубаўцом. А вось "віленскую" прозу па пальцах можна пералічыць. Аповесць М. Прохар — медытатыўная, восеньская, сумна-радасная — стварае настрой, нягледзячы на тое, што фармальна, па сюжэце гэта амаль дэтэктыў. Шкада толькі, розныя планы аповеда — думкі персанажаў, дзённікавыя запісы, нават маналогі інтанацыйна не адрозніваюцца паміж сабой, і тады ўзнікае шэрая манатоннасць, якая хоць і заканамерная ў творы пра восень, ды ўсё ж такі не зусім эстэтычна вартасная. Зрэшты, гэтая заўвага зусім не змяншае значнасці гэтага твора. Сярод сакавіцкай прозы аповесць М. Прохар "Восень у Вільнюсе" — найлепшая.

Апавяданне Ю. Каляды "Слова не з майго лексікону" — узор урбаністычнай, эксцэнтрыка-жаночай прозы, пазнавальны паводле аўтарскіх асаблівасцей мастацкай рэфлексіі.

Апавяданні Ю. Зарэцкай з цыкла "Дунілаўскія былі" напісаныя ў гумарыстычна-этнаграфічным ключы, ці ў кшталце з усімі моўнымі, стылістычнымі і героіка-сюжэтнымі прадказальнымі наступствамі.

У крытыка-публіцыстычным аддзеле "Маладосці" — нарыс А. Марціновіча "А ў Слуцку — усё па-людску", дзе аглядаецца праца на ніве культуры ў Слуцкім раёне, гутарка С. Богуш з літаратаркай В. Куставай. С. Чыгрын у артыкуле "Першая сусветная вайна на фотаздымках Язэпа Стабраўскага" распавядае пра жыццёвы шлях слонімскага краязнаўцы і фатографа. І. Осіпаў у рубрыцы "Займальнае моваазнаўства" падае ў сваіх запісах высокі, прыказкі і прымаўкі сваёй роднай вёскі (дзіўна, праўда, што назва вёскі і імёны рэспандэнтаў нідзе не пазначаецца; праз гэта вартасць запісаў істотна зніжаецца). І. Клімковіч у нарысе "Як зварыш, так і з'ясі" аглядае жыццё Мінскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа кулінарыі (рубрыка "Мая прафесія").

Таксама ў нумары — традыцыйны "Каляндар" "Маладосці", працяг "Грунвальдскай бітвы" Я. Длугаша і краязнаўчага даведніка "Літаратурныя мясціны Беларусі" А. Мальдзіса і Д. Крывашэя.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ



Генадзь РАМАНАЎ

* * *

Як цудоўна быць рослым,
а яшчэ лепей — роўным,
Каб у хоры з усімі горла
драць аб галоўным.
Роўным шыхтам, бадзёра
ў рытм змяняючы ногі,
Крочыць разам з усімі да адной перамогі.

А я вырас крывы, а я вырас гарбаты,
Заскарузлы, сагнуты ад вятроў,
сукаваты.
І спяваю я сіпла, і хаджу я не строем.
І ніяк не магу быць я вашым героем.

Як мяне ні раўнялі, як мяне ні прасталі,
толькі больш паламалі,
усяго пахвасталі…
Крылы сталі гарбамі,
слёзы з ранаў — жывіцай,
А не змусілі ўсё ж перад вамі скарыцца.

Я не буду пакорным і не стану я катам,
хачу роўным быць з вамі,
хоць крывым і гарбатым.

## Божы дождж

Між пякельных агнёў бессардэчнай і жорсткай спякоты,
калі плавіўся нават сам жалезабетон,
з неба ўпалі не слёзы,
а кропелькі Божага поту, —
гром разбіў купал неба
і на грэшных праліўся Закон.

Пахваліся ў цэрквах усе і ў касцёлах,
і маліліся доўга, каб дождж перастаў.
Мы ж з табою смяяліся і прасілі анёлаў,
каб адно гэты дождж
з душ грахі пазмываў.

Цалаваў Божы дождж
нашы вусны ад смагі салёныя,
абяцаў вечны рай —
і не ў тым, а ўжо ў гэтым жыцці.
Мы ж сталі з табой
закахана-шчасліва-шалёныя,
і не думалі нават,
што можам згубіць ці знайсці.

Так мы любім жыццё
з яго слодычу горка-салёнай.
За грахі, Усявышні, нам,
дзецям сваім, Ты прабач.
Хай наш радасны смех
нам не будзе апошнім праклёнам,
Ну, навошта, скажы,
Табе, Бацька нябесны, наш плач?..

## Залатая восень

Лісцём пажаўцелым зямны засцілае дыван
Зялёны пакуль яшчэ… Восень…
У гэтай пары ёсць цудоўны і зменлівы зман:
Здаецца, — што лета,
і збудзецца, што не збылося.

Здаецца, усюды паспееш, не будзе зімы,
здаецца, навечна вось гэта бяздоннае неба,
і верыцца быццам навечна нявечныя мы,
што збудзецца ўсё
і людская ў нас будзе патрэба.

Вось так і жывеш,
быццам ты назаўжды малады,
і цёпла, і лета, а значыць,
не трэба спяшацца…
Між пальцаў апошняй вадой уцякаюць гады,
а лічым, што нам не за сорак, а — дваццаць.
Не хочам зважаць
на халодных вятроў караван,
якія з сабою юначыя мроі адносяць…
Лісцём пажаўцелым зямны засцілае дыван
Зялёны… Пакуль яшчэ восень…

## Белы верш

Снег выпаў ноччу, быццам не было
дажджу заўчора з брудам на падлозе,
і чорнае ўсё белым замяло,
і ў одуме зямля, нібы ў аблозе.

Свята… Адкуль? Па небе хмараў стос
плыве, бы стог, кудысь па боскіх справах.
Мо дзень Раства спраўляе сам Хрыстос
і час праводзіць у святых забавах.

Бялюткі сад і ўсё да рыскі ў тон.
Малюнак гарманічны і аскетны.
Свет белы ў белым, як дзівосны сон
убраўся адмыслова і шляхетна.

І радасць — з ніадкуль, як Божы дар.
На белы ліст кладуцца вершаў мантры.
З душы бясследна знік турбот цяжар,
як гэты снег, што можа знікнуць заўтра…

## Позняя вясна

Нам сказалі: "Прыйшла вясна…"
Можа быць… можа быць…
Але ж бачылі — што зіма,
да вясны яшчэ трэ дажыць…

Пасярод сакавіцкай завеі
быццам лютым зноў абдало:
стылі душы, сэрцы дранцвелі —
так мяцеліла і мяло…

І свінцовыя хмары віселі
над галовамі, над душой,
не гарэлі мы і не тлелі,
бы ў мяртвецкай, стаяў спакой.

Але цепліўся недзе ўнізе
успамін аб цвітучых садах,
і мы верылі — сонца ўзыдзе.
Будзе так! Будзе так!



Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ

## Крывічанка

О, крывічанка,
у вачох тваіх гарачае жаданне,
А вусны кубак чараўнічага напою.
Ад рук пяшчотных я стрываю і каханне,
й катаванне,
На золку сцэзну, любая з табою.

З непадуладнасцю і гонарам
язычніцкай багіні,
На капішчы якой аднойчы апынуўся,
Маіх пачуццяў, думак,
мрояў ты зямная гаспадыня,
Табе адзінай я, дзівак, малюся.

* * *

За два імгненні да зімы
Ад анямення паратунак,
Нібы гарачы моцны трунак —
Пяшчотны палкі пацалунак
Раптоўна прыгубілі мы
За два імгненні да зімы.

Знайшоўшы дзесьці спраўны смык,
Падладзіўшы на скрыпцы струны —
Граў сівер моташна і сумна,
Але яго не чулі мы
За два імгненні да зімы.

* * *

Ты ведаеш мяне
і ведаеш самоту
Душы маёй,
яе ледзь чутны спеў.
Нікога не кране
мой лёс і адзінота
І гэта ўжо
даўно я зразумеў.
Нікога не кране
палынная гаркота,
Якую я па кроплях,
дробна п'ю
Аднак не ахіне,
не з'есць мяне нудота
І ёй назло
Пакуль жыву — пяю.

* * *

І ты, і я — мы толькі рэшткі часу
Спакойнага, бясстраснага, — мы кропкі
Аскепкі, пыркі, дробязныя часткі,
Гісторыі няўпэўненыя крокі.

* * *

Нягледзячы нават на тое,
што сёння нязменна нядзеля —
Сакавіцкая раніца ў Менску
пачынаецца ў сем гадзін.
Снегу яшчэ не расталага
перапэцканая кудзеля,
І аблокаў над галавою
бела-блакітны язмін.

Жанчына, ужо ва ўзросце,
які ў нас завецца "далёка за",
Мые павольна ў вітрыне крамы
заледзенелае шкло.
Ёй добра вядома,
чаго нам чакаць у засмужаным заўтра,
І таксама выдатна вядома,
што яно ужо надышло.

Заўсёды знаходзіцца ў рамках,
рабіць усё як належыць,
Каб аднойчы ўранку
з атрутнаю роспачу зразумець,
Што сябе ўсё жыццё пазбаўляў аднаго
— адчування бязмежжа,
Што душа, адсечаная ад цела,
пачынае марнець.



Аркадзь НАФРАНОВІЧ

## Альтанка

Альтанка стройная на палях,
Вада азёрная пад ёй.
Шапталіся з чаротам хвалі
І, чулася, пра нас з табой.

Хмялелі мы ад шматгалосся
І ад блакітнага святла.
І ў нейкі момант падалося —
Альтанка наша паплыла.

Яна, бы лермантаўскі ветразь,
Кудысь імкнула ўдалячынь.
І зноўку май нам, як і летась,
Дарыў прасторы воднай сінь.

Ад радасці спявала сэрца:
Ты — мой надзейны капітан.
І ўжо прад намі не азерца,
А неабдымны акіян.

Вясёлая, паглядам мілым
Ты гаварыла мне: "Люблю!"
Мы верылі — за небасхілам
Убачым райскую зямлю.

Да берага не прычалім,
У салаўіны пойдзем гай.
…І чулася мне ў шэпце хваляў:
"Вы грэшныя… вам нельга ў рай…"

* * *

Каханне і любоў — званочкі-словы,
Узрушваюць заўжды людзей яны
Бо ў іх дыханне і святло вясны,
І салаўіны спеў, і шэпт дубровы.

Прамовіш іх — і ў радасць дзень чарговы:
Арэцца поле, ткуцца дываны…
Гучаць, пяюць нябесныя званы,
І спасцігаем сэнс жыцця нанова.

Любіць, кахаць —
мудрэйшым стаць намнога.
Па залатых прыступках дабрыні
Да сонца набліжаемся, да Бога…
Святлеем і вышэй трымаем голаў,
І прагнем ужо зорнай вышыні,
Бы за плячыма крылы ў нас анёлаў.

* * *

Вось ісціна, што мной даўно пазнана,
І для мяне яна — закон жыцця:
Калі любіць — то верна і аддана,
Калі кахаць — да самазабыцця.

## Вясна ў вёсцы

У яркім сонцы і блакіце
Ідзе палямі красавік.
У рост пайшлі травінак ніці,
Турбот птушыных самы пік.

Ралля на ўзгорках разамлела,
Над ёю пара, як дымок.
Так млее ў лазні наша цела,
Калі залезем на палок.

Жаўрук сваё спявае скерца.
Пад гэты шчыры спеў без слоў
З-за кратаў-загарадак рвецца
Уранку трубны рык кароў.

А пчолкі ладзяць сваё веча
На ганачку каля лятка.
Нібы ў іх розум чалавечы
Ці, можа, Бога тут рука.

Дзярэ галасавыя звязкі
На плоце певень малады.
Вясенні час у вёсцы — казка,
Якой не знаюць гарады.

* * *

Вершы трэба пісаць да сарака гадоў.
З заявы аднаго паэта

Сорак — ім не стацца той мяжой,
За якой з паэзіяй расстанне.
Вінаватым быць перад сабой,
Калі гэта сумнай явай стане.

Кінуць людзі — і не раз! — дакор:
"Што ж пакінуў вершы ты так рана?"
…Хай жа доўжыцца палёт да зор,
Лёсам песняру наканаваны.

* * *

Любіць-кахаць — пазнаць жыцця асновы…
Сябе я аддаю на божы суд.
Фізічных і душэўных шмат пакут,
Хоць бачу многае ў святле ружовым.

Ад горкіх дум лечыць бор сасновы, —
І адбываецца сапраўдны цуд:
Як не было пакутлівых мінут —
У сэрцы горычы той палыновай.

Дабро забрала пад сваё крыло,
Каб не сышоў на свет я той дачасна —
Слабее, абяссільваецца зло…

Звужаецца прастора для маны…
І пачынаю разумець так ясна:
Ад Бога — праўда, фальш — ад Сатаны.



Фота Уладзіслава Басько

# Праўнучка Арфея

Юры СТАНКЕВІЧ



## Апавяданне

Інспектар АНТЫСУ (антысуіцыдальнай службы) Марка Гіль спускаўся ў чэрава метро. Гэта быў звычайны на выгляд чалавек гадоў сарака, фізічна моцны, у цывільнай вопратцы, які знешне нічым не вызначаўся ў бязладнай плыні пасажыраў, што цякла яму насустрач і часам абганяла з бакоў: парадзелыя валасы з прыкметамі аблысення, вузкі, хударлявы твар, толькі шэрыя вочы неспакойныя і позірк іх цупкі і змрочны, — хоць апошняе наўрад ці хто заўважаў. Інспектар Гіль, а на мясцовым слэнгу — “чысцільшчык”, быў апрануты адпаведна-непрыкметна: шэрая ўцепленая куртка, пацёртыя чорныя джынсы, і хіба што чаравікі маркі “Грындэрс” сведчылі пра дыхтоўнасць яго густу.

На службу ў метрапалітэн Марка Гіль паступіў каля месяца таму, і нават паспеў атрымаць першыя на гэтым неспакойным месцы налічэнні на сваю банкаўскую картку. Грошай было значна больш, чым на яго ранейшай працы; па адукацыі псіхолаг, ён калісьці вёў семінар і меў гадзіны, як выкладчык, у адным з дробных сталічных каледжаў.

Каледж, як і многія іншыя, спыніў існаванне пасля так званых Непажаданых Падзей, калі выбухнуў адзін з вулканаў Гаіці ў сёмай ступені цяжкасці, і ў Еўропе паўтарылася сітуацыя 1816 года: да ліпеня на палях ляжаў снег, а ў жніўні зноў пайшло на маразы, што часткова пабіла яго да галадамору і імклівага наступу новай плыні мігрантаў. Менавіта ў гэты час у Афрыцы быў забіты і скарыстаны ў ежу апошні слон.

Нягледзячы на тое, што і цяпер лета стаяла, па сваіх кліматычных тэрмінах, у разгары, халады не адступалі, і часта ішоў дождж са снегам. Адносна цёпла было хіба што ў сутарэннях падземкі. Наверсе з-за недахопу паліва значна паменела аўтамабіляў: кінутыя машыны груваціліся ўзбоч дарог, а святло ў дамах запальвалася на адну-дзве гадзіны ў суткі. З-за цемры на вуліцах панаваў крымінал: абрабаваўшы запозненага пешахода, ужо і глуміліся – дзеля забавы адразалі вушы, насы, гвалцілі.

Новая вакансія адкрылася для Маркі Гіля лічы што выпадкова: колькасць самазабойстваў у падземцы рэзка ўзрасла, а службоўцы аховы і міліцыянты не маглі даць рады шматлікім “скакунам”, якія з невытлумачальнай упартасцю раз-пораз кідаліся на рэльсы пад колы лакаматываў.

Як ён даўно ведаў і як яму патлумачылі наймальнікі, у падземцы таксама часта рабавалі, рэзалі і нават адстрэльвалі: барацьбой з гэтым займалася крымінальная міліцыя, але найбольшую небяспеку для руху цягнікоў уяўлялі “скакуны”. Рух спыняўся, надоўга парушаўся графік, што прыводзіла да самых нечаканых выпадкаў і непрадказальнага гневу ўрадавых чыноўнікаў. “Скакуны” кідаліся пад колы лакаматываў на ўсіх станцыях: звычайна гэта былі шматлікія ахвяры наступстваў экалагічнай катастрофы, якая так нечакана хутка дасягнула еўрапейскага кантыненту – старыя, тыя хто страціў працу, бяздомныя, хворыя, галодныя — усе, хто не здолеў прыстасавацца да імклівых зменаў у ходзе Непажаданых Падзей. Але сярод іх трапляліся і маладыя, часам іх было па некалькі за дзень — урэшце, колькасць самазабойстваў набыла пастаянную, і ўвесь час хіба што нязначна хісталася сюды-туды.

І калі некаторыя з ахвяраў заставаліся жывымі і знікалі ў “дурцы”, а пасля ўвогуле ў нябыце, то астатнія станавіліся калекамі альбо паміралі, заціснутыя паміж вагонамі і платформай, пакутніцкай смерцю, што ўжо давялося пабачыць і Марку Гілю. Мужычыну калолі абязбольваючымі, цягнік не рухаўся, пакуль “скакун” быў жывы. Чамусьці Марка Гіль, які паўдзельнічаў у баях падчас службы ў войску, такіх хоць і шкадаваў, але не разумеў: прасцей за ўсё не вырашыць сваю праблему і не памкнуцца насуперак лёсу дасягнуць мэты, а пайсці і засіліцца, ці скокнуць пад цягнік у падземцы. Апошняе чамусьці найбольш вабіла небаракаў. Прагледжаныя шматлікія відэазапісы, а таксама ад прыроды ўласцівая назіральнасць інспектару назіральнасць і кемлівасць, адразу паставілі яго, як кажуць, “у тэму”. На рахунку Маркі Гіля ўжо было чацвёра выратаваных “скакуноў”: тры жанчыны сталага веку і адзін хлопец. Усіх іх, урэшце, адразу здавалі спецбрыгадзе, якая тут жа скіроўвала суіцыдальнікаў у “дурку”. Пра тое, што з імі адбывалася пасля, можна было толькі здагадвацца. Па радыё казалі, што іх адвозілі ў сельскагаспадарчыя кластэры, дзе прымушалі вырабляць генамадыфікаваную ежу, але гэтаму чамусьці ніхто не верыў.

Падземка дыхала цяплом, хоць, вядома, ніколі не ацяплялася. Цёпла было ад чалавечых цел, што віравалі тут і днём, і ноччу ў чаканні цягнікоў, якія бесперапынна развозілі людзей на працу. Ля вентыляцыйных рашотак перад уваходам ляжалі і грэліся сплеценыя гронкамі адзін да аднаго бяздомныя. У метро іх не пускалі, як стараліся не пускаць, выконваючы загад, усіх падазроных на знешні выгляд: п’яных, увачавідку хворых, змарнелых і з заўважнымі псіхічнымі адхіленнямі.

У пераходзе з прылепленых сям-там да сценаў шапікаў і крамак даносіліся зазыўныя галасы прадаўцоў, маклераў і агентаў — кожны прапаноўваў сваё: тавары хуткага попыту, парнаграфічныя дыскі, закускі і напоі заўсёды падазронай свежасці і па неверагодных коштах. Праз закратаваныя акенцы выглядвалі пераважна жоўтаскурыя, хітрыя тварыкі дробных гаспадаркоў-прадпрымальнікаў — праз пакаленне іх нашчадкі ўжо будуць сядзець у офісах, калі такія офісы застануцца, а на сваё месца пасадзяць тутэйшых, — меркаваў Марка Гіль.

Участак “чысцільшчыка” Гіля абмяжоўваўся адной з цэнтральных станцый, на якой (як, урэшце, і на іншых) заўсёды мітусілася процьма людзей самага рознага ўзросту, полу і колеру скуры.

У канцы пераходу, якраз там дзе заканчвалася апошняя крамка, ён раптам пачуў гукі гітары, а потым убачыў і спявачку. Гэта была зусім яшчэ дзяўчынка, невысокая, светлавалосая, з вуглаватым, ненатуральна схуднелым тварыкам — такіх, схуднелых, цяпер хапала паўсюль.

Упершыню спявачка з’явілася ў пераходзе падземкі на іх станцыі некалькі дзён таму. Звычайна яна прыціскалася да сцяны, да ног уладкоўвала раскрыты футляр ад гітары і пачынала іграць. Голас мела гучны, чысты, і песні, як адзначыў “чысцільшчык” Гіль, былі, на яго погляд, неблагія. Да таго ж, на старажытнай мове іх агульнай радзімы. Пазней ён даведаўся, што бард-спявачка стварала іх тэксты і музыку сама.

Ужо праз дзень да дзяўчыны падышоў сяржант мясцовай службы аховы, мулат Тамаш Лумона, і загадаў ёй пакінуць падземку. Марка Гіль ведаў, што фармальна той мае рацыю, але цяпер законы парушаліся не толькі на шматлікіх станцыях, а і паўсюдна.

Апынуўшыся побач, ён пачуў, як сяржант Тамаш Лумона пагрозліва сказаў спявачцы, адначасова імкнучыся наступіць на футляр, дзе ляжалі некалькі дробных банкнот:

— Ты тут не бартуйся. Каб праз хвіліну я цябе не бачыў.

— Ды я магу пасунуцца адсоткаў на дваццаць, — праз кароткую паўзу прапанавала таму дзяўчына.

Сяржант перапыніў свае намаганні растаптаць футляр і задумаўся. Як і Марку Гіля, яго зусім нядаўна залічылі ва ўнутраныя органы. Невядома якім чынам нехта выцягнуў яго на цёплае месца з прыгараднага сельскагаспадарчага кластара, што само па сабе было для сельгасніка неверагоднай удачай. Цёмны твар сяржанта з пукатымі вачыма і крыху адвіслай ніжняй губой адлюстроўваў марудны мысліцельны працэс, які адбываўся ў яго галаве.

Марка Гіль адвёў Тамаша Лумону крыху ўбок.

— Ты б не “шчаміў” пацанку, — прапанаваў ён. — То ж праўнучка Арфея. Дапускаю, што ты пра гэта не ведаеш. Так?

— Арфея? — няўцямна спытаў сяржант Лумона. — А хто гэта... ну няхай, калі так. Згода, згода.

— І не ўспамінай пра дваццаць адсоткаў.

— Не надта ёй кідаюць. Няхай спявае. Так і перадай таму Арфею — сяржант Лумона не супраць.

— Вось і дамовіліся, — ледзь стрымліваў смех Марка Гіль. — Валі дрэва па сіле.

Цяпер, пабачыўшы інспектара, спявачка заўсміхалася і прыціснула ў знак асаблівай павагі далонь да сэрца, а потым працягвала спяваць:

Не хадзі, не хадзі
У бок прывідных агнёў,
Не шукай у святле
 пабач штучных паходняў,
Часам ноччу людзей
Пакідае анёл,
А дарогі назад —
 не знаходзіць...

Марка Гіль паслухаў з паўхвіліны. Гучны і звонкі голас спявачкі дысаніраваў з яе кволай, тонкай постаццю ў пацёртых, выцвілых ад старасці джынсах і паралонавай кацавейкай. У футляры было пуставата.

Адзначыўшыся ў службэбцы, “чысцільшчык” Марка Гіль спусціўся на платформу (эскалатары, у мэтах эканоміі электраэнергіі, не працавалі) і акінуў позіркам запоўненую пасажырамі прастору. Пачалася яго змена. Ён ніколі і нікому не гаварыў пра адну сваю здольнасць, якая асабліва выразна выявілася тут, у падземцы — месцы, якое ўпарта выбіралі для сваёй апошняй справы “скакуны”. “Чысцільшчык” Гіль мог з дакладнасцю ў дзевяноста адсоткаў вылічыць патэнцыйнага самазабойцу па асаблівых, згадваемых толькі ім прыкметах: позірку вачэй, покіўках рук, нервовай хадзе, урэшце, як ён іншым разам меркаваў, па няўлоўным паху жыццёвай паразы, які сыходзіў ад ахвяры.

Чамусьці, апынуўшыся цяпер на платформе, “чысцільшчык” Гіль зноў адчуў тое самае няўцямна-выразнае пачуццё напружанасці, страху і пагрозы, што звычайна сведчыла яму пра намеры чарговага, пакуль невядомага суіцыдальніка скончыць жыццё. Калі гэта магло быць агрэсіўным замахам на каго-небудзь, пачуццё небяспекі выяўлялася інакш — ён ужо амаль беспамылкова вызначаў розніцу ў адценнях.

Рухаючыся ў гэтым па-броўнаўску бязладным натоўпе, ён прыслухоўваўся, каб пачуць чарговае набліжэнне цягніка, і тады імгненна нібы пераўтвараўся ў суцэльную нервовую клетку: небяспека магла выявіцца ў любую секунду. Цяпер з’явілася невялікая палёгка, бо цягнікі хадзілі са значна большымі інтэрваламі, чым да Непажаданых Падзей, але недахопам станавілася іх максімальная хуткасць — шлях тармажэння ад таго большаў, і машыністы раз-пораз не паспявалі спыніцца перад ахвярай. Часта ў кіроўцаў цягнікоў здараліся ад таго нервовыя зрывы, і ім даводзілася шукаць замену.

На супрацьлеглым баку платформы Марка Гіль на нейкі момант убачыў сяржанта Лумону ва уніформе з фуражкай на галаве і супакоіўся за той участак прасторы: пакуль міліцыянт паблізу, наўрад ці каму прыйдзе ў галаву кідацца побач пад колы. У сваім службовым запале, як успомніў “чысцільшчык” Гіль, Лумона днямі нават “наехаў” на адну з крамак у пераходзе, але нешта там не атрымалася — кіяскёраў шчыльна прыкрывалі зверху, і мулата асадзілі назад.

Між тым унутраная насцярога не пакідала інспектара Гіля. Пачуццё небяспекі нечакана зноў насунулася на яго, і ён рушыў да самага краю платформы. Такі знаёмы яму пах жыццёвай паразы ўжо, як ён адчуваў, лунаў у задушлівым паветры метро.

Раптам ён з трывогай і здзіўленнем убачыў дзяўчыну-спявачку. Тая спускалася ўніз па эскалатары. Капюшон яе курткі-кацавейкі быў глуха нацягнуты на галаву, так што бачныя былі хіба толькі вочы. Футляр з гітарай грувасціўся ў яе за спінай. Дзяўчына неяк подбегам заспяшалася да краю платформы. Выгляд у яе быў вельмі нервовы, і Марка Гіль непрыкметна паімкнуўся следам, так, каб увесь час знаходзіцца ўсутыч за ёй.

Цягнік набліжаўся. Ужо бачнае было святло яго фар, і да слыху даносіўся характэрны шум рухавіка. Капюшон. Ахвяры, як ён ведаў з відэазапісаў і назіраў сам, — перад тым, як скокнуць на рэльсы, чамусьці нацягвалі на галаў капюшоны, альбо яшчэ раней адпаведна апраналіся ў даўгія паліто, быццам тыя капюшоны і паліто маглі прынесці ім якую палёгку пры сутыкненні з лакаматывам. “Скакуны” кідаліся ўніз заплюшчыўшы вочы, перад усім зрабіўшы невялікі разбег, часта з кароткім, заячым крыкам.

Марка Гіль дакрануўся да пляча дзяўчыны.

— Здымі капюшон.

— А, гэта вы, — абярнулася да яго спявачка.

— Ніякі дурапляс не варты нават самага дробнага жыцця.

Са сваёй мінулай практыкі інспектар Гіль ведаў, што маладыя дзяўчаты ў перыяд гармանальнай ломкі, здаралася, гатовыя на самыя адчайныя ўчынкі. Нярэдка — з-за таго, што які-небудзь поп-спявак не адказаў ім на ліст. Ён бачыў такія лісты: абведзеныя далоні, пальцы з пафарбаванымі ў чырвонае пазногцямі, адбіткі пацалункаў з памадай, бязладны тэкст.

— Але ж ён зусім не такі, — пакрыўдзілася дзяўчына.

— І... ўвогуле, адкуль вы яго ведаеце? Я вам пра гэта не дакладвала, хоць і ўдзячная за дапамогу, але ж.

— Паводзьце сябе нармальна.

— Мне сказалі, хто вы. Вы што — сур’ёзна думаеце, быццам я магу...

Марка Гіль стаяў у дзяўчыны за спінай, гатовы адразу схапіць яе і адцягнуць назад. Цягнік між тым вынырнуў з тунеля і пачынаў тармазіць.

Дзяўчына не варухнулася. Лакаматыў праскочыў далей, пайшлі ўжо вагоны і — спынілася. Раптам дзяўчына замахала рукой і скінула з галавы капюшон. На платформу выскачыў высокі, хударлявы хлопец і абняў спявачку. Ён быў, як адзначыў Марка Гіль, коратка стрыжаны, з гожым тварам, проста апрануты, значыць не жыгала, не які дурапляс і не сутэнёр, — вырашыў інспектар. Хутчэй за ўсё — гэта закаханыя. Адчуўшы палёгку, Марка Гіль назіраў, як парачка ўзбіралася па эскалатары наверх.

Ён нейкі час ішоў следам, а потым вярнуўся на платформу, бо з супрацьлеглага боку на яе ўжо насоўваўся чарговы цягнік.

І тут “чысцільшчык” Марка Гіль убачыў, як прама перад ім, выскачыўшы аднекуль з-за спіны, з разбегу, пад колы лакаматыва кінулася знаёмая постаць сяржанта Тамаша Лумоны. Чамусьці адной рукой ён прытрымліваў на галаве форменную фуражку. Цела “скакуна” з глухім гукам адразу збіў лакаматыў, і яно рухнула ўніз, пад колы. Экстрэннае тармажэнне ўжо не дапамагло.

Праз паўгадзіны “чысцільшчык” Марка Гіль падняўся наверх, каб крыху “прамачыць горла”. Як ён даведаўся — у крамшчыкаў, а дакладней, у тых, хто прыкрывае, аказаліся даўгія рукі, і сяржанту Лумону перадусім загадалі напісаць ліст на звальненне.

“Праўнучка Арфея” яшчэ была на сваім месцы, але тут жа, як з унутраным задавальненнем адзначыў Марка Гіль, стаяў і яе “целаахоўнік”. Яго заплечнік ляжаў побач з футлярам ад гітары, куды ўжо прызямліліся некалькі дробных банкнот.

Дзяўчына спявала:
Не хадзі, не хадзі
На паўночны вакзал,
Не шукай сярод бледных
 і стомленых твараў,
Самы хуткі цягнік
Ужо грукоча між шпал,
Але позніца той,
Пра якога ты марыш...
Ты яго не чакай...

Інспектар Марка Гіль падняўся яшчэ вышэй, на самую паверхню. Там звыкла ішоў снег з дажджом. На небе імкліва і шчыльна беглі нізкія, дзіўнага колеру хмары, праз якія не прабіваліся сонечныя промні. Самое сонца выглядала ледзь бачнай светлавой плямкай.

“Урэшце так будзе яшчэ доўга, вельмі доўга”, — падумаў ён.

# Легалізацыя графіці

**Красавік у мастацкім жыцці сталіцы атрымаўся даволі насычаны на падзеі, у тым ліку на выставачныя імпрэзы, звязаныя з сучаснай выяўленчай творчасцю. Але і ў такой сітуацыі новы праект галерэі "Універсітэт культуры" звярнуў на сябе асаблівую ўвагу, бо гэта была першая ў Беларусі выстаўка работ маладых беларускіх мастакоў графіці.**







Культура вулічнага мастацтва (малюнкі балончыкамі з фарбай па сценах будынка, агароджы і г.д.), якая нарадзілася ў 1960-я гады, зрабілася вельмі папулярнай сярод моладзі ўсяго свету. На Захадзе графіці часта называюць "art crimes", падкрэсліваючы такім чынам яго несанкцыянаваны грамадствам статус. Аднак узнік і "легальны" кірунак гэтага мастацтва: у спецыяльна прызначаных для малявання месцах можна прадэманстраваць свой талент не на хуткасць, а на прыгажосць і якасць выявы.

Апошнім часам узнікла цікавасць да графіці і ў маладых прафесійных мастакоў, якія ствараюць яркія малюнкі, выкананыя аэразольнымі фарбамі ў псіхадэлічнай манеры. Менавіта творы такіх "легальных" мастакоў графіці і былі прадстаўлены ў галерэі "Універсітэт культуры" як прыклад графіці-мастацтва, асваення тэрыторыі графіці маладымі прафесіяналамі — студэнтамі і выпускнікамі нашых творчых ВНУ.

Відома, ажыццяўленне такога праекта — добрая магчымасць для правядзення дыскусіі. Таму да афіцыйнага адкрыцця выстаўкі прымяркоўваўся семінар на тэму "Грамадскае значэнне графіці ў Беларусі і магчымасць супрацоўніцтва грамадства з мастакамі графіці", наладжаны ў сценах галерэі. Запрошаныя мастакі, мастацтвазнаўцы і людзі, што цікавяцца графіці, разбіраліся з пытаннямі: што ёсць графіці — мастацтва ці хуліганства? Чым адрозніваецца беларускае графіці ад еўрапейскіх і заакіянскіх узораў? Таксама прысутныя разгледзелі феномен культуры вулічнага мастацтва, якое стварылася ў 60-х гадах мінулага стагоддзя і існуе выключна на вольным паветры.

Арганізатар выстаўкі, мастак графіці, студэнт факультэта міжнародных адносін БДУ Андрэй Янкавец і мастак графіці Сяргей Паўлавец распавялі пра сучаснае становішча мастакоў графіці, праблемы, якія існуюць пры наладжванні кантактаў з афіцыйнымі структурамі, цяжкасці пры спробах атрымання дазволу на легальны роспіс, на правядзенне фестываляў вулічнага мастацтва і г.д. Вядомы беларускі скульптар, кандыдат мастацтвазнаўства Павел Вайніцкі, які мае досвед жыцця ў Паўночнай Амерыцы, адзначыў адсутнасць у творчасці беларускіх графітчыкаў (назва мастакоў графіці) вострай сацыяльнасці, схільнасць беларускага графіці да формулы "мастацтва дзеля мастацтва", што пазбаўляе сэнсу існаванне графіці, якое стваралася менавіта як выклік буржуазнаму істэблішменту. Маладая мастачка, кандыдат мастацтвазнаўства Дар'я Іваноўская гаварыла пра магчымасць узаемаіснавання графіці і архітэктуры, уплыву графіці на фарміраванне камфортнага візуальнага асяроддзя нашага горада. Вядомая мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн адзначыла, што прадстаўленыя работы вызначаюцца адпаведным прафесійным узроўнем і, акрамя таго, сама выстаўка карысная і для старэйшага пакалення, бо спрыяе больш цеснаму знаёмству з маладзёжнай культурай, разуменню мовы і інтарэсаў сённяшніх маладых людзей.



На мой погляд, сваім нефармальным, неакадэмічным характарам гарадская культура графіці нагадвае традыцыйнае народнае мастацтва, якое, дарэчы, сышло ў нябыт у сувязі з вялікімі сацыякультурнымі зменамі, што паўплывалі на наш побыт. І цяпер новае жыццёвае асяроддзе нараджае новую, неэлітарную (у адрозненне ад сучаснага прафесійнага ці класічнага мастацтва) візуальную культуру. Даследчыкі знаходзяць у графіці і элементы манументальнага мастацтва, графікі, дызайну, але ж культура графіці стварыла свой уласны непаўторны стыль, выпрацавала сваю выяўленчую пластыку. Прычым, разглядаючы графіці як сацыякультурную з'яву сучаснага жыцця, трэба адрозніваць графіці-культуру — першабытна-стыхійную творчасць, праз якую гарадскія масы выяўляюць сябе, і графіці-мастацтва — напрамак прафесійнай дзейнасці, якое выкарыстоўвае эстэтыку і вобразную мову графіці, яго графічныя прыёмы і колераву гаму. Зразумела, недапушчальнае выкарыстанне яго, напрыклад, у гістарычным цэнтры горада, на помніках архітэктуры, у пад'ездах, але ў прамысловых зонах, знешні выгляд якіх здатны ўвагнаць чалавека ў дэпрэсію, або на невыразных шэрых будаўнічых і чыгуначных платах яно будзе дарэчы. Яркія графіці-малюнкі зробяць больш разнастайным і рознакаляровым аблічча гарадскіх прыгарадаў.

Ці ёсць будучыня ў беларускага графіці — гэта пытанне "на перспектыву". Заўважу, што апошнім часам афіцыйныя структуры ўсё ахвотней ідуць на супрацоўніцтва з мастакамі графіці, разумеючы, што больш плённа — накіроўваць такую творчую энергію моладзі ў легальнае рэчышча, чым змагацца з яе антысацыяльнымі праявамі. Напрыклад, пры арганізацыі масавых мерапрыемстваў гарадскія ўлады выдзяляюць графітчыкам пляцоўкі для роспісаў. Мяркую, што энергія нашых мастакоў графіці, з якімі я кантактаваў падчас падрыхтоўкі і адкрыцця выстаўкі, іх маладзёжная ўпартасць, максімалізм і скіраванасць на творчасць, нясуць у сабе станоўчы патэнцыял, а гэта настройвае на аптымізм.

Дзяніс БАРСУКОЎ,
дырэктар мастацкай галерэі "Універсітэт культуры"

На здымках: работы мастакоў графіці.

Фота аўтара

# Адкрылі... Англію!

У экспазіцыю Міжнароднай выстаўкі графікі "Арт-лінія", што ўжо трэці раз ладзіцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і прадстаўляе работы нашых сучаснікаў з розных краін, упершыню ўключана рэтрапраграма — больш як чатыры дзесяткі твораў слыннага англійскага мастака і архітэктара XIX стагоддзя Джозефа Нэша. Калекцыя арыгінальных графічных аркушаў, якой могуць пазайздросціць многія музеі, — сапраўдны скарб! А захоўваецца ён... у бібліятэчных фондах.

"Праз рэтрапраграму гэтай выстаўкі мы пачынаем прапаганду нашых здабыткаў, якія знаходзяцца ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, але пакуль не адкрытыя для публікі, — падкрэслівае галоўны куратар праекта "Арт-лінія", загадчык галерэйна-выставачнага аддзела НББ, старшыня Міжнароднай гільдыі жывапісцаў Фёдар Ястраб. — Графіка Джозефа Нэша з фондаў бібліятэкі выстаўляецца ўпершыню. Паглядзець гэтую экспазіцыю я рэкамендую ўсім калегам, ды найперш — студэнтам Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, бо многія сучаснікі могуць павучыцца ў Нэша высокаму майстэрству літаграфії".

Наведвальнікі выстаўкі маюць магчымасць азнаёміцца і з творчасцю англійскага мастака, і з яго біяграфіяй.

Нарадзіўся Джозеф Нэш (1808 — 1878) у мястэчку Грыт Мерлоў (Англія), быў старэйшым сынам яго прапаведніка Окі Нэша, які старшынстваваў у прыватнай школе. Адукацыю атрымаў у бацькавай школе і ў мастака А. Пуджына. У 1829 годзе суправаджаў А. Пуджына ў Парыж, каб дапамагчы яму ў падрыхтоўцы чарцяжоў (2 тамы) для Парыжа і яго ваколіц.

З 1830 года Джозеф Нэш пачаў працаваць у тэхніцы літаграфіі і неўзабаве стаў самым вядомым графікам-літографам. У пачатку кар'еры ён засяродзіўся на ілюстрацыйнай працы і на жанравых сцэнах, а таксама на архітэктурных пейзажах. Ствараў вялікія серыі літаграфій, у якіх са скрупулёзнай дакладнасцю ўвасабляў элементы архітэктурнага дэкору як інтэр'ераў, так і экстэр'ераў будынкаў, ад гатычнага стылю да стылю Цюдор (тры тамы, з 1832 года). Пачынаючы з 1839-га Дж. Нэш на працягу дзесяці гадоў вандраваў па краіне, рабіў эскізы і замалёўкі. Свае работы ён часта ажыўляў, уводзячы ў сюжэты фігуры людзей.

Творы Джозефа Нэша, які быў чальцом таварыства Старой акварэлі, з'яўляліся "настольнай кнігай" для архітэктараў, часта выкарыстоўваліся ў газетах, дый нават іншымі мастакамі. Яго работы знаходзяцца ў многіх музеях, у тым ліку ў Брытанскім музеі, і ў прыватных зборах. Каралева Вікторыя і прынц Альберт набылі 49 твораў Дж. Нэша для сваёй калекцыі. А зробленыя ім выявы з будынкам парламента знаходзяцца ў зборы Вестмінстэрскага палаца.

Калекцыя твораў Дж. Нэша, загадкавую гісторыю з'яўлення якой у фондах нашай бібліятэкі я ўсё ж такі спадзяюся высветліць у бліжэйшы час (вынікам сваіх пошукаў абавязкова падзялюся з чытачамі "ЛіМа"), — гэта не толькі "музейная" рэліквія. Праз выразныя каляровыя літаграфіі — у дэталях інтэр'ераў, кампазіцый з элементамі нацюрморта, пазнавальных назіральнасцю і гумарам жанравых замалёвак — перад намі адкрываецца і ажывае своеадметны свет старадаўніх англійскіх рэалій. Старажытныя англійскія асабнякі, вялікія залы, у якіх разгортваліся каларытныя сцэны сямейных святаў, старасвецкіх застолляў і гульняў, побытавых будняў, публічных урачыстасцей...



Рэтраспектыва Міжнароднай выстаўкі графікі "Арт-лінія" стане традыцыйнай, і стваральнікі гэтага праекта абяцаюць гледачам новыя адкрыцці, бо ў бібліятэчных фондах схавана яшчэ нямала мастацкіх сюрпрызаў.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: літаграфія Джозефа Нэша з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Фота Віктара Кавалёва

## Радуемся разам

"Харошкі", як вядома, — гэта не толькі танец і не толькі відовішча: гэта яшчэ і жывая музыка. Аркестр славутага харэаграфічнага ансамбля — неадменны ўдзельнік сцэнічных твораў Валянціны Гаявой — нярэдка выступае і з самастойнымі канцэртнымі праграмамі. Летась у Беларускай дзяржаўнай філармоніі распачаўся цыкл камерных вечароў гэтага аркестра, музычнае кіраўніцтва якім ужо тры гады ажыццяўляе кампазітар Марына Марозава. Нядаўна інструментальны калектыў Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага ансамбля "Харошкі" выступіў у Малой зале імя Р. Шырмы з новай праграмай "Дакрананне". Гэта быў аўтарскі вечар Марыны Марозавай, чые арыгінальныя разнажанравыя кампазіцыі і апрацоўкі вядомага музычнага матэрыялу з рэпертуару "Харошак" (да прыкладу, свежая версія п'ес "Полацкага сшытка") стварылі тонкую повязь настрояў і душэўных станаў, памкнення да спаконвечных традыцый і нязведаных далягляду творчасці. У канцэрце ўдзельнічалі вядомыя артысты, салісты Валерый Анісенка, Уладзімір Громаў, Тацяна Трацяк, Даша Мароз...

Пейзажы, партрэты, тэматычныя жывапісныя кампазіцыі Аляксея Кокцева ўспрымаюцца як шчырае і цікае прызнанне ў любові: да роднай зямлі, да людзей, на якіх, можна сказаць, гэтая зямля трымаецца, да самабытнай беларускай культуры. Выразнасць яго работам надае майстэрства, якое



выспявала пад кіраўніцтвам знаных настаўнікаў — Натана Воранава, Пятра Крохалева. "Ліпень на Палессі", "Свята ў Вязынцы", "Ратамка 9 мая", "Мікалаеўшчына", "Старажылы зямлі заслаўскай" — вось некаторыя назвы твораў Аляксея Кокцева, якія сёння ёсць у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, у фондах Беларускага саюза мастакоў і Міністэрства культуры Расіі. На пачатку вясны ў сталічным Палацы мастацтва прайшла персанальная выстаўка жывапісца, а неўзабаве ён стаў удзельнікам маштабнага калектыўнага праекта — Рэспубліканскай выстаўкі мастакоў "Краявід-2010".

Творы беларускіх мастакоў, чый лёс так або інакш звязаны з Вільняй (Вільнюсам), прадстаўлены на выстаўцы "Віленскія вобразы", што адкрылася ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Пераважаюць тут работы, звязаныя з яго імем — імем песняра героіка-рамантычнай эпохі беларускага руху, знітаванага менавіта з Вільняй пачатку XX стагоддзя. Тэма Вільні, прынамсі, Вільні беларускай, паяднала ў Купалавым доме жывапіс і графіку такіх розных аўтараў, як Мікола Селяшчук, Лазар Ран, Мікола Купава, Уладзімір Масленікаў ды інш. Сапраўдны дакумент эпохі — серыя літаграфій і малюнкаў нашага вядомага графіка Сямёна Геруса, які вучыўся ў Дзяржаўным мастацкім інстытуце Літоўскай ССР. А самы "свежы" набытак музея ў калекцыі мастацкай Купаліяны — партрэт маладога Купалы, створаны Алесем Ксяндзовым. Дарэчы, не так і даўно "ЛіМ" распавядаў пра наладжаную музеем выстаўку адной карціны, прысвечаную якраз гэтай рабоце знанага жывапісца.

Лана ІВАНОВА

На здымку: Аляксей Кокцеў "Зіма на возеры".

Фота аўтара



З нагоды спектакля Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі «Калі скончыцца вайна» паводле п'есы Паўла Пражко.

# Вечарам заўсёды цямнее

**Героі п'есы Паўла Пражко, пастаўленай Валерыем Анісенкам, жывуць надзеяй на хуткае завяршэнне вайны, малююць у сваіх мроях далейшае жыццё. Але і пасля вайны ў іх нічога добрага не будзе, жыццё не наладзіцца: закаханым Сашу і Тані не давядзецца нават абняцца — Сашу арыштуюць...**

Сцэна ўяўляе сабой два месцы дзеяння — пакой Тані (артыстка Вераніка Буслаева) і поле бою, дзе знаходзіцца Саша (Дзяніс Паршын). Паралельнае развіццё падзеі не толькі паказвае такое рознае жыццё-быццё двух блізкіх адно аднаму людзей, але і дэманструе духоўную сувязь герояў. Гэта выглядае цікава, але, здаецца, пазбаўляе спектакль дынамічнасці, падзеі разгортваюцца занадта марудна і нуднавата.

Філасофскі сэнс, на які настройвае назва пастаноўкі, не апраўдваецца самім дзеяннем. Спектакль увабраў у сябе ўсе магчымыя і немагчымыя штампы аповедаў пра вайну, і штучнасць таго, што адбываецца на сцэне, відавочная: адчуваеш, нібы не хапае паветра.

Найбольш заўваг у мяне да вобраза фраў Ані (яе цудоўна сыграла Настасся Баброва). Нянавісць, нежаданне жыць у зневажальных умовах, нават самагубства — усё можна прыняць на веру, калі б на яе руках не было дзіцяці. Мацярынскае пачуццё мусіць перакрываць моманты роспачы, што адступае перад думкамі пра дзіця, пра тое, як захаваць жыццё, калі не сабе, дык яму... З маналога фраў Ані вынікае: яна разумее, што ідзе на смерць. Але ж якая маці, нават самая інфантыльная, пойдзе на смерць разам з дзіцем? Тым больш, што ў гэтай жанчыны быў заступнік, які мог з хвіліны на хвіліну з'явіцца… Вось і атрымліваецца, што яе выбар — не ад безвыходнасці. Значыць аўтару трэба было ці гэтую безвыходнасць стварыць, каб яна адчувалася ў драматургіі, ці змяніць вектар паводзінаў, каб гераіня выглядала як маці, якая любіць сваё дзіця.

Вядома, нехта запярэчыць: маўляў, розныя бываюць маці, але такая, якая паўстае ў гэтай п'есе, наўрад ці можа кагосьці зацікавіць, а тым больш — выклікаць спачуванне. Дарэчы, амаль тое самае можна было паказаць без стварэння вобраза дзіцяці. Няўжо аўтар спадзяваўся, што прапанаваныя ім ход падзей выкліча пэўную рэакцыю ў гледача?

Хаця мне спадабалася ігра Дзяніса Паршына, малюнак яго ролі падаўся недастаткова канкрэтным. Цяжка сказаць нешта пра характар Сашы. Такое ўражанне, што і аўтары пэўна не ўяўляюць, які ён, іх герой: брутальны, без сантыментаў альбо чалавек настрою, бесхарактарны, які не ведае, у які бок пайсці са сваім юнацкім максімалізмам… Ён пранікаецца сімпатыяй да фраў Ані, абяцае дачку назваць у яе гонар, і адначасова праклінае, абзывае фрыцаўкай і вельмі злуецца, калі чуе нямецкую мову…

Уздзеянне гэтага сцэнічнага твора на гледача змяншаюць неапраўдана зацягнутыя маналогі (ці не пятнаццаць хвілін доўжыцца "вуснае напісанне ліста" Тані ў пачатку спектакля), безаблічныя кадры кінахронікі пад страляніну. Адсутнасць біяграфіі персанажаў і дэталёвай экспазіцыі замінае глыбокаму разуменню пастаноўкі. Балансаванне на паверхні вобраза стварае дыстанцыю паміж мараллю спектакля і праўдай жыцця.

Учынкі герояў падпарадкоўваюцца развіццю аповеда, а не вынікаюць з самых характараў. Усё, што адбываецца на сцэне, выклікае ўражанне хутчэй пераказу, пералічэння, чым самых падзей, звязаных паміж сабой унутранай лагічнай сувяззю. Магчыма, маё меркаванне выглядае старамодным, але п'еса пра вайну павінна быць напісана крывёй сэрца…

Страцíўшы цікавасць да сюжэтнага боку спектакля, я засяродзілася на ігры акцёраў. Артысты шмат унеслі ў гэты спектакль. Амаль адкрыццём для мяне сталіся аднолькавыя малітвы жанчын — Танінай маці (Галіна Чарнабаева) і фраў Ані (Настасся Баброва): "Зрабі так, каб скончылася вайна". Гэтыя словы нібы прамаўляліся вуснамі ўсіх, каму давялося жыць у тую страшную часіну. Вось яна, вяршыня спектакля!

Стварыць нешта новае ў гэтай тэме сёння цяжка. Жывыя сведкі ваенных падзей адыходзяць, а новае пакаленне "ловіць" дзесьці пачутыя матывы, па сутнасці, карыстаецца набыткамі папярэднікаў, таму і ўзнікае мноства асацыяцый з іншымі творамі мастацтва. Шкада, што, працуючы над п'есай драматурга-пачаткоўца, Валерый Анісенка, як масціты рэжысёр, не ўнёс у тэкст свой досвед у гэтай тэме. Драматург Павел Пражко захапіўся ж толькі тэмай, а не яе дэталёвай распрацоўкай. Ён эксплуатуе магчымасці "ваеннага" матэрыялу, дзеянне развіваецца занадта прастолінейна, усё празрыста, логіка драматургічнага развіцця не захоплівае, пераканаўчасць і мастацкая праўдзівасць ад гэтага не выйграюць. Нягледзячы на бліскучы акцёрскі склад, у спектаклі няма ніводнага ўзрушальна моцнага чалавечага вобраза: зусім мала і дзеяння, і паўнаты псіхалогіі. Чаканага пералому рытмікі відовішча не адбываецца. Усё прадказальна, таму і нецікава. Гэта, як у народнай прымаўцы "вечарам заўсёды цямнее" — ці то ісціна, ці то банальнасць...

Марына ДОЎГЕР

На здымку: сцэна са спектакля.

Фота Аляксандра Дзмітрыева

# «Славутыя продкі, былыя ліцвіны...»

**Куток старасвецкай беларускай шляхетнасці ў цэнтры Мінска ўразіў гасцей вернісажа**

**Спадкаемцамі прыгожых і даўніх традыцый айчыннай культуры адчулі сябе ўсе, хто завітаў на адкрыццё сталічнай выстаўкі "Шляхецкі скарб". Тут была прадстаўлена аўтарская калекцыя сцэнічных строяў, створаных мастачкай Наталляй Смаляк паводле матываў касцюмаў XVI — XVIII стагоддзяў. Яркімі эмацыйна-візуальнымі акцэнтамі ў атмасферы вернісажа сталіся выступленне спеўнага гурта "Тутэйшая шляхта" і дэфіле-прэзентацыя — можна сказаць, прэм'ера новых сцэнічных касцюмаў, выпрацаваных мастачкай, публічны паказ якіх дагэтуль не праводзіўся.**

Наталля Смаляк — з маладзейшага пакалення беларускіх мастакоў, якія працуюць у сферы сцэнічнага касцюма і мастацкага тэкстылю. Сярод актуальных напрамкаў дэкаратыўна-прыкладной творчасці яна ўпэўнена знайшла і заняла сваю нішу. Работы Наталлі вызначаюцца выразнай канцэпцыяй ды крэатыўным індывідуальным бачаннем. Ці не таму яны даволі шырока запатрабаваныя ў мастацкім свеце? Касцюмы, створаныя Наталляй Смаляк, можна ўбачыць на ўдзельніках прафесійных і аматарскіх калектываў Беларусі, Казахстана, Латвіі, Літвы, Малдовы, Польшчы, Расіі, Узбекістана, Украіны, Эстоніі, а яшчэ — у прыватных зборах амерыканскіх ды французскіх калекцыянераў.

Займаецца Наталля і аўтарскімі сцэнічнымі касцюмамі, і адзеннем pret-a-porter. А з кім супрацоўнічае? Адказам на гэтае пытанне можа быць доўгі пералік, у якім, напрыклад, — Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр, Дзяржаўны маладзёжны тэатр эстрады, ансамбль Віцебскай абласной філармоніі "Талака" і нават Цюменскі драматычны тэатр. Трэці год яна працуе ў партнёрстве з вытворча-мастацкімі прадпрыемствамі Беларускага саюза тэатральных дзеячаў, стварае сцэнічныя касцюмы для тэатральных пастановак, харэаграфічных і музычных імпрэз, шоу-праграм. І для творчых калектываў замежжа: хору "Камертон" з польскага горада Аўгустоў, фальклорнага ансамбля "Надзея" са сталіцы Латвіі, маскоўскага харэаграфічнага ансамбля "Россиянка". Трэці год яна "апранае" беларускі спеўны гурт "Тутэйшая шляхта", фальклорны ансамбль "Белые росы" з Санкт-Пецярбурга, тэатр танца "Синяя птица" (горад Гагарын, Расія). Ужо сёлета касцюмы "ад Наталлі" з'явіліся ў фальклорных ансамбляў "Маланка" і "Калінка" з Беластока.







Прафесійную адукацыю Наталля Смаляк атрымала ў Мінскім мастацкім вучылішчы імя А. Глебава, у БДУ культуры і мастацтваў. Сярод яе педагогаў — А. Непачаловіч, Л. Малахава, Т. Васюк, У. Масленікаў, У. Рынкевіч. Самастойнай творчасцю і выставачнай дзейнасцю занялася ў 1995 годзе, пасля заканчэння вучылішча; у 2003-м уступіла ў Беларускі саюз мастакоў. Яе работы ўдзельнічалі ўжо больш як у 30 гарадскіх, рэспубліканскіх, міжнародных выстаўках, фестывальных і конкурсных праектах. Наталля Смаляк мае дыплом міжнароднага конкурсу ў намінацыі "Мадэляванне адзення", што ладзіўся ў межах рэспубліканскай выстаўкі-конкурсу "Новыя імёны"; яна — лаўрэат III Міжнароднага конкурсу высокай моды нацыянальнага касцюма ў намінацыі "Рэтра нацыянальнага касцюма"; яе творчасць адзначана прэміяй спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. З 1998 года мастачка супрацоўнічае з рознымі сцэнічнымі калектывамі — тэатральнымі, канцэртнымі, фальклорнымі. Апроч таго, скончыўшы аспірантуру ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, Н. Смаляк займаецца навукова-даследчай дзейнасцю ў сферы гісторыі і тэорыі касцюма. Удзельнічае ў распрацоўцы культурных праектаў, скіраваных на папулярызацыю нацыянальнага касцюма ў сучасным грамадстве; выступае на навуковых канферэнцыях; публікуе артыкулы, прысвечаныя актуальным праблемам існавання касцюма ў сучаснай мастацкай культуры, узаемадзеяння беларускага і еўрапейскага касцюма; выдае аўтарскія вучэбныя праграмы па гісторыі і тэорыі касцюма і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Экспазіцыя "Шляхецкі скарб", наладжаная ў галерэі "Універсітэт культуры", дазволіла падзівіцца на рукатворную гармонію, высакародную дасканаласць унікальных сцэнічных касцюмаў, няспешна разгледзець і адмысловы крой, і някідкі, шыты бісерам, густоўны ўзор на дэталях; адчуць урачыстую рытміку зіхоткіх залатых ніцін у арнаментальнай аздобе... Яе Вялікасць Фантазія плюс грунтоўная дасведчанасць у традыцыях, у гісторыі развіцця айчыннай шляхецкай моды — гэты "дуэт" натхнёна шчыруе над шыфонам, аксамітам, атласам, парчой, сучасным жакардавай тканінай і поліэстэрам, каб са стракатага хаосу фактур і колераў паўстала мастацкае хараство.

Высокая эстэтыка касцюмаў з калекцый "Чорная панна Нясвіжа", "Белая дама Гальшан", новыя работы пад агульнаю назвай "Шляхецкі скарб" (сукенкі "Зіхоткі рубін", "Чарадзейны смарагд", "Чорны дыямент") абуджае ў глядацкім уяўленні адпаведныя вобразы. А яшчэ калі зусім побач пранікнёна спявае дуда і гучаць балады пра "славутых продкаў, былых ліцвінаў", чые постаці "з туману далёкіх вякоў паўстаюць", чые імёны і справы зберагае памяць сучасных беларусаў; калі алегорыі вакальна-харэаграфічнай кампазіцыі кранаюць аповедам пра вернасць і каханне, пра лёс нашага краю і чалавека на гэтай зямлі... Дык і сапраўды чуеш водгалас гістарычных падзей і легенд, шэпт неразгаданых таямніц Нясвіжа, Міра і Гальшан. Чуеш перазовы стагоддзяў. Верыш у неўміручы дух беларускай шляхетнасці...

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: мастачка Наталля Смаляк з удзельніцамі паказу яе новай калекцыі строяў; фрагмент выступлення гурта "Тутэйшая шляхта"; аўтарскі сцэнічны касцюм "Залаты россып", створаны паводле матываў гістарычнага адзення канца XVI — пачатку XVII стагоддзяў.

Фота Віктара Кавалёва




# Шчодрая зямля

Са слоў паэта, Столінскі раён на карце рэспублікі нагадвае сабою “вішнёвы лісток” з атожылкамі рэк: Прыпяць, Гарынь, Сцвіга, Стыр, Льва, Моства... Куточак зямлі, дзе чалавек нарадзіўся, для кожнага — самы прыгожы, мілы сэрцу і дарагі, лепшага краю не знойдзеш. Таму, з аднаго боку, мне лёгка распавядаць пра Столінскі раён, а з другога — па той жа прычыне і складана.

Адзін той факт, што Століншчына падаравала сучаснай беларускай літаратуры шэраг таленавітых пісьменнікаў, такіх, як Георгій Марчук, Міхась Шэлехаў, Алесь Наварыч, Леанід Дранько-Майсюк, Уладзімір Глушакоў, Сяргей Вабішчэвіч, — гаворыць, што на літаратурнай карце краіны яна займае адметнае месца. Але не толькі літаратурай услаўляюць палешукі Беларусь, гэта вельмі таленавіты, здольны і працалюбівы народ. Што ні вёска — свая гаворка, свая мелодыка маўлення, свае легенды і паданні, свая непаўторная гісторыя. Раён — адзін з самых густанаселеных, налічвае каля ста тысяч жыхароў.

Урадлівыя землі Пагарыння людзі аблюбавалі даўно, першыя пасяленні тут з’явіліся ў V — III тысячагоддзях да н.э. У адной з легенд пра паходжанне назвы Столін распавядаецца, што ў старажытнасці на рацэ Гарынь стаяла 12 гарадоў, у якіх княжылі сем князёў. Месцам правядзення сустрэч-сходак (“стала”) яны быццам бы выбралі менавіта Столін. На праўдзівасць легенды ўказваюць і назвы навакольных вёсак: Сямігосцічы, Радчыцк (у суседнім раёне Сямірадцы). Зноў жа, мясцовае паданне пра этымалогію назвы Вялікі Малешаў распавядае, што калісьці ў вёсцы жыў “князь” Малышаў, у якога было два сыны. Калі князь пастарэў, паклікаў дзяцей і падзяліў паміж імі зямлю, а сам памёр. Але браты не змаглі мірна ўжыцца, старэйшы адваяваў большы кавалак надзела і адасобіўся мяжой. З тых часоў і атрымалі развіццё два роды — Вялікага Малешава і Малога Малешава, цяпер так называюцца вёскі.

Прыгадаем вядомую версію пра паходжанне назвы Гомель: маўляў, ехалі плытагоны і караблі па рацэ, а з берага, папярэджваючы, крычалі: “Го! Мель!” — так і прывязалася назва да месца, якое потым сталі называць Гомель. У Столінскім раёне некалькі вёсак таксама ўтрымліваюць у назвах “мель”: Альгомель, Рамель і Хатомель. Для раёна з дзевяноста васьмю населенымі пунктамі такое паўтарэнне істотнае. Хочацца звярнуць увагу і на сістэматычны паўтор у назвах вёсак кораня “аль”: Альгомель, Альшаны, Альпень, Альманы. У слоўніку Уладзіміра Даля тлумачэнне слова “альга” падаецца як “топкае балота”, што адпавядае асаблівасцям геаграфіі мясцовасці: вёска Альманы стаіць на ўскрайку заказніка “Альманскія балоты” — найбуйнейшага ў Еўропе комплексу верхавых і нізінных балот, якія захаваліся да нашых дзён у натуральным выглядзе.



Можна меркаваць, што спакон вякоў людзі прыходзілі сюды ў пошуках лепшай долі і волі, магчыма, уцякалі ў пушчы і балоты ад прыгнёту. Гэта і наклала адбітак на характар палешукоў-столінцаў: яны працавітыя, шчырыя, вольналюбівыя і неўтаймоўныя, экспрэсіўна-энергічныя і імпульсіўныя.

Гісторыя Століншчыны звязана з прозвішчамі Скірмунтаў, Ордаў і Радзівілаў. Першая згадка ў пісьмовых крыніцах датуецца XII стагоддзем (Давыд-Гарадок), большасць узгадваецца ў XV — XVI стагоддзях; некаторыя населеныя пункты карысталіся Магдэбургскім правам і мелі свае гербы (Гарадная і Давыд-Гарадок). Захаваўся Радзівілаўскі парк, закладзены ў 1885 годзе, які і па сёння з’яўляецца своеасаблівай энцыклапедыяй для аматараў прыроды. Гісторыя вёскі Бяражное цесна пераплятаецца з гісторыяй роду Алешаў, старажытнага валынска-палескага роду, з якога паходзіў савецкі пісьменнік Юрый Алеша. “Палескай Венецыяй” назваў Уладзімір Караткевіч Давыд-Гарадок, у якім захавалася шмат археалагічных і гістарычных помнікаў, зберагаюцца народныя традыцыі. Такія вёскі, як Альшаны, Рубель, Цераблічы — захавальнікі народнай мудрасці і палескай побытавай культуры. Але асноўным багаццем Століншчыны застаюцца людзі — каштоўны скарб, узгадаваны прыўкраснымі краявідамі і шчодрай зямлёй.

Анатоль КУДЛАСЕВІЧ

На здымку: царскія вароты Свята-Троіцкай царквы ў вёсцы Белавуша на Століншчыне.

## Слова краязнаўцы



Сяргей Раманаў са Свіслачы расказвае пра ролю школьнага настаўніка гісторыі ў фарміраванні ўстойлівай цікавасці да краязнаўства:

— Цікавасць да гісторыі роднага краю ў мяне з’явілася ў апошнія школьныя гады. Тады яшчэ і ў думках не было, што калі-небудзь яна перарасце ў нешта больш значнае, ці, тым больш, стане адной з галоўных ідэй майго жыцця. У той час заняткі гісторыяй сваёй мясцовасці проста прыносілі мне маральнае і эстэтычнае задавальненне. У старэйшых класах вялікае ўздзеянне на фарміраванне маёй асобы і поглядаў аказаў мой класны кіраўнік, настаўнік гісторыі Аляксандр Пясецкі. Больш за тое, усё маё інтэлектуальнае жыццё можна падзяліць на два перыяды: да сустрэчы з Аляксандрам Валер’евічам і пасля яе. Гэты чалавек не проста выкладаў гісторыю — ён ёю дыхаў.

Менавіта падчас гэтых урокаў абудзілася ў мяне цікавасць да гісторыі Беларусі. Раней я аддаваў перавагу гісторыі сусветнай, лічыў яе больш цікавай і неабходнай для інтэлектуальнага росту. Сярод усіх сваіх вучняў настаўнік асабліва вылучаў мяне. Не тое, што я быў фаварытам, хутчэй наадварот — яго ўвага ператваралася ў вялікую патрабавальнасць. Так я стаў удзельнікам і прызёрам раённай і абласной алімпіяд па гісторыі.

Аляксандр Валер’евіч спрыяў і развіццю маёй цікавасці да краязнаўства, якім займаўся сам. Гэта было сапраўдным сутыкненнем з “рэальнай” гісторыяй, якую я пісаў самастойна, пачынаючы з нуля і заканчваючы гатовым гістарычным матэрыялам. “Ствараць гісторыю” самому было неверагодным захапленнем: праводзіць самастойнае даследаванне ў глыбіні стагоддзяў, расказваць пра раней невядомых асоб і падзеі. Гэта выклікала ў мяне жаданне працягваць займацца краязнаўчымі і гістарычнымі даследаваннямі.

Цяпер я вучуся на 4-м курсе гістарычнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Маё некалі напаўпрафесійнае, публіцыстычнае захапленне краязнаўствам эвалюцыянавала ў рэгіяналістыку — фактычна тое ж краязнаўства, толькі на шырокай навуковай аснове.

# Гімн Мінску

Пабачыла свет кніга “Мінская зямля” кандыдата тэхнічных навук, а таксама паэта і краязнаўцы Алеся Клышкі. У твор увайшлі аўтабіяграфічная паэма “Мінская зямля” і ўспаміны Ірыны Клышкі, сястры аўтара, з лірычнай назвай “Што табе сніцца, стары дом?”

Пра Мінск напісана шмат твораў, але гэта кніга — асаблівая. У ёй паказана знітаванасць лёсу чалавека, сям’і з лёсам роднага горада, роднай зямлі. Нездарма ж цалкам гарадскі твор Алеся Клышкі сваёй назвай перагукаецца з вясковай паэмай Якуба Коласа. А ўсім вядомыя першыя радкі “Новай зямлі” аўтар пераасэнсоўвае па-свойму: “Мой родны горад — // Ўсё знаёма — // Да кожнага, здаецца, дома”. І сапраўды, паэт добра ведае гісторыю Мінска, перажывае за яго будучыню.

У выданні змешчаны і фотаздымкі памятных месцаў сталіцы Беларусі.

Марына ВЕСЯЛУХА

# Свае назвы — свае паданні

Кожны народ мае свае ўяўленні і тлумачэнні ўсёй навакольнай рэчаіснасці. Нярэдка тое адбываецца ў форме легендаў і паданняў. Так, грэчаскія міфы ўпрыгожваюць антычны свет. Рымляне шануюць легенду пра дзікую ваўчыцу, што выкарміла заснавальнікаў Рыма… У Беларусі маюцца свае легенды, якія тлумачаць геаграфічныя назвы.

Вядома, складаная і працяглая гісторыя нашага краю адбілася і ў назвах населеных пунктаў, рэк, азёр, урочышчаў. Даследчыкі імкнуцца растлумачыць сучасныя і былыя назвы. Іх праца дапамагае асэнсаваць мінулае. На гэтай ніве плённа працуюць тапаністы В. Лемцюгова, А. Рогалеў. Прапануем чытачу матэрыялы пра паходжанне назваў геаграфічных аб’ектаў і легенды, звязаныя з імі. Гэтыя звесткі выяўленыя ў архівах Рускага геаграфічнага таварыства (1850 — 1873), старых кнігах, а некаторыя былі пачутыя ад мясцовых жыхароў.

Возера Мёрскае. Распавядаюць дзяды, што ў яго праваліўся звон. І таму часам над вадой чуваць, як ён звініць.

Возера Мёртвае на Ашмяншчыне называецца так, бо ў ім утапіліся людзі. А возера Няшчаснае займела сваю назву таму, што ў ім людзі працягваюць тапіцца.

Возера Кромань знаходзіцца ў Налібоках. Распавядаюць, што яно з’явілася на месцы горада Сігнат, які праваліўся пад зямлю на 50 сажняў.

У Махавым балоце на Сеневшчыне патанула царква. І таму з яго нетраў даносяцца гукі ад званіцы.

На Луцішчавым балоце на Чэрыкаўшчыне, як кажуць дзяды, водзяцца лесуны, якія ахоўваюць схаваныя там скарбы. Каб не палохацца тых лесуноў, трэба ў царкве падняць з падлогі падчас паклонаў парушынку і праглынуць яе.

Возера Аплічка ці Палік на Барысаўшчыне ўтварылася з крыніцы, якую адкапала свіння, калі пасвілася на лузе. Лічыцца, што яго назва паходзіць ад балтыйскага pelke (тарфянік, лужа). На поўдзень ад возера і сапраўды знаходзіцца нізіннае балота. У беларускіх энцыклапедыях возера фігуруе пад назвамі Палік (Пялік). Аплічкай яно называецца толькі ў архіўных дакументах РГТ. Напісанне Аплічка адлюстроўвае беларускі сінгарманізм. І адпавядае мясцоваму словаўтварэнню з прыстаўным а асмаленскі аражок (Арлоўка, Хоцімскі р-н).

Каля возера Усай на Лепельшчыне, ва ўрочышчы Прудзішча, у 1812 годзе французы схавалі скарб. Ён і сёння там знаходзіцца.

Круглае возера ў Прыдруйшчыне знаходзіцца на месцы, дзе некалі стаяў замак. З таго возера працяглы час, сцвярджаюць людзі, кожны тыдзень выходзіла вельмі прыгожая дзяўчына, якая гуляла з пастухамі.

Вада з крыніцы, што знаходзіцца каля мястэчка Баева ў Горацкім раёне вылечвае хворыя вочы людзям і коням.

У Тураўскім калодзежы – тры дны: меднае, срэбранае, залатое. Як прарвецца залатое дно – наступіць канец свету, а зямля ператворыцца ў суцэльны акіян. Так сведчыць легенда.

Назва возера Нарач, што на Мядзельшчыне, паходзіць ад жаночага імя Найрыта, Нара. Яна разам з любым Андрэйкам сустракала на беразе ўзыход сонца, але дзяўчыну падхапілі хвалі і забралі ў возера. І назвалі людзі яе імем возера.

Возера Свіцязь на Навагрудчыне ўзнікла на месцы аднайменнага горада. Не жадаючы быць зганьбаванымі ворагам падчас адной з асадаў, жанчыны папрасілі багоў, каб горад праваліўся. Так і сталася. І ўзнікла возера.

Іван ЯШКІН, мовазнаўца

## Культура слова

# Чалец

Можна зразумець выдатнага дзеяча беларускага нацыянальнага адраджэння, славутага вучонага і пісьменніка Вацлава Ластоўскага ў яго патрыятычным імкненні ачысціць родную мову ад усяго наноснага, адшукаць “рысы яе ўласнай асобнасці”. Ён даводзіў, што “кожнае чужое слова, занесенае ў мову, асімілюе, злівае мову з суседскай, забівае яе асобны характар, а таму трэба, асабліва пішучы, высцерагацца ўжываць сходныя з суседскімі словамі, хоць бы яны і былі ў мове, а браць такія, якіх няма ў чужынцаў, але жывуць у здаровай нашай стыхіі”.

Праўда, вышукваючы словы, якіх “няма ў чужынцаў”, Вацлаў Ластоўскі браў іх не са “здаровай стыхіі”, як сам заклікаў, а штучна канструяваў паводле блізкіх па значэнні выразаў. Так, агульнавядомае, лацінскага паходжання слова аборт ён рэкамендаваў замяніць на “народнае” — спарон, апетыт — на жадаедзь, арка — на аблук’ (ці выгба), бутон — на наквець (ці заквець), вітрына — на вылажка і г.д.

Вядома ж, прыжыцца такія штучныя, незразумелыя людзям наватворы не маглі. Тым не менш хтосьці часам спакушаецца на іх. Толькі ці на карысць гэта нашай мове?

Думаю, пры ўсёй павазе да вялікага патрыёта Беларусі Вацлава Ластоўскага не было ніякай патрэбы ўводзіць у нашу мову і гэты, скажам адкрыта, не зусім удалы яго наватвор — чалец.

Пагартайце беларускія летапісы, нашу вельмі багатую беларускую старажытную літаратуру, мнагатомную “Літоўскую метрыку”, “Статут Вялікага княства Літоўскага”, і вы пераканаецеся, што нашы продкі выдатна абыходзіліся без усіх гэтых “членаў”. Да прыкладу, як называліся “члены” найвышэйшага органа дзяржаўнай улады Вялікага княства Літоўскага — Рады ВКЛ? Ды па-беларуску проста — радцы (або райцы), а яшчэ — паны-рада, радныя паны (ці мужы) і, карацей,— радныя. А “члены” магістрата (выбарнага адміністрацыйнага і судовага органа самакіравання гарадоў у ВКЛ), які складаўся з гарадской рады і лавы, называліся адпаведна — радцы (райцы) і лаўнікі. Успомнім яшчэ брацтвы — сярэдневяковыя рэлігійныя арганізацыі. Тых, хто ў іх уваходзіў, таксама называлі проста — братчыкі. Не было ніякіх “членаў” і ў віленскіх згуртаваннях беларускай моладзі “Таварыства філаматаў” і “Таварыства філарэтаў”, вывучэннем дзейнасці якіх я ў свой час займаўся. “Мы — філаматы”, “мы — філарэты”, “я — філамат”, “я — філарэт” — так называлі яны сябе. А згадаем нядаўнюю гісторыю. Як называліся “члены” розных партый у мінулым стагоддзі, асабліва на яго пачатку? Членамі партый? Проста — кадэты, эсэры, хадэкі, эсдэкі, бундаўцы, бальшавікі, меншавікі, камуністы...

А калі ўжо абавязкова трэба назваць сваё членства (чальцоўства?), то чым кепскія нашы звычайныя, спрадвечныя словы: таварыш, супольнік? “Я — таварыш сацыялістычнай партыі”, “Я — супольнік краязнаўчага таварыства”. Нязвыкла гучыць? Ды гэта таму, што навязлівы канцылярызм член выціснуў з нашай мовы ўсё жывое, народнае, сапраўднае. Тым больш ці варта замяняць яго іншым, толькі болей вычварным канцылярызмам — чалец?

Зрэшты, канцылярызмы трэба, мусіць, і пакінуць канцылярыям. Па-мойму, там месца і слову член, якое як сінонім супольніка і таварыша (але не сябра, што ўспрымаецца ўсяго як прыхільнік арганізацыі) больш натуральна будзе гучаць у афіцыйнай мове, у дзелавых дакументах. Балазе член — гэта агульнаславянскае, а не толькі рускае слова. Ёсць яно ва ўкраінскай, у балгарскай, чэшскай, славацкай мовах і — з відазмяненнямі — у польскай (członek) і сербскахарвацкай (члан).

Кастусь ЦВІРКА





З Лявонам Баразной мы землякі — талачанцы. Але ён жыў на станцыі Талачын, а я — у зарэчнай частцы мястэчка. А гэта чатыры кіламетры адлегласці. І вучыліся да вайны мы ў розных школах, ён — у няпоўнай сярэдняй на станцыі, а я — у гарадской сярэдняй № 2. Таму і не ведалі адзін аднаго. Упершыню гэтае імя пачуў прыблізна за год да пачатку вайны. Было гэта пры такіх акалічнасцях.

# Вучні аднаго часу

Маляваць я пачаў рана і неўзабаве стаў "прызнаным мастаком" не толькі дома, у класе, але і ў маштабе сваёй вуліцы і нават мамінай работы (яна працавала паварыхай у сталоўцы). І вось, калі прынёс туды чарговы "пейзаж на шкле" і падарыў яе сяброўцы-афіцыянтцы, мяне пахвалілі і накармілі смачным абедам. А адна жанчына пасля порцыі пахвалаў на мой адрас сказала:

— Я ведаю яшчэ аднаго такога мастака ў нас на станцыі (яна там жыла), гэта Алены Баразніхі сын — Лёня.

Неўзабаве мы пазнаёміліся. Адбылося гэта выпадкова. Летам 1940 года пайшлі мы — хлопцы з нашай вуліцы — купацца пад чыгуначны мост. Там была і кампанія станцыйных мальцаў. Кінуўся мне ў вочы плячысты, сінявокі хлапец, які спрытна даваў нырца з берага і да якога станцыйныя мальцы ставіліся як да прызнанага завадатара. Звярталіся да яго — "Лёнька". Наваколле каля вірка буяла стракатай зелянінай непралазных хмызнякоў, над якімі ўзвышаўся старасвецкі парк былога пана Багінскага. Хваёва-яловы парк сваёй густацёмнай зелянінаю ўрачыста адцяняў залітае сонцам празрыстае мора кустоўя. Абсыхаючы пасля купання і грэючыся на сонцы, хлопцы завялі гаворку пра гэту прыгажосць. Адзін са станцыйных мальцаў, звяртаючыся да таго ж мажнога завадатара, папытаўся:

— Скажы, Лёнька, а ты б такое намаляваў?

Той агледзеўся і з шырокай, шчырай усмешкай упэўнена адказаў:

— А чаму б і не! Вось збяруся дый напішу.

Тады мне і цюкнула: "Ці не той гэта Лёнька — Алены Баразніхі сын, пра якога казала ў сталоўцы афіцыянтка."

Разгаварыліся. Я сказаў, што таксама малюю. Ён слухаў, з недаверлівай усмешкай глядзеў на шчупленькага дзесяцігадовага падшыванца.

Высветліў, што ён у пятым класе, а я — чатырохкласнік. Ён палагоднеў і, развітваючыся, нават запрасіў да сябе. Я ахвотна згадзіўся.

З гэтае пары я час ад часу наведваў яго дом. Ведаў усю Баразноўскую сям'ю: Лявонаву старэйшую сястру Раю, малодшага брата Юліка, негаваркога і, можа, крыху суровага бацьку Цімоха і заўсёды ветлівую, са стрыманай усмешкай, па-сялянску шчырую маці Алену Андрэеўну. На сцяне ў зале вісеў фотапартрэт старэйшага з дзяцей, Анатоля, які ў той час служыў у войску (ён загінуў на фронце ў пачатку вайны).

Пазней я даведаўся, што на станцыю Талачын сям'я пераехала з вёскі Новае Сяло, калі там пачалася прымусовая калектывізацыя (Лявон нарадзіўся яшчэ ў вёсцы). Адбудавалі тут сваю сядзібу і жылі тыповым для мястэчка паўсялянскім манерам. Бацька працаваў на чыгунцы вартаўніком, потым кладаўшчыком на чыгуначным складзе; маці вяла гаспадарку дома.

Лёнька зрэдку бываў і ў нас, на Зарэччы. У час першага візіту, аглядаючы мае "творы", часам чмыхаў, часам усміхаўся, а часам і хваліў. Але пейзажы на шкле і яго ўразілі, хоць не прыпомню, каб ён сам калі выкарыстаў такі спосаб малявання.

Пачалася вайна, акупацыя. Наша сям'я перабралася ў вёску Варгуццева Круглянскага раёна і асела ў дзедавай хаце. Але ўвосень 1941 года дайшлі да нас чуткі, што мястэчкавыя хаты, у якіх не засталося жыльцоў, разбіраюць на дровы. Шкада стала сваёй хаты, і мы з мамаю вярнуліся ў Талачын; сёстры ж засталіся ў вёсцы.

Мястэчка было не пазнаць. Цэнтральныя будынкі папалілі пры адступленні. На пустках і пажарышчах людзі прадавалі хто што мог (не раўнуючы, як цяпер). Мае аднакласнікі гандлявалі цыгарэткамі паштучна, прадавалі за маркі ці рублі пярсцёнкі, завушніцы ды іншае, што за саветамі выйшла з ужытку.

Зарэгістраваліся мы ў гарадской управе, а ў сваю хату пусцілі кватарантаў. І мне пашчасціла — кватарантам стаў мастак Васіль Пятровіч Ананьеў. Мастак, як пазней я зразумеў, ён быў не дужа які. Але скончыў Пензенскае мастацкае вучылішча, рука ў яго, як кажуць, была набітая. За хвіліну-другую мог зрабіць шаржаваны партрэт, з фотаздымкаў маляваў партрэты алоўкам ці вугалем.

Ён трапіў у палон пад Оршай. Як і іншых, яго змясцілі ў Талачынскі лагер ваеннапалонных, што размяшчаўся каля моста цераз Друць, на месцы былога савецкага лагера зняволеных, якія перад вайной будавалі магістраль Масква — Мінск. Тут яго "апазнала", назваўшы сваім мужам, адна жаласлівая жанчына і за кавалак сала выкупіла з палону. З ёй і ажаніўся. Так ён стаў "прыпіснікам" — палонным, які кожны тыдзень абавязаны быў праходзіць рэгістрацыю ў гарадской управе. Прыпіснікам, як і зарэгістраваным жыхарам, давалі на дзень па 10 пфенінгаў, што адпавядала рублю. За гэтыя грошы ў сталоўцы раз на дзень можна было з'есці абед — талерку "зупы" з падмерзлай бульбы, лыжку кашы з такой самай тоўчанай бульбы і лустачку хлеба. Васіль Пятровіч быў чалавек энергічны, разваротлівы і, каб пракарміцца, распачаў "сваю справу": браў заказы на маляванне дываноў, партрэтаў, размалёўку хусцінак, сарочак ды іншага ходкага на той час тавару.



Даведаўшыся, што я сяк-так малюю, ён узяў мяне ў памагатыя. На сцяне я нацягваў паношаную льняную прасціну, грунтаваў і наносіў найчасцей стандартны малюнак, які быў даспадобы гаспадару-заказчыку: ці то было "лебядзінае возера", ці копія з якой карціны, ці які лубок. Напачатку мне давяраўся толькі падмалёвак, а апошнія "ўдарныя" штрыхі наносіў сам Васіль Пятровіч.

У ход ішла хоць якая малярная фарба, абы давала колер. Партрэты ён найбольш любіў маляваць вугалем на белай баваўнянай палатніне, нацягнутай на падрамнік. Вугальны пыл замацоўваўся на палатне малаком праз пульверызатар. Вугаль выпальвалі самі з бярозавых галінак, без доступу паветра: у кансерваваную бляшку ставілі нарэзаныя галінкі пэўнага памеру, засыпалі пяском, абмазвалі глінай і кідалі ў жар выпаленай печы. З чорнай ды з многімі землянымі фарбамі пра-



блем не было. Сажу выскрабалі ў коміне і доўга расціралі на камені абухом сякеры. У кар'еры пад Талачыном было шмат вохрыстага каменю, і яго таксама расціралі і разбаўлялі перакіпячоным алеем. Горай было з іншымі фарбамі — яркіх колераў.

На пачатку зімы 1941 года, ідучы ў сталоўку на традыцыйную "зупу", у самым цэнтры мястэчка я ўбачыў шыльду "Художественная мастерская". Зайшоў. У вялікім задымленым пакоі было шмат людзей.

І якое ж было маё здзіўленне, калі ўбачыў там Лявона. Ён сварыўся, з нечым не згаджаўся. Убачыўшы мяне, сумеўся, а потым ляпнуў дзвярыма і выбег з пакоя. Мы пайшлі на вуліцу, і ён пачаў расказваць пра гэтую "кантору-шарагу", дзе працаваў некалькі месяцаў. Майстэрню гэтую стварыў нейкі Мішка (прозвішча не памятаю, бо ўсе ведалі яго па мянушцы "Мішка-капіталіст"). Гэта быў прайдзісвет, які сам не ўмеў нічога рабіць, але лічыўся гаспадаром майстэрні: браў заказы, наймаў "у мастакі" кожнага, хто даваў згоду, і выдаваў грошы "на прапітанне". Эксплуатаваў бязлітасна.

Узімку 1941 — 1942 года майстэрню Мішкі-капіталіста пакінулі чатыры мастакі і на асновах кааперацыі адчынілі сваю майстэрню. Заснавальнікамі яе былі Мікалай Апанасавіч Гералюк, наш кватарант Васіль Пятровіч Ананьеў (фармальна лічыўся загадчыкам), Рыгор Сымонавіч Высоцкі ды Ігар (прозвішча не памятаю). Усе яны былі з палонных, за выняткам мясцовага — талачынца Высоцкага. Майстры-заснавальнікі мелі права набіраць сабе вучняў, у лік якіх трапілі я і Лявон.

Мераю аплаты за партрэт ці пейзаж алеем былі 2 ці 3 кіло солі; усё астатняе прыводзілася ў адпаведнасць з гэтым эквівалентам: 2 кг солі = 1 кг сала, 1 кг солі = 2 дзесяткі яек; 2 кг солі = 10 фунтаў жыта і г.д. Вучням перападала не больш за 10 працэнтаў кошту заказа. Лявон першым узбунтаваўся супраць такой абдзіралаўкі і патрабаваў увесці катэгорыю падмайстра. Майстры не згадзіліся на шматступеневую градацыю. Лявон пакінуў майстэрню і пачаў працаваць самастойна дома.

Найбольш выгадныя былі заказы цэркваў, якія ў той час пачалі адчыняцца паўсюдна, дзе ацалелі бажніцы. Першым значным царкоўным заказам быў вялізны абраз "Маленне пра чашу". Перамалёўка рабілася з маленькага літаграфічнага адбітка грэцкага паходжання. Абраз быў даўгі — на ўсю даўжыню нашай хаты (у майстэрні такога доўгага пакоя не было). І калі яго клалі на спінкі двух ложкаў (а малявалі мы яго з Ананьевым дзён дзесяць-пятнаццаць), начаваць даводзілася пад гэтым абразом.

Калі занеслі гэты абраз у царкву, то ўбачылі там ужо ўсталяваны ў левай частцы іканастаса вялізны абраз Ісуса Хрыста на поўны рост. Ён быў такога ж памеру, як і "Маленне пра чашу", але размешчаны гэтак высока, што босыя ногі Хрыста апынуліся на ўзроўні вачэй гледача, таму ўся постаць, узнятая пад столь, успрымалася непрапарцыянальнай.

І калі Ананьеў даведаўся, што аўтар яго — Баразна, пачаў ганіць работу "саматужніка", процiпастаўляючы і захвальваючы сваю. Гэта непрыемна ўразіла і на наступны дзень я ўжо быў у сябра. Пераказаў яму гэтую сітуацыю. Узрушаны Лявон бажыўся, што не бачыў, дзе паставілі абраз, і адразу ж пабег у царкву. Царква была зачыненая, мы пайшлі да царкоўнага старасты, які жыў недалёка, у нізенькім дамку над рэчкай Шчань. Пры гаворцы я не прысутнічаў, але ведаю, што Лявон браў абраз на дапрацоўку і дамовіўся перавесціць яго ніжэй, каб не ствараць уражання непрапарцыянальнасці.

Неўзабаве Лявон вярнуўся ў майстэрню, але ўжо як падмайстра.

Паўтара года працавалі мы з раніцы да вечара. Але гэта былі і вясёлыя, і радасныя часы, калі работа да стомы спалучалася з навучаннем любімай справе.

Вясною 1943 года Лявонаў бацька пайшоў у партызаны. Сям'я, каб не зазнаць рэпрэсій ад немцаў, пусціла пагалоску, што бацьку забралі ў партызаны пад прымусам, перахапіўшы па дарозе са станцыі ў мястэчка Талачын. У майстэрні Лявон таксама трымаўся версіі пра гвалтоўны захоп, але мне ён расказаў праўду.

У маі таго ж года ў нашу майстэрню, як і ў іншыя ўстановы, прынеслі загад каменданта горада: кожны кіраўнік установы ці прадпрыемства павінен даць пісьмовае "ручацельства" за кожнага са сваіх падначаленых. Падпісаўшы такое "ручацельства", начальнік у выпадку выяўлення сувязі з партызанамі ці пераходу да партызанаў каго з падначаленых нёс персанальную адказнасць па законах ваеннага часу.

У майстэрні ўсчаўся перапалох. Фармальны начальнік Ананьеў стаў прасіцца, каб яго перавыбралі ці вызвалілі ад такой пасады, бо ён не можа даць падпіску за ўсіх. Ён не быў ні антысавецчыкам, ні калабарантам, але прыродная баязлівасць і жорсткасць ваеннага часу рабілі сваё. Ананьева выклікалі ў гарадскую ўправу да бургамістра, зрабілі "ўліванне", прыгразілі і ён падпісаў тую паперу, але са спісу выкрасліў прозвішчы Баразны і маё.

Так мы з Лявонам сталі нядобранадзейнымі і тым самым лічыліся зволенымі. Але раз ужо распачалі падрыхтоўчую работу для Талачынскай царквы, нам дазволілі яе завяршыць. Гэта быў вялікі памерамі абраз (1,5х2,5 метра), які павінен быў вісець над алтаром, над царскімі варотамі. Дамовіліся з царкоўнай адміністрацыяй, што гэта будзе "Тайная вячэра". За ўзор узялі каляровы адбітак аднайменнай карціны Леанарда да Вінчы.

На развітанне Гералюк намаляваў Лявонаў і мой партрэты і падарыў нам. Пазіравалі мы па два дні. Мой партрэт і да сягоння вісіць у маёй кватэры, а Лявонаў не ведаю, дзе падзеўся, пасля вайны я яго не бачыў.

Гадоў праз дваццаць пасля вайны карціна "Тайная вячэра" яшчэ вісела на тым месцы, дзе яе змясцілі пасля асвячэння. Унізе, на масіўнай калоне перад алтаром, размяшчалася і мая карціна "Нараджэнне Хрыстова", а на левым баку сцяны — высачэзны абраз Ісуса Хрыста, напісаны Лявонам. Праўда, карціна пацямнела, бо карысталіся мы выпадковымі пакостамі, часам малярнымі бяліламі ды іншымі фарбамі, прызначанымі для афарбоўкі сцэнаў. Некалькі гадоў таму я зноў пабываў у той самай царкве. Карцін гэтых там ужо не было — перароблены ўвесь інтэр'ер царквы, перамаляваны ўвесь іканастас.

Язэп ХАЎРАТОВІЧ

Падрыхтаваў да друку Зміцер Санько

На здымках: Л. Баразна і Я. Хаўратовіч; Л. Баразна падчас працы; работы Л. Баразны — узор жаночага строю з мястэчка Правыя Масты; карціна "Роздум".

Фота В. Кавалёва і з архіва Я. Хаўратовіча

# У стылі мінулых эпох

Як ужо паведамлялася, у "ЛіМ-гасцёўні" будуць сустракацца адметныя творчыя асобы, паяднаныя агульнымі інтарэсамі і памкненнямі. Гэтым разам у "ЛіМ-гасцёўні" — навукоўцы, своеасаблівым магнітам прыцягнення для якіх стала асоба доктара філалагічных навук, загадчыка аддзела рэдкай кнігі Расійскай нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу, ураджэнца Беларусі Мікалая Нікалаева. У рэдакцыі "ЛіМа" гаворка вялася пра перавыданне твораў старажытнай літаратуры. Асаблівая ўвага была, вядома ж, да факсімільных выданняў, якія ўзнаўляюць не толькі помнік літаратуры, але і кнігу як твор мастацтва.

**Мікалай Нікалаеў,** ***доктар філалагічных навук, загадчык аддзела рэдкай кнігі Расійскай нацыянальнай бібліятэкі:***

— Распачынаючы размову пра факсімільныя выданні, трэба пералічыць, якія ўвогуле кнігі былі факсімільна ўзноўленыя ў нашай культуры. І вось што я змог прыгадаць, едучы ў цягніку: факсімільна выдадзена Біблія Францыска Скарыны, "Другое чытанне для дзяцей беларусаў" Якуба Коласа, "Жалейка" Янкі Купалы, "Вянок" Максіма Багдановіча, зборнік вершаў "Матчын дар" Алеся Гаруна. Выходзілі ў нас таксама Тураўскае Евангелле, "Гіпіка" Крыштафа Манівіда Дарагастайскага, Друцкае Евангелле (абсалютна не здавальняюча, у чорна-белым варыянце, а ў старажытнай кніжнай культуры перапісчык карыстаўся, акрамя чорнага чарніла, і кінаварам — чырвоным, і гэта мела вялікае значэнне. Таму атрымалася, што напалову каштоўнасць выдання як факсімільнага згубілася). Катэхізіс Сымона Буднага быў перавыдадзены некалькі разоў і ў Беларусі, і ў Германіі, Статут ВКЛ 1588 года — у выглядзе рэпрынта, трэці том "Живописной России" Адама Кіркора перавыдадзены безнадзейна кепска з парушэннем фармату. Таксама факсімільна выйшлі поўныя камплекты газет "Наша Ніва" і "Наша доля". Дастаткова выданняў помнікаў старой беларускай кніжнасці ажыццяўлялася за межамі нашай краіны: Статут ВКЛ 1529 года выходзіў у Літве, досыць прыстойна выдадзены "Трышчан" у Польшчы. У Германіі і Польшчы выходзіла Брэсцкая Біблія, таксама ў Германіі выходзіла "Евангелле" Цяпінскага, "Панегірык Станіславу Богушу-Сестранцэвічу ад беларускай правінцыі ордэна кармелітаў" (Магілёў, 1781) перавыдаваўся ў Кракаве. У Лондане Чэслаў Сіповіч выдаў Богаслужбоўнік, напісаны беларускай і лацінскай мовамі. Выдатна выдадзены Кіеўскі Псалтыр у Маскве і Радзівілаўскі летапіс у Санкт-Пецярбургу, "Мастацтва музыкі" Сігізмунда Лаўксміна ў Вільні. Спіс можна доўжыць.

Сёння добрую праграму па факсімільным выданні помнікаў культуры ажыццяўляе выдавецтва Беларускага Экзархата. Слуцкае Евангелле яны ўжо выдалі — у цэлым добра, хоць атрымалася яно трохі "залакіраванае", з фантазійным пераплётам, які, безумоўна, салідны і прадстаўнічы, але вельмі сучасны — згубіўся стыль эпохі. Далей ідуць размовы пра факсімільнае выданне Лаўрышаўскага Евангелля, а таксама Полацкага Евангелля — гэта самая старажытная кніга, якая захавалася цалкам, адна частка знаходзіцца ў Маскве, а другая — у Пецярбургу. Таму факсімільнае выданне дазволіць зрабіць і рэканструкцыю твора кніжнай культуры.

Ступень навуковай падрыхтоўкі факсімільнага выдання можа быць рознай. Можна выдаць кніжачку вершаў "адзін у адзін" з арыгіналам, без усялякіх каментароў, як выдавалі Якуба Коласа. А, напрыклад, да факсімільнага паўтору Радзівілаўскага летапісу дадаецца цэлая таміна навуковых каментарыяў.

Якія помнікі я лічу вартымі менавіта факсімільнага выдання? Безумоўна, Андыгавенскі легендарый. Гэта знакавая кніга для беларускіх каталікоў, бо яна была падараваная каралевай Ядвігай, калі Ягайла прыняў каталіцкі хрост. У XVII стагоддзі кніга пайшла з Беларусі і сёння захоўваецца ў Ватыкане. Яна з мініяцюрамі, на лацінскай мове, патрабуе перавыдання з навуковым каментарыем. Таксама віленскі Тлумачальны Псалтыр з Расійскай нацыянальнай бібліятэкі — вельмі прыгожая кніга як помнік мастацтва. Навукоўцы Пушкінскага дома лічаць, што яна была напісаная ў Кірыла-Белазерскім манастыры, і яны маюць рацыю, там ёсць тэксты, якія цягнуць на манастырскія. Але я руку даю на адсячэнне, што пераплёт зроблены ў Вільні і частка мініяцюр віленскай альбо супрасльскай работы. Што яшчэ прыгожае хацелася б мець у факсімільным варыянце? Мсціжскае Евангелле, якое захоўваецца ў Вільні, і Мсціслаўскі Псалтыр, які знаходзіцца ў Маскве. Кнігі выкананы ў тэраталагічным, "звярыным" стылі — ўпрыгожанні на ініцыялах і застаўках — рамяні, у якія ўплеценыя птушкі, людзі, розныя фігуры і нават, як пісаў акадэмік Барыс Рыбакоў, "душы людзей, якія заблыталіся".

Ёсць яшчэ фенаменальны рукапіс, які патрабуе факсімільнага ўвасаблення, "Дзесятаглаў" Мацвея Іаанавіча — першая рукапісная беларуская Біблія, 748 старонак, помнік рэнесанснага мастацтва каліграфіі. Аднойчы я па просьбе выдавецтва Беларускага Экзархата спытаў у бібліятэцы Акадэміі навук Расіі, колькі каштуе зрабіць здымку гэтага помніка. Яны назвалі такія лічбы, што выдавецтва спыніла перамовы: занадта дарагая прыемнасць.

Ёсць яшчэ адзін помнік, на які я "западаю". Напісаны на польскай мове гатычным шрыфтам, усяго 17 старонак, але ён страшна цікавы па змесце. Кніжка выдадзеная ў Слуцку, у Радзівілаўскай друкарні, называецца: "Аб злучэнні рэк Прыпяці і Мухаўца". Гэта ідэалагічная праграма пабудовы Днепра-Бугскага канала ў XVII стагоддзі, абгрунтаваная з ваенна-стратэгічнага пункта гледжання таго часу. Можна было б выдаць і Статут Слуцкай гімназіі, самай старажытнай у Беларусі, надрукаваны ў Любчанскай друкарні таксама готыкай на лацінскай мове. Пакуль няма факсімільных выданняў беларускіх ірмалагіёнаў – кніг, па якіх спявалі ў праваслаўнай, уніяцкай і каталіцкай царкве. Можна было б спалучыць з мультымедыя і выдаць факсіміле ірмалагіёна разам з дыскам са спевамі.



Мікалай Нікалаеў, Галіна Кірэева, Сяргей Гаранін і Вячаслаў Чамярыцкі.

Наступныя помнікі, якія я бачу вельмі важнымі для перавыдання — дзіцячыя кніжкі 1920-х — 1930-х гадоў. Гэта асобная страчаная галіна нашай культуры. Яны напісаныя і вельмі цікава праілюстраваныя многімі выдатнымі аўтарамі і мастакамі, якія былі рэпрэсаваныя (напрыклад, Г. Змудзінскім). Многія кніжкі ў Беларусі адсутнічаюць, але захаваліся ў Пецярбургу. Напрыклад, вершаваная кніжка Анатоля Зімёнка "Звяры нашых лясоў". Бліскучая рэч таксама — лемантары для непісьменных дарослых. Самыя лепшыя — гэта лемантар "Ударнік" гродзенскіх аўтараў і "Лемантар дзеля ўзрослых" для ваенных: у ім, дапусцім, не "мама мыла раму", а "наша рота страляе" — і побач малюнак з чырвонаармейцамі, якія страляюць. Гэта выдатны помнік эпохі, факсіміле, мне здаецца, можна было б нават прадаваць турыстам на "Лініі Сталіна".

"Наша Ніва" выйшла факсімільна, але варта было б перавыдаць і краязнаўчы часопіс "Наш край", добра, каб камплект часопіса быў ва ўсіх абласных і раённых бібліятэках, каб краязнаўцы бачылі глыбіню гісторыі кожнага рэгіёна Беларусі.

**Сяргей Гаранін,** ***кандыдат філалагічных навук, загадчык сектара гісторыі беларускай літаратуры Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі:***

— Факсімільнае выданне мае сэнс, калі кніга з'яўляецца помнікам мастацтва. Напрыклад, выдаюць евангеллі, бо кнігі ўпрыгожаныя, старажытныя, яны самe па сабе каштоўнасць. Калі нас цікавіць толькі тэкст, то можна набыць евангелле на свой густ у царкоўнай крамцы. Да таго ж, трэба мець на ўвазе, што факсімільнае выданне —- надзвычай дарагая справа. Зразумела, што іх колькасць заўсёды будзе абмежаваная. Таму існуе неабходнасць і ў навуковых выданнях, якія адпаведным чынам узнаўляюць рукапісны тэкст арыгінала, з адпаведным каментарыем, разлічаным на навуковую аўдыторыю. Ясна, што стварэнне навуковых выданняў упіраецца ў тое, што асноўны корпус усіх нашых рукапісаў знаходзіцца за межамі Беларусі.

Акрамя акадэмічных, патрэбныя і навукова-папулярныя выданні, разлічаныя на больш шырокае кола чытачоў, і вучэбныя — для студэнтаў, і нарэшце ў папулярныя выданні. Бяда ў тым, што ў нашай археаграфіі не праведзена дакладная мяжа, чым яны адрозніваюцца між сабой, таму кожны выдавец і даследчык часта сам для сябе вызначае вобраз чытача, на якога працуе.

**Вячаслаў Чамярыцкі,** ***кандыдат філалагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі:***

— Сапраўды, улічваючы патрэбы грамадства, мы павінны рыхтаваць і навуковыя, і папулярныя выданні, а спецыялістаў па даўняй літаратуры сёння няшмат. Цяпер рыхтуем "Анталогію беларускай літаратуры" ў чатырох тамах, у якой многія тэксты будуць надрукаваныя цалкам. Першы том яе будзе складаць літаратура Сярэднявечча пераважна па спісах старажытнай рускай літаратуры, але якія бытавалі на Беларусі. Будзе таксама асобны том самых значных летапісаў і хронік у арыгінале — Баркулабаўскі летапіс, Хроніка Вялікага княства Літоўскага, Летапісец Вялікіх князёў літоўскіх, а таксама ўпершыню цалкам — Хроніка Быхаўца ў кірылічнай транскрыпцыі. Будзе і том, прысвечаны гісторыка-мемуарнай літаратуры. Не выдаваўся раней вельмі цікавы і з мастацкага, і з гістарычнага пункта гледжання "Дыярыуш" Самуіла Маскевіча. Будуць друкавацца і дзённікі Фёдара Еўлашоўскага. Том чацвёрты, хутчэй за ўсё будзе складацца з перакладных твораў, як "Аповесць пра Варлаама і Іасафа", якая была надрукаваная ў перакладзе на старабеларукую мову і выдадзена ў Куцейнінскай друкарні. Аляксеем Бразгуновым падрыхтаваны том даўняй паэзіі, ён у плане выдавецтва "Беларуская навука".

Увогуле ў нас шмат спадчыны, якая патрабуе перавыдання, як асобных тэкстаў, так і ў факсімільным выглядзе. Напрыклад, у "Беларускім кнігазборы" нядаўна выйшла кніга "Беларуская Троя, Трышчан, Александрыя" вельмі добра падрыхтаваная, тут і арыгінал, і пераклад, і грунтоўны каментар, хацелася б, каб яны працягвалі такога кшталту выданні. А што да факсіміле, то я б парадаваўся, калі б такім жа чынам, як Слуцкае, выдалі і Лаўрышаўскае Евангелле.

**Галіна Кірэева,** ***загадчыца навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі*:**

— Як прадстаўнік бібліятэкі, магу сказаць, што мы ўсведамляем праблему факсімільных выданняў. Самы яркі прыклад факсіміле — гэта выданне Архангельскага Евангелля 1920 года, калі поўнасцю былі ўзноўленыя ўсе асаблівасці экземпляра — папера, малюнкі, пераплёт і нават дзірачкі, якія ў ім праелі жучкі. Неспецыяліст можа лёгка прыняць такую кнігу за арыгінал. Яўген Неміроўскі калісьці казаў, што гэтую ступень факсімільнасці ніхто ў нас яшчэ не змог пераўзысці. Таму Слуцкае Евангелле, зразумела, нельга лічыць факсіміле, гэта хутчэй выданне факсімільнага тыпу.

Я, напрыклад, за тое, каб факсімільнае выданне выходзіла абавязкова з навуковым каментаром, у ідэале так, як у 1994 годзе быў надрукаваны Радзівілаўскі летапіс.

Сёння бібліятэка асвойвае новы від — факсімільныя электронныя выданні, мне здаецца, гэты тэрмін ужо праваменра ўводзіць ва ўжытак. Напрыклад, да 500-годдзя першай кнігі Францыска Скарыны Псалтыр, якая была надрукавана ў Празе 6 жніўня 1517 года, плануем выдаць на дыску збор прац Францыска Скарыны. Выданне Слуцкага Евангелля ў свой час таксама было ініцыіравана нашай бібліятэкай. Мы выдалі дыск, на якім была і электронная копія самога Слуцкага Евангелля, а таксама бібліяграфія, гісторыя рукапісу, музычнае суправаджэнне. У межах праграмы "Radziviliana" выдалі шэраг дыскаў: "Творы аўтараў з роду Радзівілаў", "Камедыі і трагедыі" Уршулі Радзівіл і "Іканаграфія Радзівілаў" са знакамітым альбомам з партрэтамі Радзівілаў "Icones..." (у нас, праўда, перавыданне Санкт-Пецярбургскае XIX стагоддзя).

Мы выдалі таксама дыск прысвечаны бібліятэцы Храптовічаў. Выдалі дыск, прысвечаны Францішку Багушэвічу, на якім змешчаны электронныя копіі трох выданняў "Дудкі беларускай". У планах цяпер праекты па бібліяграфічнай рэканструкцыі бібліятэк Сапегаў, а таксама Каладзеева — гэта сапраўды унікальная і малавядомая бібліятэка, прысвечаная вайне 1812 года.

А што, на маю думку, варта выдаць? Ну, напрыклад, мы хацелі б выпусціць на дыску адзін са старэйшых рукапісаў нашых фондаў — "Арыстоцелевы вароты", усяго 86 лістоў, датаваны першай чвэрцю XVI стагоддзя і напісаны на старабеларускай мове (а мы ведаем, што вельмі мала свецкіх рукапісаў па-старабеларуску захавалася на тэрыторыі нашай краіны).

Таксама было б добра факсімільна выпусціць зборнікі "Маладняка". Патрэбныя і літаграфіі Формана, з відамі старога даваеннага Віцебска 1930-х гадоў, яны ніколі не ўзнаўляліся. Ды і "Вянок" Максіма Багдановіча выдадзены рэпрынтна, а можна было б выдаць наш экземпляр з аўтографам, бо калі бачыш почырк самога Багдановіча — такі акуратны, гімназічны — таксама ствараецца пэўная аўра кнігі.

Увогуле вельмі патрэбная агульная дзяржаўная праграма па выданні факсімільных помнікаў нашай літаратуры, на пачатку 1990-х былі такія спробы, якія, праўда, нічым не скончыліся.

**Мікалай Нікалаеў:** Мне здаецца, агульная дзяржаўная праграма не мае сэнсу, таму што кожнае выдавецтва ўсё адно робіць сваё. На маю думку, павінна быць добрая каардынацыя некалькіх праграм. І хто возьме гэтую каардынацыю — цяжка сказаць, можа быць, нават не сама дзяржава, а мас-медыя.

**Саша ДОРСКАЯ**



## Уладзімір Якутаў

Пасля працяглай хваробы, на 84-м годзе жыцця, памёр вядомы празаік і публіцыст, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, кандыдат гістарычных навук, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Якутаў Уладзімір Дзмітрыевіч.

Нарадзіўся будучы пісьменнік і гісторык у вёсцы Рацькава Ушацкага раёна Віцебскай вобласці. У гады Вялікай Айчыннай вайны быў у партызанскім атрадзе брыгады "Няўлоўныя". Пасля вызвалення раёна савецкімі войскамі добраахвотна пайшоў на фронт. Прымаў удзел у вызваленні Польшчы. Чатыры разы быў паранены. Інвалід Вялікай Айчыннай вайны I групы. Узнагароджаны ордэнамі "Айчыннай вайны" I ступені, "Чырвонай Зоркі", медалямі "За адвагу" (двойчы), "За ўдзел у гераічным штурме і вызваленні Варшавы", "За Перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941 — 1945гг." і многімі іншымі.

Пасля дэмабілізацыі працаваў сакратаром Булаўскага сельсавета Полацкага раёна (1945 — 1946). У 1946 годзе быў накіраваны ЦК камсамола ў Літву, дзе працаваў сакратаром валаснога камітэта камсамола, інструктарам райкама партыі (1946 — 1961).

Скончыў гістарычны факультэт Вільнюскага універсітэта (1954). У 1961 годзе пераехаў у Мінск. Працаваў адказным сакратаром рэспубліканскага таварыства "Веды", намеснікам дырэктара па культрабоце тэхвучылішча № 53 (1961 — 1963), старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ (1963 — 1973), старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі АН Беларусі (1973 — 1990). Узначальваў культурна-творчую фірму "Русь Белая".

Літаратурную творчую дзейнасць У.Якутаў пачаў у 1962 годзе. Ён аўтар многіх апавяданняў, аповесцяў, біяграфічных нарысаў пра беларускіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў (Д.Валковіч, М.Галадзед, З.Жылуновіч, П.Машэраў, С.Прытыцкі, А.Чарвякоў, А.Лукашэнка). Асаблівай чытацкай увагай карысталіся яго кнігі "Віхурны досвітак" (1983), "Приговор века" (1990), "Сергей Притыцкий: Страницы биографии" (1991), "Академическая сюита" (1992), "Пётр Машеров" (1992).

З жыцця пайшоў шчыры, таленавіты пісьменнік, уважлівы, дасведчаны гісторык, верны сын роднай зямлі, цікавы суразмоўца, мудры, разважлівы чалавек, сапраўдны патрыёт і грамадзянін. Такім ён назаўсёды застанецца ў памяці тых, хто яго ведаў, з кім ён працаваў.

Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць у сувязі са смерцю пісьменніка, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны ЯКУТАВА Уладзіміра Дзмітрыевіча і выказваюць шчырыя спачуванні родным і блізкім нябожчыка.

Калектыў РВУ "Літаратура і Мастацтва" выказвае шчырыя спачуванні дырэктару вытворча-выдавецкага рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Дом прэсы" Віталію Аляксеевічу Назаранку з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці МАЦІ.

**Эрнест ХЕМІНГУЭЙ (1899–1961) – сусветна вядомы амерыканскі празаік ХХ ст. Аўтар шматлікіх апавяданняў, раманаў, эсэ, кніг дакументальнай прозы. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1954), Пулітцэраўскай прэміі (1953). Прызнанне і славу яму прынеслі кнігі “Бывай, зброя!” (1929), “Па кім звоніць звон” (1940), “Стары і мора” (1952). “Вельмі кароткае апавяданне” – узор лапідарнага, ёмкага хемінгуэеўскага стылю.**



# Вельмі кароткае апавяданне

Адным спякотным вечарам у Падуі яго вынеслі на дах. Адтуль можна было разгледзець увесь горад. Перад вачыма лёталі ластаўкі. Хутка пачало сутонець і ўключыліся ліхтары. Усе астатнія, забраўшы з сабою бутэлькі, спусціліся долу. Пазней, з балкона ніжэй, да яго і Луз пачалі даносіцца іхнія галасы. Луз села на ложак. Яна была бадзёрай і свежай, не зважаючы на спякотны вечар.

Луз брала начныя змены на працягу трох месяцаў. Яны гэта з радасцю дазвалялі. Калі яго аперыравалі, ля аперацыйнага стала ўвіхалася акурат яна; у той час, калі яны ўзгадвалі жарт пра „ката клізмы“. Калі ўводзілі наркоз, ён намагаўся захаваць празрыстасць розуму, каб пад уздзеяннем лекаў не навярзці чаго дурнога. Калі палепшаў і ўжо мог хадзіць на мыліцах, разносіў градуснікі, каб Луз магла трохі даўжэй адпачыць. Яны на гэта пагаджаліся, бо заставалася ўсяго некалькі пацыентаў. Луз любілі ўсе. Ён сноўдаўся па калідорах, а ў вачах стаяла карцінка – Луз у яго ным ложку.

Перад яго ным вяртаннем на фронт яны зайшлі памаліцца ў „duomo[1]“. Там было змрочна, ціха, вакол сядзелі незнаёмыя ім людзі. Яны хацелі пабрацца шлюбам, але на запаведзі не ставала часу, тым больш у іх не было пасведчанняў пра хрост. Яны і так ужо лічылі сябе сужэнцамі, але жадалі, каб пра гэта даведаўся ўвесь свет, а больш за тое, не хацелі згубіць таго, што паміж імі было.

Луз напісала шмат лістоў, якіх ён аднак не атрымаў ажно да падпісання міру. У казарму прыйшла звязка з пятнаццаці канвертаў. Ён расклаў іх па датах і тут жа перачытаў. Усе былі пра шпіталь, пра моцнае каханне, пра тое, як без яго цяжка, ды як па начах яе сэрца разрываецца ад суму.

Пасля перамір’я яны пастанавілі, што ён мусіць вярнуцца дадому і знайсці сабе нейкую працу, каб зарабіць на вяселле. Луз адмаўлялася ехаць з ім, пакуль у яго не будзе пэўнага занятку, і пакуль не зможа прыехаць па яе з Нью-Йорка. Было ясна, што ён не будзе выпіваць, і што не мае ніякага жадання пабачыць у Штатах ні сваіх сяброў, ні іншага каго. Толькі знайсці працу і ажаніцца. У цягніку з Падуі ў Мілан яны сварыліся з-за нежадання разам і неадкладна вярнуцца дадому. Пры развітанні, на вакзале ў Мілане, яны пацалаваліся, так і не памірыўшыся.

Ён вярнуўся ў Амерыку на караблі з Генуі. Луз паехала ў Пардэнонэ, на адкрыццё бальніцы. Там было сумна і мокра, а яшчэ па мястэчку быў раскіданы вайсковы батальён. Калі ў гарадок, са сваёй хлюпотай і слатой прыйшла зіма, Луз пакахаліся з маёрам таго ж батальёна. Дагэтуль яна ніколі не сутыкалася з італьянцамі. Пазней напісала ў Штаты, маўляў, усё, што было раней — толькі дзіцячае каханне. Ёй было прыкра, і яна разумела, што ён наўрад ці зразумее, але ўсё ж разлічвала, што праз нейкі час ён зможа дараваць і нават будзе ёй удзячны, а яшчэ пра тое, што, цалкам нечакана, спадзяецца выйсці замуж вясною. Яна нязменна яго кахала, але толькі цяпер зразумела што ўсё гэта — толькі дзіцячае каханне. Яна зычыла яму вялікай кар’еры, і выказвала сваю поўную падтрымку. Яна ўпэўненая, што так будзе найлепей.

Маёр не ажаніўся з ёй ані вясною, ані ніякай іншай парою. Луз ніколі не атрымала адказу на ліст, дасланы ў Чыкага. Хутка пасля гэтага ён падчапіў вурзпель[2] ад прадаўшчыцы з універмага, хаця проста праязджаў на таксі праз парк Лінкальна.

Пераклаў з англійскай
Віталь ВОРАНАЎ

---

[1] Касцёл (італ.).
[2] Ганарэя.

**Сярод эстэтычных катэгорый “пачварнае” займае адно з найважнейшых месцаў. У часы антычнасці прысутнасць пачварнага ў творы лічылася абсалютна нармальным і нармаваным. Пасля азначанай сферы жыцця (якая існуе, ад яе нікуды не падзецца) адмаўлялі ў праве на існаванне. Адлюстраванне пачварнага, “нізкага” знікла з афіцыйнай літаратуры, перайшоўшы ў літаратуру неафіцыйную – фальклор, святочную абраднасць. Толькі з прыходам рамантызму ў літаратуру вярнуўся, скажам так, змрок, які стагоддзямі драмаў у ёй пад спудам. У выніку з’явілася гатычная проза, паўзабароненыя “цёмныя” паэты. У сённяшніх “Даляглядах” атрымалася паяднаць творы і непаўторную танальнасць трох сусветна вядомых аўтараў: грубаватасць Хемінгуэя, пачварную прыгажосць “Падліны” Бадлера і гатычны змрок славутага “Крумкача” Эдгара По. Кожны з іх быў адзінкавай з’явай, але сёння мы паспрабуем аб’яднаць іх у трыяду. Што з гэтага атрымалася – вырашаць чытачу.**

**Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ**

**Шарль БАДЛЕР (1821–1867) – класік французскай паэзіі ХІХ ст., адзін з родапачынальнікаў дэкаданснай сімвалістычнай паэзіі Францыі. Найбольш вядомы зборнік – “Краскі зла” (1857), які адразу ж быў забаронены ўрадам і спалены. Выдаў таксама кнігу вершаў у прозе “Парыжскі сплін”(1860). Пры жыцці быў шырока вядомы як крытык і мастацтвазнаўца, а таксама як перакладчык англамоўнай літаратуры.**



## Падліна

Ці мне не нагадаць той летні ранак Вам?
Між камянёў ішла сцяжына,
Раптоўна ад яе быў паварот, а там
Ляжала брыдкая падліна,

Распусна капыты ў далечыню задраўшы,
Уся – атрута ды смурод,
Так бессаромна ды нядбайна агаляўшы
Ў зялёным гноі свой жывот.

І сонца промнямі гніль тую палівала,
Дашчэнту каб яе спаліць,
Каб тое, што раней прырода паяднала,
Ізноў часцінкамі зрабіць.

І небасхіл глядзеў на той шкілет пыхлівы,
Што ружай пачынаў квітнець.
Смурод разліўся скрозь, і моцны, і імклівы,
І Вы ў траву не ўпалі ледзь.

Над чэравам раі мушыныя гулі,
А з чэрава лілася маса
Агідных чарвякоў, што поліўкай цяклі
Густой з ажылага каркаса.

Той вал спадаў і зноў да неба лез, блішчэў,
Нібыта з дзіўным ажываннем
Імкнулася ўгару пачварнейшае з цел,
Напоўнена цяжкім дыханнем.

Гучала ўсё вакол так дзіўна ды музычна,
Як вецер у цурчанні вод,
Як зерне, што далоняў сялянскіх рух рытмічны
Пускае ў новы абарот.

Абрысы сцёрліся ды падаліся сном,
Эскізам чарнавым, няўважна
На палатне ў куце забытым мастаком,
Як сувенір не дужа важны.

Занепакоены сабака за скалой
Таропіўся на нас у злосці,
Хвіліны ўсё чакаў ён найжаданай той,
Кавалак каб узяць ад косці.

Ды будзеце і Вы разносчыцай зараз,
Сумецце, трупная атрута,
Вы, сонца дзён маіх, вачэй маіх зара,
Вы, мой анёл, мая пакута!

І вас, прыгожая, шлях напаткае гэткі,
І Ваша спарахнее косць.
Вы пойдзеце ў зямлю, апранутая ў кветкі,
І прыпаўзе магільны госць.

Скажыце ж чарвяку, калі Вас пацалуе
І стане прагна паядаць,
Што згнілае любві навечна зберагу я
І вобраз боскі, і пастаць!

**Пераклаў з французскай**
**Андрэй Касцюкевіч**

**Эдгар АЛАН ПО (1809–1849) – класік амерыканскай літаратуры ХІХ ст. Найярчэйшы прадстаўнік амерыканскага рамантызму, адзін са стваральнікаў жанру дэтэктыўнага апавядання. Крытык, тэарэтык эстэтыкі (“Філасофія творчасці”, “Паэтычны прынцып”). Моцна паўплываў на станаўленне і ідэалогію дэкаданснай паэзіі рубяжа вякоў (Бадлер, Малармэ, Брусаў і інш.). “Крумкач” – самы вядомы паэтычны твор Эдгара По., на беларускую мову перакладаўся А. Мінкіным і В. Сахарчуком.**



## Крумкач

Уначы, парой панылай, калі з думкаю бяссілай
задрамаў я з мудрай кнігай, з важкай кнігай у руках, —
то ачуўся ўраз ад гуку, нібы нехта жвава стукаў,
быццам рэзка так застукаў да мяне нязваны страх.
“Госць, — падумаў я,— чакае за дзвярыма, а не страх.
Проста госцейка ў дзвярах”.

Ах, сваволіла прырода, выла ветрам непагода,
ценяў прывідных звыроды на падлозе паляглі.
Я чакаў з бясконцай далі, покуль цені бушавалі,
памяць пра Лінор хавалі за бязрадасных дні,
пра святую, што ў Эдэме, на аддаленай зямлі...
Згаслі тут яе агні.

Стылы шолах за парцьерай... Пашчу жах сваю ашчэрыў,
паланіў мяне між крэслаў, габеленаў, медных ваз.
З заміраннем сэрца, ціха, прашаптаў я, каб не крыкнуць:
“Гэта госць стаіць нязнаны за дзвярыма ў позні час,
проста госць таемны хоча быць са мной на гэты раз.
Проста госць у змрочны час”.

Акрыяўшы з перапуду, рады госцю, нібы цуду,
“Выбачайце, пан ці пані, ледзь расчуў у цемры вас,” —
гаварыў я з парываннем і з затоеным чаканнем,
і апраўдваўся дрымотай ля каміна ў позні час...
Толькі расчыніў я дзверы цемра ў дом пранікла ўраз.
Толькі цемра ў гэткі час.

Паланёны цемрай важкай, я стаяў і дыхаў цяжка,
думкі сноўдалі такія, нібы змеі з чорных нор;
доўга слухаў цішыню я – непадатную, густую,
як са змроку раптам чую слова цёплае: “Лінор!”
Гэта я шапнуў, а рэха адказала мне: “Лінор!”,
мне вярнула як дакор.

Разлпаваны гэтай стратай, зачыніўся, скрухай сцяты,
я, аднак, пачуў адразу за дзвярыма тарарам.
“Той жа стук, мацнейшы толькі! — думкі роспачнай іголкі
паімчаліся па нервах.— Той жа госць ранейшы там...
Не! То вецер з аканіцай усчынае тарарам.
Вецер – больш нічога там!”

Адчыніў я аканіцы — Крумкач выйшаў, як з вязніцы,
з цемры вонкавай панылай, азіраўца важна стаў.
Потым пырхнуў на Паллады бюст, усеўся аграмадай
з выглядам паважным, рады, мабыць, што мяне застаў.
Рады, што ў самотным доме чалавека ён застаў.
Сеў, нічога не сказаў.

І, ачуўшыся аднак жа, прыглядзеўся і заўважыў
я ўсю веліч гэтай птушкі, чорнай, як сама бяда.
І сказаў: “Твой выгляд страшны адначасна значны, важны,
называць цябе як скажаш, ці ёсць назва хоць адна?
Сярод тысячы найменняў ці ёсць назва хоць адна?
Каркнуў госць мой: “Пустата!”

Птушкі голас недарэчны паласнуў мяне, як мечам,
бессэнсоўнасцю нахабнай з галавы да ног абдаў.
Бо ўсім ясна, што не ў сілах птушка поўначчу панылай
турбаваць жытло чужое, як татарская арда.
Птушка, што на бюсце белым — рыхтык чорная руда.
Птушка з клічкай Пустата.

Ён сядзеў так нерухома, што здаваўся часткай дома,
гэты прыхадзень нязваны, пасланец начы нямой.
Крумкачыны дзюбай страшнай ён высмоктваў жыцці нашы
і нагадваў пекла пашчу пры канцы дарогі той,
што праходзім, каб дабрацца да канца дарогі той...
Каб назвацца Пустатой.

Здрыгануўся я ўсім целам, а Крумкач на бюсце белым
па-ранейшаму спакойна, нібы ён са мной на “ты”,
касавурыўся, старэча. О, навошта гэта стрэча
ў прыцемку Пуціны Млечнай, ва ўладарнасці бяды...
Адбылася так раптоўна ва ўладарнасці бяды!
Ды пад зоркай Пустаты.

Крэсла да яго пасунуў, разглядаў з ранейшым сумам,
разважаў, а крык ірваўся, з горла сіплы крык “Ратуй!
Развярні гаротны лёс мой, пакажы паляны, плёсы,
і распырскай, сонца, росы, адвядзі маю бяду.
Адвядзі, вярні на месца, як у рэчышча ваду!” —
Так крычаў я ў Пустату.

Што за дзіўная разлука, і за што такая мука —
не спасцігнуць мне давеку на сваім пякельным дне.
Толькі люстры промень цьмяны, толькі вечныя падманы
лезуць з памяці экрана, як Лінор душу кране.
Пра Лінор святая памяць як душу маю кране.
О, за што такое мне!

Падалося: серафімы выплывалі ў пасмах дыму,
на дыван сцякалі проста, як крынічная вада.
І спяваў я ў ачмурэнні, ды маліўся аб збавенні,
мільгацелі гукі, цені, піў я кубак свой да дна.
Піў любові непадзельнай медны кубак свой да дна.
Крумкач каркнуў: “Пустата!”

Пракрычаў я: “Згінь, пракляты! Дух пякельны, твае краты
згубілі ўсё на свеце, што люблю я з даўніх пор!
Хто цябе сюды паклікаў, што сядзіш у цьмяных бліках
ты на бюсце нерухома, каркаеш, як злы дакор?
Ты чаму адзін і той жа пасылаеш мне дакор?
Зыкнуў госць мой: “Nevermore!”

Паўтарыў я: “Згінь пракляты! Дух пякельны, твае краты
перакрыжавалі веру, веру даўнюю ў жыццё.
Ці ёсць Бог над гэтым светам або круціцца планета,
адзінокая планета адлятае ў небыццё?
Адлятае, як лістота з дрэў асенніх, як лісцё...
Божа, дай мне забыццё!”

“Пакідай мой дом самотны, доўжыць дай спакой дрымотны,—
я падскочыў, крыкнуў: – З ветрам ты ляці ў начны прастор!
Ані пёрка, ані духу не пакінь сваіх, каб скруха
не вярнулася і вуха, каб не чула з гэтых пор,
пра цябе не чула вуха анічога з гэтых пор!”
Каркнуў госць мой: “Nevermore!”

Ён сядзіць дагэтуль, вечна. За акном Пуціны Млечнай
зоркі ззяюць. Іх не бачу. У гаркавую ваду
апускаю сны і мроі. А Крумкач сваім спакоем
заварожвае і поіць, корміць ён маю нуду.
Дэман, што ў абліччы птушкі, думу думае адну –
каб глядзеў я ў Пустату.

**Пераклад з англійскай**
**Міхася ЮЖЫКА**





# У госці да ваўкалака

**Аматараў гістарычнай рэканструкцыі часта ўспрымаюць як дзіўных людзей не з гэтага свету, якія спрабуюць схавацца ад будзённасці за штучнымі дэкарацыямі гісторыі. Калі чалавек уступае ў клуб рэканструктараў, ён сапраўды цалкам змяняе ўспрыманне сябе і рэчаіснасці, здабывае новых таварышаў, аднадумцаў, атрымлівае магчымасць і свет паглядзець, і сябе паказаць з новага, нечаканага ракурсу.**



Народны клуб гістарычнай рэканструкцыі "Варгенторн", што месціцца ў Цэнтры культуры "Віцебск", дзейнічае ў горадзе над Дзвіной з 2005 года. Яго арганізавалі людзі, сапраўды апантаныя ідэяй аднаўлення вобразаў нашых продкаў, — Аксана Лісавіцкая, Андрэй Семянюк і Сяргей Бабенка.

"Назва "Варгенторн" складаецца з дзвюх частак: "варг" і "торн", — тлумачыць Андрэй Семянюк. — "Варг" са старашведскай мовы перакладаецца як "воўк", але не звычайны воўк (вульф), а ваўкалак, пярэварацень. "Торн" — вежа, бо памяшканне клуба знаходзіцца на сёмым паверсе ЦК "Віцебск", і ўздымацца сюды трэба па вузкай лесвіцы, як у вежу. Вось і атрымліваецца "Вежа ваўка".

Выбару менавіта ваўка як татэма клуба існуе некалькі абгрунтаванняў: у дружыннай культуры варагаў і скандынаваў (а менавіта варажскую наёмную дружыну на службу Полацкіх і Віцебскіх князёў тут рэканструююць) шанавалі ваўка, мядзведзя. Паводле легенды, самаахвярныя воіны ў час бою ператвараліся ў гэтых моцных жывёл. Варта прыгадаць Полацкага князя Усяслава Чарадзея, і стане зразумела: для беларускай культуры гэта таксама блізкі вобраз, асабліва варг, чалавек-воўк.

Першапачаткова члены клуба займаліся рэканструкцыяй касцюмаў і ўзбраення эпохі вікінгаў. Гэта было вельмі рамантычна і на той час модна (у рэканструкцыі, як ні дзіўна, таксама існуе свая мода). Затым звярнулі ўвагу менавіта на варагаў, тых вікінгаў, што былі на Русі. Прыходзілі новыя людзі, прапаноўвалі свае ідэі. Паступова клуб стаў займацца рэканструкцыяй касцюмаў крывічоў і латгалаў (яны таксама жылі ў прыдзвінскім рэгіёне). Узнавіць касцюмы крывічоў аказалася вельмі складана: мала захавалася ўзораў аўтэнтычнай тканіны.

Для таго, каб прадэмастраваць гораду вынікі сваёй працы, "Варгенторн" часта ладзіць выступленні, на якіх паказваюцца гістарычныя мініяцюры створаныя на аснове ўрыўкаў са скандынаўскіх сагаў. Ёсць у клуба і свой спектакль "Княгіня Вольга", у якасці пралога да якога выступае легенда пра заснаванне Віцебска.

З 2007 года клуб займаецца гістарычнымі танцамі, ірландскімі і шатландскімі. "Наша школа ірландскага танца з'яўляецца адзінай у Віцебску афіцыйна зарэгістраванай у W.I.D.A. (сусветная асацыяцыя ірландскага танца), усяго ж ў Беларусі існуе 6 такіх школ. Танцы робяць нашы выступленні больш каларытнымі і дазваляюць пацвярджаць рэканструктарскую завядзёнку: хлопцы ходзяць на фехтавальныя турніры, бугурты, дзяўчаты ж гатуюць, займаюцца рукадзеллем і танцуюць", — тлумачыць Аксана Лісавіцкая.

Але члены клуба не проста "займаюцца рукадзеллем" і шыюць касцюмы, а спрабуюць аднавіць рамёствы: кавальства, кастарэзную справу, майстэрства працы са скурай, вязанне касцяной іглой. Усе тэхналогіі, што выкарыстоўваліся ў сярэднявеччы, захоўваюцца. "Неяк у клуб завіталі археолагі са Швецыі, — распавядае Андрэй Семянюк. — Мы разам удзельнічалі ў шведска-беларуска-латвійскім праекце "Панарама Дзвіна / Даўгава". Яны высока ацанілі нашы рэканструкцыі. Калі чалавек гаворыць: "Такую ж рэч я выкапала, як цудоўна пабачыць яе ў новым выглядзе" — гэта для нас найвышэйшая ацэнка".

Інтарэсы членаў клуба ўвесь час пашыраюцца, многае дыктуе сам горад. Калі археалагічныя раскопкі даюць плён, то і клуб просяць звярнуць увагу на пэўную эпоху, у Віцебску ж да XVI — XVII стст. мала што захавалася. Таму і "Варгенторн" мае задумку рэалізаваць праект па Віцебску XVII ст.

Не так даўно клуб выдаў унікальны для Беларусі набор паштовак "Шляхамі гісторыі", на якіх змешчаны рэканструяваныя вобразы жыхароў Беларусі, Паўднёва-Усходняй Прыбалтыкі і Скандынавіі эпохі вікінгаў. Мадэлямі, чые фота можна пабачыць на паштоўках, сталі самі члены клуба. Назва "Шляхамі гісторыі" выбрана невыпадкова, адзін са шляхоў — ранняе сярэднявечча — "Варгенторн" ужо амаль прайшоў; XVII ст. стане новым шляхам, калі будуць рэалізаваны задумкі. Нельга забывацца і пра шлях з варагаў у грэкі, які таксама мае важнае гістарычнае значэнне. Выданне паштовак такога кшталту — адзін са спосабаў папулярызацыі гісторыі ранняга сярэднявечча. Пакуль яны існуюць толькі як сувенір, падарунак, і з-за малога накладу ўжо сталі рарытэтам. "Нам было б вельмі прыемна, калі б настаўнікі гісторыі выкарыстоўвалі нашы паштоўкі для тлумачэння новага матэрыялу на ўроках. У той жа час мы знайшлі добры спосаб паказаць вынікі працы клуба: рэчаў многа, але памяшканне не дазваляе паказаць усё", — адзначае Аксана Лісавіцкая.

Клуб з'яўляецца пастаянным удзельнікам фестываляў сярэднявечнай культуры і музыкі ў Беларусі, Расіі, Польшчы, Украіне, Латвіі, Нарвегіі, што дазваляе яго членам наведваць новыя краіны, заводзіць цікавыя знаёмствы. "На фестывалі, дзе многа турыстаў, якія ўвесь час задаюць пытанні, звяртаюцца з просьбамі расказаць, паказаць, сфатаграфавацца, поўнага адасаблення ад рэчаіснасці ў любым выпадку не атрымаецца, — разважае Аксана Лісавіцкая. — Да таго ж увесь час знаходзішся сярод вялікай колькасці людзей, цябе шмат фатаграфуюць, і калі ў чалавеку няма цвёрдага стрыжня, або ён не выхавае яго ў сабе, ён можа сарвацца... Схавацца ад людзей і рэчаіснасці немагчыма, праз удзел у фестывалях і паказальных выступленнях нават больш шырока выходзіш на зносіны з імі. Тыя члены клуба, што раней не маглі выступаць на публіцы, перамагаюць сябе і выходзяць у залу на 1100 чалавек."

Клуб "Варгенторн" сёння складаецца з 40 чалавек рознага ўзросту і розных прафесій. Не ўсе яго члены маюць гістарычную адукацыю, але апантаныя заняткі рэканструкцыяй зрабілі сваю справу: усё радзей і радзей на пытанні адказвае Сяргей Бабенка, гісторык-кансультант, адзін з заснавальнікаў "Варгенторна". У клубе людзі не толькі паглыбляюць свае веды, але і вучацца дысцыпліне (ёсць усё-такі іерархія, якая залежыць не ад узросту, а ад часу знаходжання ў клубе), вучацца наладжваць адносіны з людзьмі. За адным сталом могуць працаваць вучань і настаўнік, рабочы і магістр мастацтвазнаўства, і кожны з іх не проста займаецца сваёй справай, а ўдзельнічае ў працэсе камунікацыі. Усе члены клуба розныя, але аб'яднаны яны адной ідэяй — любоўю да рэканструкцыі, да ранняга сярэднявечча. І займаюцца яны адной справай — па цаглінцы, па каменьчыку складаюць будынак нашай гістарычнай памяці.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымках: рэканструкцыя жаночага скандынаўскага касцюма другой паловы X ст.; рэканструкцыя камплекта строю паўднёварускага дружынніка, апранутага па варажскай модзе (канец X ст.); члены клуба "Варгенторн" падчас паказальнага выступлення.

Фота аўтара

## У наступным нумары

З шэрага публікацый нумара, прысвечаных 65-годдзю Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне, вылучаецца, бадай, інтэрв'ю з пісьменнікам Уладзімірам Федасеенкам. У 1942 годзе Уладзімір, 15-гадовы юнак, стаў партызанам атрада "Смерць фашызму!", увесну 1943-га — камандзірам дыверсійнай групы. Пісьменнік-ветэран узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны I ступені, Чырвонай Зоркі, медалямі "Партызану Айчыннай вайны" I, II ступеняў. Першы свой ордэн атрымаў… у 16-гадовым узросце. "Больш за ўсё ненавіджу зайздрасць. Яна з'ядае душу", — так выказаў сваё жыццёвае крэда пісьменнік-ветэран Уладзімір Федасеенка.

З глыбінкі

## Нізкі паклон табе, Бацькаўшчына!

Шмат цёплых сустрэч прынёс красавік. А вось для жыхароў Чашніччыны найбольш памятнымі сталі гэтыя — з мастачкай Вольгай Дзёмкінай. Некалі жыццёвыя шляхі-дарогі завялі таленавітую дзяўчыну далёка ад радзімы. Але ў думках і ў творчасці сінявокая айчына заўсёды з ёю.

"Кожнае спатканне з радзімай вельмі хвалюючае, — зазначыла Вольга Дзёмкіна падчас свайго візіту на зямлю продкаў, — гэта як выпрабаванне перад тымі, хто ведае цябе з дзяцінства, перад бацькаўшчынай..."

Сярод твораў В. Дзёмкінай — "Гімн жанчынам Палесся", "Дажынкі", "Нараджэнне", "Гуканне вясны", "Купалле", "Гімн лілеям", "Малітва". Туды, на далёкі Захад, яна прынесла сваю любоў да бацькаўшчыны. Ці не сіла гэтага пачуцця так ўражвае і француза, і немца, і амерыканца? Можа таму працы Вольгі Васільеўны са славянскай тэматыкай палюбіліся і прыжыліся на чужыне.

Асабліва ўражвае габелен "Гімн жанчынам Палесся". Работа прысвечана жудаснай Чарнобыльскай трагедыі і памяці сястры Святланы, стаўшай яе ахвярай. У выступленні перад землякамі Вольга Дзёмкіна назвала твор чорнай баладай пра ненароджаных дзяцей Палесся. У цэнтры яго — жанчыны з сярпамі, выкананыя ў чорным і чырвоным колерах. Гэта напамін пра тое, што страшэнны выбух на станцыі — стрэл ў будучыню.

Трапілі на выставу таксама партрэты бацькоў мастачкі, якія яна перадала ў музей Красналуцкай сярэдняй школы.

Убачылі чашнічане работы Дзёмкінай пра Тайланд, Альпы, Парыж. Але чым пільней угледаліся ў, здавалася б зусім незнаёмыя пейзажы, тым болей французскія вулачкі, далёкія горы і азіяцкія прасторы нагадвалі Беларусь.

Запомнілася землякам вельмі шчырая атмасфера: у немалой ступені гэтаму спрыяла прыгожая мілагучная мова госці. Па словах Вольгі Васільеўны, і на чужыне яна імкнецца як мага больш размаўляць па-беларуску.

"Дзе б я ні была, — такімі словамі развіталася з Чашніччынай шаноўная госця, — усё раблю для таго, каб ведалі: Беларусь, Віцебшчына — гэта не толькі тая краіна, дзе Напалеон згубіў сваю шапку ў Беразіне, гэта цэнтр Еўропы, радзіма Марка Шагала, Надзеі Лежэ і многіх-многіх таленавітых людзей..."

Ірына ТОРБІНА


Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"

РВУ "Літаратура і Мастацтва"







Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73

Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856
Наклад 3057
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 29.04.2010 у 11.00

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 1999

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12